# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

1933

ЛЮТЫ — САКАВІК

КНІГА ДРУГАЯ-ТРЭЦЯЯ

# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ Б. С. С. Р.

**КНІГА ДРУГАЯ**

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1933



НАРОДНЫ ПОЭТ ЯКУБ КОЛАС
(да 50-годзьдзя з дня нараджэньня)

Якуб Колас

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

## У ШПІТАЛІ

### XIX

Палошча лісьце стромкі топаль
У хвалях сонечных глыбінь.
Глядзіць у вокны неба сінь,
Зіхціць-струменіць зьяньне кропель
У ясна-багрыстым патопе,
Што наступае на Валынь.
Усьмешка сонечнага раньня
Дрыжыць, іскрыцца за акном.
Шпіталь яшчэ абняты сном.
Прывідны страх крывавых зданьняў,
Як хваравітае насланьне,
Складае вычварны разлом.
І часта той ці іншы хворы
У забыцьці ці проста ў сьне,
З гарачкі гутарку пачне,
Падасьць каманду, а каторы
Пад стогны, крыкі, разгаворы
Зубамі злосна скрыгане.
Дзяжа прачнуўся рана-рана,
Чуць дзень займацца стаў на сьвет.
Глядзіць—палатка-лазарэт,
Бальнічны пах б'е ў нос пагана.
Навокал з сорак душ сабрана —
Краса ваяцкая і цьвет.
Барыс палатку азірае,
Калег-суседзяй з двух старон.
Але ў якой-жа ролі ён?
І мысьль пякучая, старая
Яго зноў моцна забірае.
Да можа гэта толькі сон?
На жаль ня сон! І востра ўсталі,
Мут разганяючы, як дым,

І чэх і Насьця перад ім,
І гром гармат, і скогат сталі,
І ўсё, што здарылася далей,
І ўсё, што сталася прад тым.
І гэта злучнасьць зьяў-здарэньняў,
Крушэньне мар яго і кроз,
Што так нядаўна перанёс,
Знайшлі сваё і выражэньне
У горкім слове „паражэньне"...
Ну, што-ж? відаць такі ўжо лёс,
Суняць ён хоча горыч здрады,
Забыць той выпадак благі,
Настроіцца на лад другі,
А думкі—ў іх свае загады—
Яго нясуць у сад, прысады
На крыльлях смутку і тугі.
Але сьціраецца памалу
Сардэчных боляў вастрата...
Цяпер адзін ён, сірата.
Адной ілюзіяй менш стала.
Надзеі-мары растаптала
Чыясь варожая пята...
А дзень ідзе сваей чаргою,
Гучней бярэ свае правы,
А сонца з багны-сінявы
Жычліва матчынай рукою
Чароты песьціць над ракою,
Лясы, палі і паплавы.

Лагодны ветрык, бы той дбалы,
Руплівы хлопчык-пастушок,
Іграе ў срэбраны ражок
Ды гоніць хмаркі на прагалы
Бязьмежных далеч гонам сталым
На аксамітны муражок.

Пачаўся рух і за сьцяною
На мірных плошчах гарадка
Пад сьвіст залівісты гудка
Дзесь ціха, глуха стараною
У тон з санлівай цішынёю
Гурчыць павозка яздака.

Зьвініць налеўная гаворка
Жанчын вясковых і дзяўчат
На свой валынскі толк і лад,
А ў прыадчыненую створку,
Як срэбра сыплецца з надворку
Вясёлы шчэбет птушанят.

Акорды гамы, колісь чутай—
Цяпер яно дзесь на той бок—
Плывуць, даносяцца здалёк,
І перажытыя мінуты
З налётам ціхае пакуты
У сэрца мкнуць паўторны крок.
А тым-жа часам і палатка
Патроху стала ажываць,
І сям-там гутарка чуваць,
Заўвага крэпкая, нататка
З таго ці з іншага выпадку
Каб болей форсу захаваць.
Сям-там струменем кучаравым
Дымок расходзіцца ўгары.
Знаёмства, прыяцель стары,
Сустрэча, выпадак цікавы,
І разгаворы пра забавы
Шчасьлівай колішняй пары.
Зьмест іншых тэм—баі, раненьне,
Спачынак, доктарскі агляд,
Эвакуацыя назад,
Чыны, па службе павышэньне,
Надзеі тайныя, сумненьні.
На думцы-ж—далей ад гармат.
Ну, словам—тыл—іх прывілея—
Ніхто сабе ня мысьліць зла...
Увага, ша! сястра ўвайшла!
Сястрыца, белая лілея!
Палатка разам весялее,
Як вулей, дружна загула.
І вочы ўсе, як па загаду,
Як па камандзе—раз, два, тры!
Абарачаюцца к сястры—
Такую мае яна ўладу!
Сьмяецца ўсім, і ўсе ёй рады—
Дзяўчына—што ні гавары!
К таму-ж і стройна і прыгожа,
А разам з тым і малада,
А стрэльне вочкамі—бяда:
Яшчэ раз ранных раніць можа
І сівавусых—крый іх божа—
Зьвядзе з пуціны бяз труда.
З усіх куткоў ёй на сустрэчу
З лахматых, стрыжаных галоў
Бягуць, ляцяць патокі слоў,
І што ні слова, то да рэчы,
Адна ўжо постаць яе лечыць
І лепш за ўсякіх дактароў.

Адзін

Сястрыца, радасьць наша!

Другі

О, фэя добрая, ура!

Трэці

Благаславенна болйў чаша:
У ёй крыніцы ёсьць дабра—
Вы, мілая сястра!

Чацьверты

Што новага, сястрыца?
Як доўга быць тут нам?

Пяты

Мой рай—бальніца,
І век я быў-бы там,
Дзе ёсьць такая чараўніца.

А ёй ня нова гэта зьява,
І гэта стрэча, і парад,
І той вясёласьці зарад.
Яна глядзіць на ўсіх ласкава:
Хіба-ж пабачыць ня цікава,
Як кожны ранены ёй рад?
І проста, ветла і адкрыта
Пытае, хто прыбыў пазьней,
Ці быў у доктара ці не
І піша сьпісак дзелавіта,
А ў мысьлях тоіць штось нібыта,
Бы плян, надуманы раней.
Ды сэрца як пазнаць дзявоча
І тайны пульс яго згадаць,
Каб дзеўчай тайнай аўладаць?
Яна сама ідзе ахвоча
Да гэтых хворых, бо ня хоча
Іх непакоіць, турбаваць.
Падыдзе, спыніцца, спытае
Імя і прозьвішча і часьць,
Жычлівым поглядам абдасьць.
І гэты погляд, яснасьць мая,
Даўжэй, карочай затрымае,
А хворым—козыры пад масьць.
Дзяжа, настроены варожа
Па раду цэламу прычын
Супроць няверпасьці жанчын,
Глядзеў сурова з свайго ложа

І думаў—хоць ты і прыгожа,
Ды не кранеш мяне—амін!
І абмяркоўваў нават пляны,
Які павінен выгляд мець,
Каб халадней яе сустрэць.
А-ж тут яна нейк нечакана!
Зірнула хараша, аддана,
Як можа дзеўчына глядзець.
Спытала прозьвішча, зірнула.

Сястра

Барыс Міхайлавіч вы? Так?—

І на яе зірнуў юнак.
Усьмешка дзеўча прамільгнула
І сэрца жорсткае кранула,
І абязброен мой ваяк.

Дзяжа

А скуль вядома вам
Імя маё, сястрыца?

Сястра

Адказу я ня дам,
Бо гэта—таямніца.

Дзяжа

Мне-ж так і не дано
Вайсьці ў сьвятых сьвятое?

Сястра

Вы мысьліце адно,
А вынікне ня тое.

Дзяжа

Вы—піфія, даруйце мне, сястрычка:
Патрэбны тлумачы,
Каб мне тут памагчы,
Хоць кончык нітачкі убачыць невялічкі
І даць парады,
Як разгадаць загадкі і шарады.

Сястра

Прыду вам на падмогу:
Ня будзьце злы
І выйдзеце з імглы
На верную дарогу.



Дзяжа

А каб поўная гармонія была,
Спакой душы і сэрцу мір,
То дайце за адно ўжо і псалтыр,
Як шчыт, гарантыю ад зла.

Сястра

Вы ў настрою,
І гэта—добры знак,
Ды помніце аднак—
Было калісьці штосьць такое...
Зірнула хітра, пранікліва,
Кіўнула—ёй ісьці пара...
Што значыць гэта ўся ігра?
Інтрыжка? жарцік дурасьлівы?
І ён раздумвае маўкліва,
На што ківала тут сястра?
Сусед—паручык пазайздросьціў:
Аб чым-жа гэта наш герой
Шаптаўся доўга так з сястрой?
Няўжо пра любасьці-мілосьці?
І трошкі мучыўся ад злосьці,
Ну, проста зьнізіўся настрой.

Паручык

Знаёмая?

Дзяжа

Ня болей, як і вам.

Паручык

Аднак-жа час яе візыту,
Ды шапатком яшчэ прыкрыты
Гм!.. за сябе гаворыць сам.

Маргнуў паручык хітравата,
Якобы раскрыўшы тайну змоў—
Без тлумачэньня ясна, моў.
Але Барыс маўчаў зацята,
Сваімі мысьлямі заняты,
Каб сэнс уцяміць яе слоў.
І раптам думка, як зарніца
Узьлётам крыльляў агнявых
Расьсекла мрок у адзін міг,
І стала яснай таямніца:
Была-ж яшчэ адна „сястрыца“ —
Аб ім была гаворка ў іх!..

І як-жа гэта магло стацца —
Тут сам сябе ён пажурыў
За гэты памяці прарыў —
Забыць „сястрыцу“? забыць „брацца“,
Якім ня грэх пацалавацца?
Ну, як пра Галю ён забыў?
Другою сьцежкай пуцявінай
На украінскія палі
Яго развагі паплылі.
У сэрцы туляцца ўспаміны
Пра тыя слаўныя хвіліны,
Што разам з Галяй правялі.
І сама Галя, як жывая,
Яе даверлівасьць і страх
І шчырасьць ясная ў вачах,
Што гэтак хіліць, зазывае,
Цяпер у памяці ўсплывае
І гоіць боль яго зьняваг.
Успомніў ён і абяцаньне
Падаць ёй вестку аб сабе...
Вось дзе разгон яго журбе!
І ён, як нейкае літаньне,
Складае ў мысьлях ёй пасланьне
Пра свой замкнуты кругабег.
Прыблізна вось у якім тоне
Плыве, цячэ з душы само
Яго журботнае пісьмо,
Граніц ня знаючы ў разгоне:
„Мой любы друг, сястрычка Галя!
Я так пакінут, адзінок!..
Маё пісьмо—жальбы вянок,
Пакут суцэльныя скрыжалі,
І я цяпер гляджу бяз жалю,
Куды прычаліць мой чаўнок.
Быць можа мне і не да твару
Такім пісьмом вам дакучаць,
Ды цяжка, Галя, мне маўчаць,
Насіць, таіць атруты чару,
І я вас выбраў, як ахвяру,
Каб зьняць маўклівасьці пячаць.
Калі я ў мысьлях кіну вокам
На ўсе падзеі гэтых дзён,
Яны ўстаюць, як цяжкі сон,
Працяты жудасьцю і мрокам...
Як сьвежа ўсё, а як далёка
Гучыць прыглушаны іх звон!..“
Але ў разгар натхненнай плыні
Пачуцьцяў, вобразаў і слоў

Сястра ідзе сюды ізноў
І бег лірычных думак пыніць,
Чытае сьпісак з важнай мінай,
Не прапускаючы чыноў.
Чыны і прозьвішчы, імёны...
У сьпіску тым і мой герой.
Лірызм прапаў. Другі настрой.
Другая песьня ў іншых тонах,
Асоб, у сьпіску памянёных,
Чакае доктарскі пакой.
Дзяжа крыху усхваляваны
Надзеў свой больнічны халат
Ды йдзе на доктарскі агляд,
Нясе кантузіі і раны,
А-ж тут выпадак нечаканы—
Сястра... заве яго у сад!
Ну, як такой сястры пярэчыць?
І ня мужчына быў-бы той,
Калі-б ёй раптам даў адбой.
К таму-ж яшчэ, сказаць да рэчы,
Якраз аб гэтакай сустрэчы
У думках марыў мой герой.
І ён забыў настрой самотны
Лірычны тон і дактароў,
Пачуўся нават, што здароў.
З сястрой у сад ідзе ахвотна
Прыгодам сэрца мімалётным
Аддаць падатак ён гатоў.
Сястра-ж спытала мімаходам

Сястра

Скажэце праўду: што цяпер
У вас на мысьлях, кавалер?

Дзяжа

Я думаю—прыемная прыгода,
Але жанчынам
Ня вер ніякім чынам
Сястры—і то ня вер!

Сястра

Ня надта мілае сьцьвярджэньне...
На чым заснована такое заключэньне?
І погляд гэтакі пануры?

Дзяжа

На хісткасьці жаночае натуры.

Сястра

Ну, песенька старая!..
На тысячы сьпявалася ладоў.
Як людзям, ёй гадоў.
Ці стойкая-ж сама натура тая,
Што песеньку старую паўтарае?

Яна закінула галоўку
Ды зазірнула ў вочы тая,
Што мой герой зусім адмяк,
Забыць гатовы забастоўку
І тон свой строгі, устаноўку,
Ды ў рукі ўзяў сябе аднак.

Дзяжа

Ня так багаты гэтым дарам,
Каб мог працівіцца я вашым чарам.

Сястра

Каторы-ж раз
Сьпяваеце на гэтыя матывы?

Дзяжа

Сястрыца! скептык вы на дзіва
Не разгадаю вас.
Адно магу сказаць:

Сястра

На язычок вастра,
Вузельчыкі-ж яе ня лёгка разьвязаць,
Каб разгадаць яе сакрэты і намёкі.

Сястра

Разгадка-ж ім зусім тут не далёка.

Дзяжа

Час з часу не лягчэй —
Канца няма палону!..
Рассуньце-жа хутчэй
Таемнасьці заслону!

Сястра

Даруйце мне, што я вас інтрыгую,
Але ня вінна ў гэтым я—
Такая місія мая.
Ідзеце-ж унь туды—убачыце другую:
Яна разгадка недаказу
І ясна ўсё вам стане зразу—

І на альтанку паказала.
Там, у цяні купчастых ліп,
Туліўся круглы стол, як грыб.
Бародка зелені прыўдала
Наўскруг вілася ўскрай прагалу,
Прыгожа тулячы агіб.
Зірнуў пад шаты лісьцяныя,
І бачыць зьдзіўлены Барыс
Дзявочай постаці абрыс,
І сэрца ў нейкім смутку ные
Ды мкне яго пад сховы тыя,
Дзе спушчан зелені карніз.
Ступае крок, ідзе нясьмела.
Ён тут адзін, няма сястры —
Сястра дзесь зьнікла ў гушчары.
Глядзіць, спыняецца зьнямелы:
Яна ці здань ў адзеньні белым?
Прывід мінулае пары?

Дзяжа

Насьця, ты?

Насьця

Барыс, мой любы, залаты!..
І больш чакаць яна ня ўсіле,
Стрымаць ня можа свой парыў,
Сама бяжыць на той прызыў,
Усё забыўшы ў гэтай хвілі,
І да яго яе ўсю хіліць
Бяздумнай радасьці прыліў.
Падбегла, рукі палажыла
Яму на плечы згарача,
Упаўшы тварам да пляча.
Хіба-ж таго не заслужыла,
Каб ён зірнуў ласкава, міла
З даўнейшай прыязьню ў вачах?
А ён адводзіць яе рукі
І адступае крок назад.

Насьця

Ты мне ня рад?
Зьнімі-ж з мяне хоць мае мукі
Ды дай пачуць мне тваё слова
І ня судзі мяне сурова!

Дзяжа

Судзіць? а за што, Насьця?
За тое, што другі

Табе больш блізкі, дарагі?
Хто-ж можа сэрцу прыказаць
Да мілага пуціны завязаць,
Праграму сэрцу скласьці?
Ты вольна ў выбары сваім...
Канец ілюзіям пустым!
А тое, што было,
Травою зарасло,
Разьвеяна, як дым...
Я крыж паставіў над былым,
І да яго няма звароту!

Насьця

Няма?.. І гэта ўсё? і больш нічога
Не засталося ад былога?
Яго ты кінуў, як дуроту?

Дзяжа

Не: ў спадчыну пакінуты руіны
Разьбітых мар у выцьвіўшай красе,
І іх вятруга растрасе,
І будзе цень адна—ўспаміны.

Насьця

І ня спытаеш ты мяне,
Чым я жыла, чым я жыву?
Які цяжар мне паў на галаву?
І смутак мой цябе ўжо не кране?

Дзяжа

Я верыў, Насьця, твайму смутку,
І гэты смутак мяне вёў
Між сьмерці, трупаў і дратоў.
Каго-ж знайшоў я? баламутку,
Каб не сказаць яшчэ і горай,
Ды каханка яе ў шпорах.

Насьця

Ну, што-ж? хай буду вінавата,
Але ці зьмерыў ты маю віну?
У сэрца мне ці зазірнуў
Вачамі друга, брата?
Ды не апраўдвацца прышла я,
Не для таго, каб зноў цябе вярнуць,
Бо сэрца не крануць,
Калі яно каханьнем не палае.
Адно мяне таміла

І мучыла бяскрайняю журбою—
Няведаньне, што сталася з табою,
Ты зьнік, як немая магіла.
Цяпер-жа я шчасьліва ўжо і тым,
Што я цябе знайшла і цэлым і жывым.
Што больш казаць?.. Бывай
І ліхам ты мяне не памінай
Ды аба мне ня думай ты фальшыва.

Дзяжа

Ідзеш?

Насьця

Іду. Бывай шчасьлівы!

Дзяжа

І гэта ўжо—канец,
Трагічны міг разьвязкі?

Насьця

Ня трэба вымучанай ласкі:
Яна—цярновы мне вянец
І чарка горычы, налітая праз край.

Дзяжа

Мяне ты пакідаеш?

Насьця

Ты гэтага жадаеш.
Бывай!
І борзда цьвёрдаю ступою
Пашла Настуся між прысад,
Не азірнуўшыся назад,
А ён з зацятасьцю тупою
Стаяў з паніклай галавою
І разважаў, хто вінават.

Кастрычнік 1932 г.

**Сымон Баранавых**

# АБРУБАК

(Апавяданьне)

## I

Трамвайныя званкі згубіліся сярод гарадзкіх будынкаў і вуліца была парожняя, марозна-звонкая. Сьнег на вуліцы быў колеру пакрэмзанага срэбра—праразьліва бліскучым—такім, як піск, калі працягнуць цьвікам па блясе. Вартавы міліцыянер Крэўчык адчуваў золкасьць вечару і хвіліны ішлі па вуліцы маруднаю хадою.

— Хутчэй-бы зьмена,—пераступаў Крэўчык з адной нагі на другую. От-жа засну... Ухутаюся цёплаю коўдраю... Чай буду піць, ці ня буду?—ня буду. Так, бяз чаю павячэраю. Позна-ж вельмі... пакуль яго загатуеш...

Зьмену сёньня дае Крэўчыку таварыш Махоўскі і ён пастукваў нагою аб нагу, варушыўся, а Махоўскага ня было. От ужо дзесяць хвілін адышло пасьля двох удараў гадзіньніка з гарацкой вежы. На ўме Крэўчык трымае пра таварыша Махоўскага:

— Чалавек—спраўны. Ніколі—каб ён пазьніўся?

Крочыў то назад, то наперад і другія думкі насіў з сабою:

— Мала што затрымала хлопца... Хай... Я яго, таксама, зьмяню...

І калі сьнегам скрыпеў роўным звагам—пачуў ляскат конскіх падкоў: ехаў рамізьнік з другой вуліцы.

— Як позна разьезды нехта любіць,—памысьліў Крэўчык.

А рамізьнік крок зьменшыў і да яго пад'ехаў.

— Гэта ты...—пачуў голас Махоўскага з вазка і радасьць міжвольная прабегла ў Крэўчыка. Хацеў пажартаваць над Махоўскім, што панам зрабіўся, на зьмену прыязджае на рамізьніку.

А Махоўскі, вылазячы з вазка:

— Чалавек от... бяз ног. Абрубак. Іду, а ён ня можа ўзьняцца: бяз ног і п'яны.

Падышоў да Крэўчыка ды:

— Можа, нават, і не п'яны. Ня ведаю што з ім. Па маему—у бальніцу яго завесьці. Дык от я і затрымаўся... завязі яго: табе-ж нават і па дарозе.

Ня супярэчыў Крэўчык: рад быў начной зьмене. І ўпраўду: яму-ж па дарозе.

Ноч была, як забеленая малаком. На галоўную выехалі вуліцу і ліхтары электрычныя адзін перад другім прыгаршчамі расплёхвалі сьвятло.

Крэўчык перш мала ўвагі аддаў чалавеку, што маўкліва маўчаў прытуліўшыся да задка развалак. «Нешта-ж зрабілася з ім»,—развабажаў Крэўчык. А калі сьвятло разьлілося густым натоўпам—кінуў міжвольны позірк на чалавечы твар і дзіву даўся:

— Вінцер... таварыш Вінцер!..—вачам ня верачы, ускрыкнуў Крэўчык.

Хто ня ведае ў горадзе партызана Вінцера? яму, на вайне з белымі бандамі, бомбаю адарвала нагу і руку. Вялікую пашану носіць Вінцер ад сваіх знаёмых. Ён ня раз апавядаў, як змагаўся іхны полк з белымі бандамі на Украіне. Колькі адвагі меў іхны полк, каб нашчэнт разьбіць белую банду атамана Ліха.

— І разьбілі...—казаў Вінцер. Толькі вось нага, ды рука—тамака засталіся. Ды нічавусенькі. Шчэ, калі трэба будзе—паваюем.

Конь бег рысьсю, а Крэўчык катурхаў Вінцера, пытаўся:

— Як-жа гэта... што з табою?

Паварушыўся Вінцер, галаву узьняў, поўнымі вачыма зірнуў—спазнаў:

— Братка, Крэўчык... ты гэта я...—крышачку... ага. Сустрэўся з-з-з з другам, што некалі хадзілі на белых—ха-ха-ха... і крышачку. Хай бог і савецкая ўлада даруюць мне. Крышачку...

Шкода стала Крэўчыку, што так вышлася яно з таварышам Вінцерам. Другая думка запала ў галаву і ён зьвярнуўся да рамізьніка:

— Да мяне, калі ласка.—Ня слухаў Крэўчык блытаных слоў Вінцера.—Бязыменны завулак, дом нумар дваццаць два.

Крэўчык развалажаў:

— Паначуе ў мяне, прасьпіцца, а на раніцу—падзяку зробіць.

На Безыменным завулку ў сваім пакойчыку пражываў Крэўчык, адзін адным. Невялічкі пакойчык, але ўтульны, цёплы. Толькі ўзыходзіць трэба аж на трэці паверх—засапешся, калі подбегам будзеш узыходзіць. Крэўчык шмат набраўся-б гора—клопату праз Вінцера, каб рамізьнік дапамогі не зрабіў.

— От і добра...—пасьля паўгадзіннай валтузяніны пасадзіў Крэўчык Вінцера ў сваім пакоі на канапу.

Рамізьнік пайшоў, а Крэўчык пазіраў на Вінцера, слухаў яго мармытаньне і яшчэ больш было яму шкода гэтага чалавека.

— Бедны...—сьлізгалася думка ў Крэўчыка.—Гаротны... Што зрабіла вайна...

Падушку паклаў на канапу, палажыў Вінцера і доўга глядзеў на яго рыжы, даўно не паголены, твар.

Канапа скрыпела—варочаўся Вінцер не спакоем, гаварыў паблытанымі словамі, незьвязанымі, незразумелымі. То ён некага праганяў ад сябе, то ён некага клікаў, некага баяўся.

Бачыў Крэўчык: вельмі-ж ня зручна было ляжаць Вінцеру. Нага яго, штучная, блыталася-перашкаджала яго жывому целу.

Тады пачаў Крэўчык распранаць Вінцера.

— Лягчэй будзе, зручней... Хай адпачне.

Скінуў яго скураную жакетку, папругі расшпіліў, што трымалі нагу, ды так і зьняў яе разам з штанамі.

— От...

І калі клаў штаны з нагою на крэсла, папера вытаркла з пратэзы, з дупла.

Асьцярожна, двума пальцамі пацягнуў паперу—цэлы скрутак. Да лямпачкі падышоў бліжэй, развагі ня спускаў з розуму:

— Дакуманты ма'быць партызанскія... Толькі на вошта-ж уназе?

Расхінуў скрутак, на Вінцера зірнуў: спаў той.

— А-а-...—ціхі вырваўся гук з яго грудзей. Нутром сваім прашаптаў:

. . . . . . . . . . . .

## II.

Гэта было, калі адлістаць назад чатырнаццаць вёсен. Быў дзень, забелены сонечным малаком, у які пан Дзінскі моцна хваляваўся:—не заўважыў калі выкурыў адну папяросу, калі прыкурыў другую.

— Як-жа гэта... прапусьціць цягнік... прапусьціць цягнік...

Перад ім ляжала «вельмі сакрэтная» маленькая, пакамечаная паперка. (Пан Дзінскі пакарабаціў паперку, пакамячыў сілаю свайго кулака). Літары ад Дзінскага сілы былі на паперы рассыпаны, словы—расклееныя, але можна было прачытаць: «з цягнікам ніякага здарэньня не адбылося».

— Здрада...—дрыжачымі вуснамі выказаў пан Дзінскі.

Вартавы з жаласьліваю пільнасьцю сачыў за тварам пана Дзінскага. Хацеў прайсьці ў яго нутро тонкім джалам, каб хоць кроплю ўзяць на сябе начальніцкай невядомай яму крыўды. Пан Дзінскі зьнячэўку кінуў позірк на вартавога—заўважыў яго пільнасьць, яго невінаваты позірк. У пана Дзінскага адным момантам расьцвіла думка.

— Просты салдат... просты салдат стамі разамі можа быць карысьнейшым, чым некаторае афіцэр'е... што выйшла з салдата. Канечне.

І ўстаўшы з-за стала, двума крокамі не падыходзячы да вартавога:

— Адкуль ты родам?—рукі за сьпіною трымаючы, запытаў вартавога пан Дзінскі.

Вартавы ўсё роўна, як і чакаў гэтага, коратка і адразу адказаў:

— З-пад Марцікан аў, пане палкоўнік!

— Хто твае бацькі?—утарапёна вачэй ня зводзіў Дзінскі.

— Бо-а-а... Бацькі мае, пане палкоўнік,—Кавэрскія. Яны жывуць за дзесяць вёрст ад Марціканаў.

Салдат пана Дзінскага замігаў павекамі, твар яго лупнуў асыпаным жарам: яму хацелася выказаць, што ён хоць і просты салдат, але не абы якога роду.

— Бацька мой,—з чуласьцю выказаў Кавэрскі,—ураднікам быў у Марціканах. А потым мы купілі тры валокі зямлі ў пана Зымскага і жылі ў сваім фальварку Сайчыкі...

Добра!—сказаў пан Дзінскі і больш няслухаючы салдата—крута павярнуўся, пайшоў да стала. Кавэрскі бачыў сутулістыя плечы пана Дзінскага, бачыў як варушыў ён пальцамі, закладзенымі за сьпіну.

А Дзінскі падышоў да стала, тупым зіркам блукаў па пісьмовых прыладах, па тэлефонным апараце, гаварыў абрыўкамі думак:

«... так, так... паслаць гэтага салдата... паслаць гэтага салдата».

Нярвовым рухам узьняў тэлефонную трубку, гучна—басіста пра-казаў:

— Пан Урублеўскі... але... гавару—я. Слухайце...

Кавэрскі разгублена стаяў каля палкавога знамя, ахоўваў гонар усяго палка, лавіў рухі палкоўніка Дзінскага, лавіў голас яго слоў і ня ведаў сэнсу тых слоў.

А палкоўнік Дзінскі гаварыў:

— Прышлеце мне—зьмену. Да палкавога знамя—зьмену. Зараз-жа...

Паклаў трубку ды грузна сеў за стол на сваё, плюшам абшытае, крэсла.

Кавэрскі бачыў:

Твар Дзінскага быў спакойна—чыстым. Ня было на ём тэй хмары, што была, калі адняць назад некалькі хвілін. Ён узяў асадку і пачаў па волі пісаць ма'быць нейкі дакумант. Кавэрскі сачыў за рухам яго рукі: хацелася спазнаць, калі рухалася пяро, якая думка сыходзіць на паперу.

«Можа загад, каб мяне арыштавалі?—думаў Кавэрскі.—Але за вошта... на што ён выклікаў, каб мяне зьмянілі...

Не пасьпеў давесьці да канца думку, знайсьці адгадку, як адчыніліся дзьверы: прышла зьмена. Пот выступіў у Кавэрскага на твары—вельмі зрабілася горача. Здаваў зьмену, а словы горкія, як палын, цiснулі яго горла:

«На вошта я расказаў яму хто я—адкуль? Мо ён, як дазнаў—мала што—і пашкодзіла на гэтым? А мо—так што... другое.

Кавэрскі бачыў:

хутка бегла пяро па паперы, вялікі клопат ляжаў сярод маршчын, на твары палкоўніка. Вартавы стаяў, цяпер на Кавэрскага месцы,—разьвiдзячы ціха вышаў за дзьверы.

І Кавэрскі да стала падыходзячы ледзь чутна праказаў:

— Пане палкоўнік...

Дзінскі як і ня чуў:

— Ну, вось...—мэханічна прэс-пап'е ўзяў ды прыклаў да сьпісана-мокрых літар. Узьняў галаву ды:

— Ага... ты ўжо вольны... дык вось што, мой мілы... ідзі сюды, за мной...—і павёў яго ў свой габінэт.

Кавэрскі зачыняў за сабою дзьверы і ня мог здаўмецца, чаго хоча ад яго пан палкоўнік.

А Дзінскі, сядаючы за стол, паказаў на крэсла:

— Сядай!—сказаў. Ня зводзіў вачэй з Кавэрскага, дадаў:—мне трэба з табою пагаварыць.

На край крэсла сеў Кавэрскі, вінтоўку абняў рукою—прытуліў да шынэлі—гатовы быў на ўсё, што ні загадае пан палкоўнік.

У пакоі гаварыла цішыня. Гадзіньнік, што вісеў на супроць Кавэрскага, мерным махам адразаў кавалкі цішыні. Сонца гуляла на галаве бронзавага бюсту пакойніка пана Чвардоўскага. Бо гэта быў палац пакойніка і штаб палкоўніка Дзінскага, які знаходзіцца пад камандаю генэрала Ольтлера мог знайсьці тут, на некаторы час, свой прытулак.

— Вось што, мой мілы чалавек...—папяросу прыкурваючы, пачаў Дзінскі.—Я цяпер ведаю хто ты і я вельмі табою здаволены. Ты чалавек з адукаванай сям'і і ты разумееш нашу адзіную мэту. Я табе проста мог бы прыказаць ваенным прыказам, але я не хачу гэтага. Я хачу тваёй самастойнай згоды. Я люблю сваіх салдат, як бацька любіць сваіх дзяцей.

Дзінскі галаву нахінуў—працягнуў руку і атрос адным пальцам папяросны попел. Кавэрскі сачыў за далікатнымі рухамі пана палкоўніка і яму прыемна было: ён паправіўся на крэсьле—сеў поўным сваім станам. Ня ведаў, што загадае яму пан палкоўнік, а толькі нутро яго шчымела ўтульнасьцю, поўнілася радасьцю.

«Што-б ні загадаў палкоўнік,—сьпела думка ў яго галаве,—я выканаю. Я сын, дарагой мне бацькаўшчыны.

А палкоўнік Дзінскі гаварыў:

вочы прыжмурыў ад папяроснага дыму, ды—ты, тады ня будзеш простым салдатам. І гэта між іншым. Мы знаходзімся... (ён сьцішыў свой голас)—хацеў сказаць другое, а сказаў:—ня ў дрэнным становішчы. Але нам трэба скончыць з бальшавікамі. Так што... (ён яшчэ сьцішыў голас і па целе Кавэрскага ад цеpазьмернай цішыні прабег лёгкі холад)—Так што...—муляў Дзінскі, наводзячы на Кавэрскага больш сваёй дружбы,—зрабіць трэба нам, каб яны здохлі з голаду.

Кавэрскі пусьціў ахвотную радасьць па ўсім сваім твары, сказаў:

— Трэба каб яны...—абапіраючыся далонямі аб крэсла заварушыўся ён,—трэба, каб яны двaццатаму, а ня тое што—заказалі.

Дзінскі перапыніў Кавэрскага, строга сказаў:

— Ня люблю гарачых, маладых людзей. Выслухаць трэба, мой мілы. Ня так лёгка. Вайна, мой мілы гэта ёсьць вайна, а не гульля бокі ў скокі.

Устаў з крэсла, падышоў да Кавэрскага, руку сваю хударлявую паклаў на плячо салдата—гаварыў:

— Трэба спыніць і як мага хутчэй—рух цягнікоў на бальшавіцкай дароге. Для гэтага трэба ўзарваць чыгуначны мост. Ім ня будзе тады ні адкуль падвозу. На той бок—наша армія, на гэтым баку—наша армія. Аб'езду нават нельга будзе зрабіць. Яны прабіліся ў самае хлебаробнае сэрца, і гэта сэрца хахлацкае корміць і поіць іх. Я паслаў надзейнага чалавека да гэтага праклятага мосту, але мне паведамілі сёньня, што ён яшчэ не узарваны. Я, мой мілы, усю пакладаю на цябе надзею. Ты зробіш гэта ў імя сваіх бацькоў.

— Зраблю, пане палкоўнік!—руку трымаючы каля казырка адказаў Кавэрскі.

## III

На другі вечар за закаўрышом рукава шынэлі (каб зручне—паказваць) ляжала ў Кавэрскага паперка з гэткімі радкамі:

УДОСТОВЕРЕНИЕ

Дано сие товарищу Винтеру, красноармейцу 28-го стрелкового полка в том, что он командируется в г. Белицу для закупки фуража.

Что подписями и полковой печатью удостоверяется.

Командир полка—*Анаников*.

Военком—*Вишневский*

І «Вінцер» з адчыненым спакоем на твары ехаў у вагоннай цеснаце.

На яго развагах было:

— Гэтак—што цесна—лепей нават...

Сёньня ён будзе на вызначаным месцы. Будзе вечар. Цягнік—мяшаны: таварныя ідуць вагоны і пасажырскія. Яму трэба праехаць заставы. Прайсьці заставы—нязручна...

Вагон гаварыў пра голад. Вуньдзе каля вакна сядзіць жанчына з малым дзіцем. Плач дзіцяці хрыплы, нядужы. Вуньдзе—другая, у саматканай сьвітцы. У яе вельмі бледныя вусны. Яна варушыць імі сухімі. Вочы глыбока ўпалі і гараць як дзьве іскры. З глыбіні больш ярчэйшы бляск вачэй. Стары нейкі чухаецца адной рукою, другою кладзе ў рот,—мусіць кавалак хлеба.

З-за перагародкі, з другога купэ, «Вінцер» чуе жаночыя галасы:

— Кажуць, што махноўцы зьдзекваюцца над жанчынамі... вельмі любяць «яўрэек».

— Яны хоць каго «любяць». Яны—як тыя кныры.

— Усе чэрці, адной шэрсьці. Ім што: ваююць адны з другімі, а ты з голаду азызай.

— Нашы—нябось—далікатнейшыя. Папросіць, калі хоча есьці, а сам не палезе.

— А ў нашага, патом, Сэльвэстрага забралі кабана.

— Дык ім за гэта мала ня будзе. Не кажы. Унь адзін бальшавічок быў, у Дудзінках яблык самаволі адарваў,—дык суд быў за адзін яблык. І такі суд, што перад усімі.

«Вінцер» не даслухаў жаночай гаворкі: расплакалася дзіця ў жанчыны, што сядзела каля вакна. Ён пазіраў праз вакно і курыў самаробную папяросу, глыбокай зацяжкай.

А над цягнікам навісаў змрок. І так павольна—ледзь-ледзь гусьцела заслона змроку. «Вінцеру» хацелася, каб хутчэй апусьцілася саматканая заслона. Мала ўжо засталося да рэчкі, што абнята тугімі абдымкамі жалезнага моста. «Вінцер» хвалюецца нутраным неспакоем.

— Хаця-б не прамахнуцца... Калі ставіш на карту ўсё сваё жыцьцё—дрэнна калі прамахнешся і ня возьмеш банку.

І тое ўсё, чаму трэба было здарыцца, здарылася з «Вінцерам» не даехаўшы да вызначанага месца аднаго кілёмэтру. Цягнік цяжкім сопам соп пад накат. Во-во—стане, ня возьме з месца. Змрок больш яшчэ згусьцеў—надаслаў «Вінцеру» больш сьмеласьці.

Тады вышаў на пляцоўку пасажырскага вагону і яшчэ прапусьціў адну чыгуначную будку. Цягнік здаецца мацней пашоў і гэта горш...

— Каб не прапусьціць...—ня выходзіла з галавы «Вінцера».

Яшчэ шпарчэй рвануў цягнік разагнаным ходам—гатовы на вялікі размах. Углядзеўся «Вінцер» у змрок, спазнаў, здаецца, знаёмае месца—блізкае да чыгуначнага мосту і—скочыў з апошняй ступенькі на хаду.

Ён памятае толькі адно:

скочыў з падножкі і папаў на чыгуначную вярсту. Ён моцна выцяўся, але не разгубіўся. Чуў: бомба, што была ў яго кішэні, зашыпела вужачынай злосьцю. Адным махам хапіў яе ўдаранаю рукою і тута-ка-ж адкінуў. Памятае, што не хапіла сілы адкінуць далёка раздражненую бомбу.

І больш не памятае... ні таго, як знайшоў будачнік яго, як нёс да сябе на плячох, як адвёз на дрызіне на станцыю, а потым у горад, у лячэбніцу.

А цягнік нічога ня ведаў. Нават разрыву бомбы ня чуў за сваім раўнамерным, калёсным, грукатам.

Ізноў адбываўся рух вагонаў і таварных і пасажырскіх на бальшавіцкай дарозе.

... Крэўчык пазіраў, цяпер, на санлівага «Вінцера» і думаў сам сабе:

— Усамдзеле, як той Махоўскі кажа—абрубак... ад генэральскай арміі.

29-XI—32 г.

Менск.

Ц. Гартны

# МЕСЯЦ У ЦАРСКАЙ АРМІІ

## (Старонка з успамінаў)

Гэта было ўпачатку 1916 г. Царскі ўрад няспынна высмоктваў з краіны, пасылаючы на фронт, усё новыя ды новыя мільёны людзей. Мабілізацыя ішла за мабілізацыяй. Шматгадовы кадр запасных ужо даўно быў вычарпаны; чарга была за ратнікамі апалчэньня другога разраду, ці, як казалі тады, за матчынымі сынкамі. Я належаў да апошніх. Набліжэньне мабілізацыі майго (1889) году мяне моцна непакоіла: я ня меў жаднае хэнці ісьці ваяваць за інтарэсы драпежнага самаўладзтва і буржуазіі. Абаронныя настроі многіх маіх знаёмых, сярод якіх было шмат меншавікоў, мяне сьмяшылі і злавалі. «Перамагчы нямецкае юнкерства, вызваліцца з-пад яго ўплыву, а пасьля будаваць рэспубліку з Расеі», гэта цалкам адпавядала імкненьням контррэвалюцыйнай імпэрыялістычнай расійскай буржуазіі; меншавікі ўжо ў той час актыўна ёй дапамагалі, ідучы за ёю, як сабачкі, на прывязі. Удзел у ваеннапрамысловым камітэце, у чырвоным крыжы, у саюзе гарадоў і земстваў побач з Гучковымі ды Канавалавымі, Рабушынскімі і Мілюковымі паказваў іх здраду рабочай клясе як у люстры. Я пераконана трымаўся паражэнчай тактыкі; адкрыта выпукляў яе ў спрэчках, хоць не скажу, каб яна ў мяне абгрунтоўвалася чыста бальшавіцкімі рэвалюцыйнымі меркаваньнямі, гэты мой погляд часткова грунтаваўся і на нацыяналістычных дробнабуржуазных падставах: паражэньне Расіі, па мойму, абяцала і нацыянальнае вызваленьне Беларусі. На яго я глядзеў з дробна-буржуазнага, грамадаўскага пункту погляду. Але паражэнчыя мае настроі, глебу да якіх я падрыхтоўваў і меў ужо з часоў рэвалюцыі 1905-6 г.г., прасычаліся і інтэрнацыянальным рэвалюцыйным зьместам... Гэта рабіла мяне заядлым ворагам абаронцаў, зьненавісьнікам іх ганебнай прадажніцкай чыннасьці...

Адчуваючы блізкасьць прызыву майго году, я рабіў захады выкруціцца ад яго, ня кіўнуць і пальцам на карысьць вайны. Але якім чынам гэта зрабіць? У якія дзьверы выйсьці, каб мяне не затрабасьцілі ў армію і не пагналі, як барана, на фронт на зарэз. Будучы ўсяго дробным службоўцам і не спэцыялістам, з гэтага боку я ня меў жаднае надзеі за што-колечы зачапіцца. Гаспадар лёгка мог са мною ра-

стацца, хоць ужо ў 1916 г. значна адчуваўся недахоп у мужчынскай рабочай сіле. Перайсьці на мілітарызаванае прадпрыемства і па гэтай лініі заштрахавацца ад вайны, таксама выходзіла паводле прыказкі: не тады хартоў карміць, як на паляваньне ісьці. Пры гэтым я мог сыйсьці за спэцыяліста толькі на гарбарскай прамысловасьці, якая ў дачыненьні да мабілізацыі не давала гэткіх ільгот, як прамысловасьць мэталічная. Думаць, каб гэтым шляхам вызваліцца—не прыходзілася і я зьвярнуўся да некаторых сваіх знаёмых, шукаючы ад іх падтрыманьня і рукі. Адным з іх быў вядомы арбітр французскае цыркавое барацьбы Дзядзя Ваня (Уладзімер Лебедзеў). Надзвычай добры і спачувальны чалавек ад прыроды, ён ставіўся да мяне па-бацькаўскі, па-сяброўскі і з павагай. Я быў упэўнены, што Дзядзя Ваня не адкажацца пастарацца за мяне, паколькі гэта яму магчыма. Сапраўды, ён ахвотліва згадзіўся мне пасадзейнічаць і ў адзін час пазваніў мне па тэлефону, каб я зьявіўся ў цырк, дзе ён будзе бачыць адну «высокую асобу» і з ёю гаварыцьме наконт мяне. Я абнадзейваўся, а ўгледзіўшы ў цырку даволі ўплывовую асобу, якою быў граф Шувалаў, пачаў упэўняцца ў добрым вырашэньні справы. Дзядзя Ваня доўга гутарыў з сваім «паклоньнікам у цыркавой барацьбе» і пацешыў мяне, што справа «на мазі». З другога боку прылажыў руку да майго вызваленьня з арміі і мой прынцыпал, які меў гутарку з якоюсьці таксама ўплывовою асобаю ў штабе. Зьвяртаўся я і да свайго добрага знаёмага ў той час капітана Філіповіча. Але час праходзіў, а нічога канкрэтнага ня было. Мазь высыхала і колы скрыпелі. Я схіляўся на параду аднаго свайго таварыша, які знайшоў сабе дзірку ў дарожным атрадзе за дзесятніка, пайсьці па яго сьцежцы. Ён абяцаў пасобіць у гэтым, запэўніваючы, што тут няма жадных цяжкасьцяй. Магчыма, што да мабілізацыі майго году я апынуўся-б у дарожным атрадзе, каб мой дарадчык, на-ліха, ня мусіў спыніць па справах з Пецярбургу. Ён вярнуўся з некаторымі захадамі наконт мяне, каб уладзіць у дарожнае ведамства, ды ўжо было тое пасьля прызыву. Мае спадзяваньні цалкам і поўнасьцю лопнулі, як мыльныя бурбалкі. Сьціснуўшы зубы, але ня кідаючыся ў безнадзейнасьць, я пашоў на прызыўны пункт. Стаў у чаргу да камісіі, вельмі хутка апынуўся перад доктарам, які сядзеў фактычна для выгляду і, не зважаючы на настойлівыя скаргі на разнастайныя хваробы, «брыў» усіх асоб, як авечак. Я паскардзіўся на сэрца, пакідаючы блізарукасьць вачэй на лепшы выпадак. Доктар фармальна прыткнуўся трубкаю, і я не агледзеўся, калі падышоў ужо і здароўем і ростам. Гутарак болей быць не магло, ды яшчэ з гэткім пагрозным начальствам у камісіі, якое па-людзкі і не абыходзілася з прызыўнымі...

Здадзеныя (а вызвалялі самых яўных калек) на заўтра-ж мусілі зьявіцца да воінскага начальніка на разьбіўку і па прызначэньні. Мая дарога таксама вяла на Загарадны праспэкт у вядомы руды будынак. Думкі, як раз'юшаныя чмялі, мігалі ў маёй галаве, але не знаходзілі сабе прыпынку і падпоры. Хадайнічаньні за мяне з боку

знаёмых асталіся бяз вынікаў, «хвароба» сэрца не памагла—ідзі. Было крыўдна і боязна, і я жорстка ўпікаў сябе за адсутнасьць сьмеласьці проста не пайсьці ды ўсё, і за брак вынаходніцтва ў гэтым кірунку. Аднак я ўлічваў тагачасныя настроі і, не зважаючы на дзікую знадворную строгасьць у арміі, біў на страшэнную блытаніну ў справе падліку ў войску і на пачатае затніваньне ў вайсковых установах. Я спатыкаўся з вялікаю колькасьцю людзей, якія вылузваліся з кіпцёў ваеншчыны разнастайнымі, часта зусім выпадковымі і лёгкімі спосабамі. І ніякае іншае, апроч пісаравай альбо фэльчаравае, рукі пры гэтым не патрабавалася. Я прытуліў да сэрца вобразы гэтых магчымых збаўцаў. А пакуль рашыў адстаць. На колькі часу—не пастанаўляў вызначана: як здарэньні казацьмуць. Сярод гэтых здарэньняў я ня кідаў шукаць тых, якія-б нарадзіліся на глебе падшуканьня маімі знаёмымі літасьцівага паратунку... Побач, аднак, я уладжваў справы на службе. Мой прынцыпал, відаць, у кампэнсацыю за праваў хадайніцтва пра маё вызваленьне ад мабілізацыі, паабяцаў пакінуць за мною месца і нават даў крыху грошай на дарогу. Да рэчы акурат знайшоўся мне добры заступнік на службе. Перадаўшы яму справы, я прагуляў дзён пяць, не зьяўляючыся да воінскага начальніка. Калі-ж на шосты дзень наведаў яго, дык атрымаў пагрозны напамінак, што за адстаньне давядзецца адказваць і не абы як. Гэта адказнасьць меней усяго мяне палохала, бо я падзяліў-бы яе з двумя дзесяткамі маіх таварышоў. Я пашоў на адставаньне не адзін, выходзіць, а цэлы шраг людзей, ды людзей не палахлівых, з якіх пераважная большасьць была рабочых з немілітарызаваных пецярбурскіх прадпрыемстваў. Я з імі штодня спатыкаўся на дзядзінцы ў воінскага начальніка, хадзіў у манеж на Коннагвардэйскім бульвары і праводзіў час у гутарках на палітычныя тэмы, у здагадках аб канцы і скутках страшэннае сусьветнае вайны. Канцылярыя воінскага начальніка, палохаючы нас рознымі жупеламі і скарпіёнамі, мэрам-бы забывалася пра два дзесяткі чалавек, ці не знаходзілася, куды іх паслаць.

Гэта працягнулася каля двух тыдняў. І толькі ў пачатку лютага 1916 г., якраз у нядзелю, мы, адсталыя, атрымалі сабе назначэньне ў 187 стралковы пяхотны полк, які стаяў у Іванава-Вазьнясенску.

Перад тым, як нам адпраўляцца, сам воінскі начальнік зрабіў «ласку» з намі пагутарыць, як-бы сказаць на дарогу слова.

Ён сабраў нас у кучку на дзядзінцы і пачаў гаварыць. Вось прыблізны зьмест яго «бацькаўскае ласкі»: «Вы, нягоднікі і здраднікі айчыне, умысна ўнікаеце ад сьвятых абавязкаў, ускладзеных на вас павіннасьцю перад радзімаю. Вашы таварышы хутка пойдуць на фронт абараняць краіну ад крыважэрных тэўтонаў, а вы тут абіваеце пецярбурскія тратуары. Гэта вам дарма ня пройдзе: я даў тэлеграму на мейсца вашага прызначэньня і там вам пакажуць кузькіну матку. Вас згнояць у карцары, вас, гэткіх шэльмаў, не пашкадуюць падвесіць на слуп. Вам балячкаю адыграецца ваша парушэньне сьвятых абавязкаў ваяк, адданых цару»...

Гэткія і падобныя пэрлы красамоўства выпадалі з начальнікавых пасінелых, запененых, як у кручанага сабакі, вуснаў: голас яго ні то сіпеў, ні то скавытаў, на верхніх нотах пераходзячы ў благі мат. Падсохлы, зморшчынены, з тварам янычарскага выгляду, тросься ён, як асінавы ліст, матляючы палавога колеру барадою. Тонкая высокая постаць у сінім мундзіры вось-вось гатова была пераламацца, грозячы гэтаму сатрапу недачакацца нашага выязду з Пецярбургу...

Мы ня сьціхалі ўхмыляцца, пакашліваць, часьціць выгукамі «ого», «ці бачыў», і нават у голас сьмяяцца. Гэта яшчэ болей раздражняла старое пудала, жыцьцё сваё аддаўшага на падобныя ўшчункі, якія, зразумела, ня былі толькі пустою брахнёю, як гэта з намі. У палкоўніцкай злосьці і драпежнасьці ўжо не адчувалася ўпэўненасьці ў выкананьні яго пагроз.

Выдаючы сябе страшнейшым за пяруна-грамавержцу, ён падобіўся да яго выкінутага на сьметнік ідала. Але адчуваньне гэтага воінскі начальнік перад намі пакуль нічым не выявіў. Мы, аднак, ужо на вакзале забыліся пра яго «слова». Думкі нашы накіраваліся ў Іванава-Вазьнясенск, дзе—хто таго ня ведаў,—гэтых сцэнак можна было чакаць колькі хоць. Ды каб толькі ўсяго гэткіх, ветраных і пустых, а то іх зьмест абяцаў нам сапраўдныя жахі з боку разбазыранай ваеншчыны.

Я ехаў у полк, не пакідаючы ўшчуваць самога сябе ў некай несьвядомай пакоры, якая не дазваляла мне астацца на любой станцыі і ўнікнуць усіх пакут, што нас чакалі. Я плянаваў усю дарогу, памыкаючыся ўзяць і не даехаць да назначанага месца. Але я ня меў пад сабою ніякага грунту і магчымасьцяй бяз болю гэта пераж ыць: ня было куды на першы раз прыткнуцца. З другога боку—ва мне сядзела ўпартая ўпэўненасьць, што я выбаўлюся з ваеншчыны больш лягчэйшым і бясьпечным чынам. Нават ужо сышоўшы з цягніка ў Іванава-Вазьнясенску, удыхнуўшы казармавага паветра, я ніяк не спадзяваўся ня то, што, каб быць на фронце, а і, наогул, у войску.

Тымчасам сапраўднасьць «вяла сваю лінію». На вакзале ў Іванава-Вазьнясенску нас стрэла некалькі чалавек аддзялённых, якія тут-жа, зрабіўшы пераклічку, ужылі да нас усе правілы вайсковае дысцыпліны: пастроілі нас у шэрагі і, як бізуном, хвасянулі загадным, супроць якога і не падумаў пярэчыць, голасам «шша-а-гам мы-арш!». Запахла крываваю няволяю, з-пад націску якое ня выходзілі словы гутаркі. Я адчуў становішча казулі, сцапанае моцнымі тыгравымі кіпцямі. Пра сваю самастойнасьць, пра свой індывідуальны гонар чалавека трэба было пакідаць думаць. Гэта пачуцьцё яшчэ больш балюча стукнула па галаве, калі за намі замкнулася кашарная брама. Мы адчулі сябе ў моцнай клетцы, дзе вось-вось сустрэнемся з выпрабаванымі муштравальнікамі. Я ня зглядзіў, калі яны (пакуль у двох, фэльдфэбэль і ўзводны) апынуліся перад намі. Абое былі варты пяра Дэні. Фэльдфэбэль выяўляў з сябе тоўстага шырокаплечага, круглатварага, куртатага салдафона. Чырвоны, як апшпараны рак, з вусікамі аля Вільгэльм, з маленькімі шэрымі вочкамі, ён шустра

варушыўся на сваіх кароткіх ножках, бразгаючы двума «гэоргіямі». Відаць было, што гэты дасканалы шэльма меў здольнасьць разьніка, пакінутага пакуль муштраваць новыя кадры на гарматнае мяса. Узводны, як знарок выбраны з усіх іншых, падобіўся з надворнага боку на сваё старэйшае начальства. Але з твару сыходзіў на вычварнага дэгенэрата. Тыя-ж вільгэльмаўскія вусы ўпрыгожвалі яго паедзены воспаю пляскаты твар. Шырокі нос дваіў інстанцыю паміж гэткімі-ж, як у фэльдфэбэля, шэрымі, кашачымі вачыма. Голас яго быў сіплівы, як у сыфілітыка; кожнае слова, трапляючы на сухія губы, закасвала верхнюю і агаляла чарнаватыя буйныя зубы. Узводны вужакаю віўся вакол фэльдфэбэля, высіпваючы нясьціханна: «слушаю»! так точна-а!» Вярнула ад гэтых абудвых тыпусаў. Але трэба было выслухоўваць першую каманду, станавіцца ў шэрэнгу і есьці вачыма начальства. Нас выстраілі на кашарным двары, ня даўшы нават аднесьці ў кашару пакункаў, і фэльфэбэль прозна пачаў пераклічку. Выклікаючы, ён разбаўляў прозьвішчы моцнымі словамі лаянкі, дадаючы: «Ага-а, мы пра вас ужо чуу-лі». Трэба было дагадвацца, што воінскі начальнік штосьці гэткае чыркнуў пра нас у полк... Фэльдфэбэль, прынамсі, выразна намякаў на гэта. У кожным разе ён нас узяў «навока».

Скончыўшы пераклічку, фэльдфэбэль насупіўся, як вош на струпе, і наблізіўся да нашае шарэнгі, мэрам-бы хочучы адбіць у сваёй памяці партрэт кожнага з нас. Параўняўшыся са мною, ён упёрся вачмі ў мой твар і яхідліва праказаў: «Го-а-а! І жыдка аднаго прыгналі на развод». І заскрыгітаў злосна зубамі. Я ўзгарэўся зьнянавісьцю да гэтага выяўленага антысэміта, але было рызыкоўна выліваць яе наверх. Стрымліваючыся, я пашоў за ўсім ў кашару.

Гэта было бруднае драўлянае памяшканьне, прыстасаванае да кашары з якойсьці карчмы ці з хлява. Пападпіраная слупамі, з наскорую руку пакладзенымі двухпавярховымі палацямі, на якіх пры сьценках ляжала скручаная ў кулькі салома, як выявілася пазьней, замест сяньнікоў,—казарма ўяўляла сабою брудную начлежку; у ёй было цяжкае, хоць павесь сякеру, кіслае паветра. Салдаты былі на занятках, і выглядала прасторна.

Разьмясьціўшы нас сяк-так па палацях, узводны затадаў дзяжурнаму паклапаціцца пра абед, а тым часам, прыняўся нас прыводзіць у «людзкі выгляд»: напершае, ён вынес на калідор услончык і сваімі ўласнымі рукамі пачаў нас стрыгчы якоюсьці паламанаю ды іржаваю машынкаю. Я ледзьве выцерпеў гэту экзэкуцыю. Сьледам нас пакармілі рэшткамі абеду, які складаўся з рэдзенькае пустое капуснае поліўкі і гэткае-ж пустое грэцкае кашы. Вымерхаўшыся за дзень, мы ў смак паелі, і не пасьпела яшчэ гэта адмысловая страва ўлегчыся ў жываце, як ужо нас а шостай гадзіне ўвечары, поцемкамі, выгналі на праменад. Пачулася першая, вельмі хутка ачамярэўшая мне, каманда: «ать-два-тры! ать-два-тры!» «Ать! ать» «два! два! ать-два-тры!» Праменада забрала каля дзьвюх гадзін і здорава нас зьвярэдзіла. Аднак гэта ня бралася на ўвагу.

Вярнуўшыся ў казарму і папіўшы гарбаты, мы заселі за славеснасьць. Заняліся з намі чалавек тры-чатыры, бяручы ад узводнага і канчаючы аддзялёнымі. Гэта асьлiная мудрасьць усё-ж для некаторых няграматных і тугіх на памяць хлопцаў рабілася не пераможнаю. Асабліва цяжка славеснасьць даставалася прыгнаным да нас на другі дзень навабранцам з Куршчыны і Харкаўшчыны. На славеснасьць ішло каля трох гадзін, ад восьмае да адзінаццатае, з маленькімі перапынкамі. Чаго толькі не вычваралі нашы «настаўнікі» з беднымі салдатамі! Навучаньне абярталася ў некае катаваньне паасобных людзей, у нячуваны, агідлівы зьдзек. Хлопцаў ставілі пад вінтоўку, вызначалі на нечарговыя дняваньні, прымушалі мыць падлогу, рабіць прысяданьні, пакідалі давучвацца пасьля таго, як усе ішлі спаць. Дагэтуль яшчэ стаіць у маім ваччу адзін курчанін, здаровы, моцны хлапчына, якому ніяк не давалася славеснасьць. Ён ня мог завучыць поўнага тытулаваньня цара. Гэта абярнулася яму ў сапраўдную муку. Узводны злаваў, пеніўся і, як псыхапат, зацягаўся ў вычварныя зьдзекі. Перш хлапца заставілі ў пакараньне мыць кусок падлогі; далі яму вядро вады і анучу, і той павінен быў, памыўшы, выцерці да сухога. Калі падлога падціралася, узводны ізноў разьліваў ваду, тупаў па выцертым мейсцы, і прымушаў нанава мыць. Гэта цягнулася болей гадзіны. Зморан ды стомлены хлапец ня мог аддыхацца, выціраў рукавом запацелы лоб і, зразумела, яму ня ішла на розум ніякая славеснасьць. Усё-ж ад яго вымагалі ведаў поўнага царскага тытулу. Не дабіўшыся толку, узводны перайшоў на іншы спосаб зьдзекаў: ён скамандаваў хлапцу стаць на выцяжку, узяцца ў бакі і прысядаць на наскох да дваццаці разоў, наглядаючы, каб гэта было не фальшыва. Муштра гэта забрала каля гадзіны, і зваліла на палаці напаўжывога чалавека. Але вінаватым астаўся ня ўзводны, а замучаны курчанін. На заўтра беднага чакала тое самае. І ўсё гэта спраўджалася аблыжным сьмяшком, кпінамі, штуршкамі. Вызначаўся болей за ўсіх апісаны воспатвары ўзводны. Ён апярэджваў у гэтым усіх сваіх таварышоў. Выразна кідалася ў вочы значная розьніца паміж ім і іншымі ўзводнымі. Трэба аддаць справядлівасьць: многія былі вельмі тварыскімі і мяккімі ў адносінах да радавых людзей. На іх тварах толькі зрэдку можна было бачыць колер лёгкае злосьці—увесь-жа час на іх гуляла ўхмылка. Ды, прызнацца, сам васпаваты страшыдла, многім мяняўся, калі канчаліся заняткі. Яго дзікі твар станавіўся іншым, у яго знаходзіліся жарты і анэкдоты. Але бяда ў тым, што вольнага часу амаль што ня было: лажыліся спаць а дванаццатай гадзіне, а а пятай, зраньку нас ужо будзілі. За кожнай рэччу сьпяшаліся, як на пажар: не пасьпяваў адзецца, як ужо трэба было ўмывацца: умывальнікі былі запсаваныя і цесныя, чаму пакуль ты ўвіхаўся хоць раз хапіць у прыгаршчы вады, як ужо трэ' было піць гарбату, каб не спазьніцца. На гарбату ішло ня болей пяці хвілін і заднія дапівалі гэту бурду тады, як пярэднія станавіліся на двары ў шэрагі. Між тым, яшчэ ў гэты прамежак уціскаўся фэльдфэбэльскі апыт пра здароўе, на

вошта не шкадаваў фэльдфэбэль ні злосьці, ні муштраў, ні зьдзеку з тых, хто дазваляў прызнацца, што ў яго што-небудзь баліць.

Гэта шалёная сьпешка, гэта нявытрыманае вярценьне, як у калясе, тлумачылася загадам камандуючага маскоўскай ваеннай вакругай генэрала Мржазоўскага, каб за паўтара месяцы падрыхтаваць людзей і адправіць іх на фронт. Палкавое начальства не магло «аслушацца» і падганяла начальства ротнае. Тое рада было старацца. Дзякуючы гэтаму людзей літаральна заганялі; «працоўны» дзень цягнуўся з 5 гадзін раніцы да дванаццатае гадзіны ночы.

Ужо на другі дзень па прыезьдзе ў полк былі выдадзены вінтоўкі, з якімі ішлі заняткі гадзін па пяць у дзень. Салдат з кашары нікуды не выпускалі, апроч заняткаў. Кашара была падобнаю на вастрог. Мне вельмі цяжка было вытрымаць гэты рэжым, тым болей, што мэрам-бы я вольна яму паддаўся. Трэба было шукаць рады—выкруціцца з гэтага пекла. Я патрошку бліжэй перазнаёміўся з некалькімі ўзводнымі і аддзялённымі і з ротным фэльчарам. Гэта былі вельмі слаўныя хлопцы, болей ткачы з Уладзімерскае губэрні. Патроху-патроху я мог з імі перакідацца на палітычныя тэмы. Ад іх я даведаўся, што трое чалавек з іх належаць да сацыял-дэмакратаў. Яны мне паведамілі, што ў нашай казарме, за некалькі часу да майго прыбыцьця былі выпадкі арыштаў салдат за распаўсюджаньне супроцьваенных праклямацый. Траіх чалавек адміністрацыйным парадкам выслалі на фронт, пратрымаўшы папярэдне некалькі дзён у карцары (сутарэньне) і папацягаўшы іх па начальству. Гэтым выпадкам тлумачылася строгая ізаляцыя нас ад навакольнага сьвету. Памятаў пра гэта і наш фэльдфэбэль, які кожным сваім повертам грaзіўся «сьцерці нас у парашок». Ён націскаў на ўзводных, каб тыя не давалі нам ні ў чым спуску. Тым ня меней адзначалася шмат выпадкаў, калі наша ніжэйшае начальства абыходзілася з намі з пункту гледжаньня вайсковае дысцыпліны—недапушчальна вольна. Таго самага курчаніна, якога мучыў рабы ўзводны на славесных занятках, адзін раз паставілі пад вінтоўку за няслуханьне. Не счакаўшы тэрміну, ён сам пакінуў месца і вярнуўся ў кашары. Замест далейшае кары, аддзялённы, малады, надзвычай сымпатычны арэхава-зуеўскі ткач, паскардзіўся мне на непаслухмянага. «Ну, гэта-ж на мне адаб'ецца. Няхай толькі даведаецца фэльдфэбэль, што я нічым не рэагую на яго самавольны выхад з-пад вінтоўкі, як атрымаю на пяць сутак арышту, а мо' й больш». Аддзялённы наківаў пальцам на курчаніна і на гэтым усё скончылася. Калі толькі ўзводныя і аддзялённыя даведаліся бліжэй, што з сябе выяўляе дадзены чалавек, яны адпаведна гэтаму наладжвалі да яго свае адносіны. Пераказваю, з намі, пецярбурскімі, другарадні̇камі, яны потым жылі дужа добра.

Нельга сказаць, каб дрэнны быў і наш ротны камандзір. Ён таксама ставіўся да нас мякка. Гэта быў выпускнік з юнкерскага вучылішча, чынам прапаршчык, з студэнтаў, па прозьвішчу Гільдэрбрандт. Я за цэлы месяц свайго знаходжаньня ў палку ня сустрэў з яго боку ніводнага злоснага слова, ня тое, каб крыку, ці лаянкі. Не заўважаў,

каб гэта ён рабіў і ў адносінах да іншых. Але ў яго меліся барскія прывычайкі дужа паскуднага характару: ён часамі любіў «тонка» пакпіць з салдата. Не забудуся, як гэта было раз (праўда, усяго раз) са мною. Ротны з двума сваімі таварышамі, таксама прапаршчыкамі, сядзеў у праходзе ў кашары. Я варочаўся да сябе ва ўзвод з кухні, дзе быў дзяжурным. Падышоўшы да прапаршчыкаў, я аддаў ім чэсьць і намерыўся ісьці далей, але раптам пачуў каманду— «назад!». Я павярнуўся як умеў і зрабіў пару крокаў назад. Другі прапаршчык, забегшы мне наперад, пераняў мяне і ад сябе скамандаваў «назад». Гэткім чынам, праганяючы мяне каля дзесяці разоў,— уперад і назад, прапаршчыкі сьмяяліся, кпілі, цешачыся з сваіх, здавалася ім, цікавых вынаходак. Гэты выпадак хапіў мяне за жывое. Я больш як калі, пачуў прыніжэньне свайго людзкога «я», намерана раззлаваўся і даў сабе загад пачынаць стараньні да вызваленьня з гэтага пекла, не адкладаючы ні на адзін дзень.

Ужо на заўтра я абвясьціў сябе хворым і папрасіўся ў акалотак. Фэльдфэбэль, пастроіўшы нас хворых у шаронг, абышоў кожнага і, зьверам пaглядзеўшы, некалькі чалавек груба вытаўхнуў з шорагу, крыкнуўшы: «Ня здохнеш! У строй!» На мяне ён таксама зірнуў, як рубель падарыў, мармытнуў якуюсьці лаянку, але «дазволіў» пайсьці ў акалотак.

Нас туды павялі пад наглядам кадравіка: я скардзіўся на грудзі і на горла. Цяжка было спадзявацца, што мая скарга знойдзе сабе спагаду ў акалотку. Я ня верыў, што мяне дапусьцяць і да доктара. Прайсьці да гэтае асобы было тады зусім нялёгка. Ваеннае начальства ня верыла ні салдатам, ні нават некаторым дактаром: усіх яно западозрывала ў ігнараваньні яго і ў злосных намерах. Што датычыцца салдат, дык многія гэткім шляхам стараліся выскаўзнуць са службы, пазбавіцца ад пасылкі на фронт, дзе нялёгка было захаваць сваё жыцьцё. Але большасьць дактароў бяздушна ставілася да салдат, ігнаруючы іх хваробы і стан здароўя. Гэта вельмі выразна наглядалася і ў акалотках і ў прыймовай камісіі і ў розных шпітальных камісіях. Па капрызу любога доктара з любое камісіі астаўлялі бяз жаднае ўвагі наяўных калек ці вачыма, ці сэрцам, ці лёгкімі. Тут не браліся пад увагу ніякія артыкулы закону. І, наадварот, калі капрыз накіроўваўся ў іншы бок, а асабліва, калі знаходзілася хоць слабая рука—і здаровы чалавек, які-б па стану свайго здароўя мог служыць у войску, знаходзіў цёплую спагаду з боку доктарскага начальства і вызваляўся. Будучы ў розных шпіталях і на многіх камісіях, я сустракаўся з дзесяткамі прыкладаў гэткага парадку. Наша ротнае начальства ў асобе фэльдфэбэля «блюло» гэта надзвычай старанна. Вось чаму кожны, хто абвяшчаў сябе хворым і дамагаўся трапіць у акалотак, ня меў надзеі папасьці да доктара. Ужо было, нават выслоўе наконт гэтага: «Хочаш квачом змазацца», жартавалі з тых, хто ішоў у акалотак.

Прышоўшы ў акалотак я сустрэў там да сотні чалавек. Усе яны таўкліся ў цесным брудным памяшканьні, хто чакаючы чаргі на прыём,

хто ўжо адбыўшы сваю візыту. Апошнія лаяліся і пракліналі парадкі і «лячэньне». Кожны меціў пралезьці да доктара, каб атрымаць кампэтэнтную параду, а мо' і пуцёўку ў шпіталь, а ўсё канчалася фэльчарскім квачом, ці рыцынаю, аздобленымі грубымі штырхачамі і пануканьнямі. Я, зразумела, ня меў дадзеных на прывілею. Апынуўшыся каля фэльчара, я мусіў задраць галаў і праглынуць якуюсьці стырчаку. абкручаную ватай. У адзін момант «прыём» быў скончаны, і ў маім ваччу толькі мігнуўся поўны кашэль скарыстанае ваты і поўны збанок з прыгатаванымі цёскамі на квачы. Усяго я і выйграў, што не пашоў да абеду на заняткі. Але гэты выпадак дазволіў мне знайсьці новыя шляхі да вызваленьня. Калі я вярнуўся з акалотку і, лежачы на нарах, чакаў абеду, падышоў да мяне ротны фэльчар, малады хлапец з Рыбінску. Мы ўжо былі з ім знаёмы, і я сьмела загутарыў наконт таго, каб ён пасобіў мне прайсьці да доктара. «А на вошта вы скардзіцеся»? запытаў ён. «На грудзі і на вочы», адказаў я. «Кіньце з грудзьмі, а націскайце на вочы»,—парадзіў фэльчар і паабяцаў мяне ў прызначаны дзень правесьці да доктара. Я павесялеў! Нецярпліва чакаў выпаўненьня дадзенае фэльчарам абяцанкі. Нарэшце ён вызначыў дзень, калі прыймае доктар і сказаў мне прасіцца ў акалотак.

На пераклічцы я ізноў стаў у «хворыя» і фэльдфэбэль мо' хвілін з пяць калоў мяне сваім зьвярыным зрокам. Я чакаў ад яго ўсяго ўсялякага, але не дазволу пайсьці ў акалотак.—Ізноў?—не праказаў, а па зьмяінаму прасіпеў ён, намерыўшыся выштурхнуць мяне з шэрагу хворых. Яго намер, аднак, пераняў фэльчар, якраз у час апынуўшыся каля мяне. Фэльчар штосьці шапнуў фэльдфэбэлю, і той паставіў мяне ў хворыя.

Вышаўшы з казармы, фэльчар мне расказаў, што і як з ім спаткацца ў акалотку; я запамятаваў. Усё ішло, па напісанаму. На гэты раз я ўвайшоў у акалотак з іншых дзьвярэй і быў выкліканы да доктара самім фэльчарам, які мне дапамніў: «Толькі вочы». Мяне ўжо было цяжка збіць у тэтым, хоць доктар, угледзеўшы мяне ў акулярах, амаль нічога і ня пытаў, адразу запісаўшы на камісію. Я падскочыў з радасьці, хоць мець поўную упэўненасьць у канчатковае вызваленьне было зарана. Тым ня меней, справа з пасылкаю на камісію адтэрмінуўвала пасылку на фронт, зацягвала час; а гэта ўжо абнадзейвала.

Тым-жа днём я фэльчару аддзякаваў за яго ласку і пачаў чакаць адправкі на камісію. Як хворы, я на заняткі ня выходзіў і ніякіх спраў з фэльдфэбэлем ня меў. Я аставаўся амаль адзін у кашары, чытаючы тыя кніжкі, што захапіў з сабою з дому. Нельга сказаць, каб гэткае становішча мне ўхмылялася, але яно цягнулася ўсяго дзён са тры.

Вечарам, аднаго дню, гадзіне а дзевятай, нас «камісійных» сабралі з усяго палка і, пад наглядам фэльчара з акалотку, накіравалі на вакзал. Нам адвялі асобны вагон, у якім назаўтра мы прыехалі ў Маскву. Проста з Яраслаўскага вакзалу пехам нас адвялі ў Ляфортава, ў Пятроўскі шпіталь, дзе нас фэльчар здаў пад расьпіску. Страшэнная рэч, што там рабілася! У шпіталь нясупынным цёкам плылі многія тысячы

хворых, для іх апаражнялі месцы тыя, каго выпісвалі. У прыёмнай было, як на рынку. Гудзела ў вушшу ад зьлітага, тысячнага гоману. Салдаты таўхаліся ад аднаго месца да другога, натужваліся прыслухацца, ці ня выклічуць іх, і не адпусьцяць на ўсе чатыры бакі. Адзін у другога распытвалі пра вынікі камісіі, лаяліся, праклінапі ўсё і ўсіх і задуменна пазіралі на стэрэатыпныя пуцёўкі, якія ці варочалі іх на фронт, ці адсылалі назад у полк. Тых, хто бокам дазнаваўся аб добрых выніках камісіі, можна было адразу заўважыць па твары, але радасныя ўхмылкі і падбадзёраны настрой ня былі канчатковай упэўненасьцю—за шпіталем магла справа зьмяніцца. У кожным разе гэта толькі было выпадковым.

Нас тут-жа прапусьцілі праз душ, зьмянілі нам адзеньне на бальнічнае і разьмясьцілі ў палатах. У корпусе, дзе была наша палата, зьмяшчалася шмат сот чалавек. На другім паверсе былі хворыя на вочы. Усе яны хадзілі ў акулярах, правяралі свой зрок на разглядзе розных рэчаў зблізку і здалёк, даводзілі адзін другому, з нейкім напускным выглядам, аб моцнасьці сваё блізарукасьці ці далягляднасьці, адзін ад другога выпытвалі дыоптры, дазнаваліся аб прычыне невызваленьня пры мабілізацыі, расказвалі разнастайныя выпадкі і здарэньні па дарозе ў шпіталь і пра цяжкасьці ў яго папасьці. Усімі аднакава валодала прагнае хаценьне вырвацца з лап крывавага малоха вайны і дзікае царскае ваеншчыны. Ішлі здагадкі, каго могуць і каго не звольніць, прыводзіліся разнастайныя прыклады з практыкі звальненьня па вачах. Але ўсімі валодаў няпэўны, нэрвовы настрой, трывожлівае чаканьне вынікаў камісійнага вырашэньня. Надакучыла слухаць стэрэатыпныя запытаньні ад аднаго і таго-ж чалавека раз па дзесяць у дзень. Яшчэ болей надазалялі мы сёстрам і нянькам, якіх літаральна закідалі ўсякімі пытаньнямі. Шпіталь уяўляў сабою якісьці асобны сьвет ня зусім здаровых людзей, сьвет, які кіпуча жыў хваравітымі настроямі свайго дня. Гэтак па ўсім шпіталі, у кожным паверсе, ува ўсіх палатах.

У палаце, дзе зьмясьцілі мяне (я згубіў усіх сваіх таварышаў, за выключэньнем аднаго, якога я знайшоў выпадкова па суседзтву з маім ложкам), было чалавек каля трыццаці,—ложкі мясьціліся шчыльна адзін пры другім. З усіх таварышоў па палаце мне моцна ўрэзаўся ў памяць адзін арыгінальны па-свойму чалавек. Ён быў украінец з Палтаўшчыны, моцна блізарукі. Яго ложак стаяў пры акне, але ён мала на ім ляжаў. Заўсёды стоячы каля ложка, гэты украінец ня змаўкаў ні на адзін момант; ён забаўляў усю палату сваімі жартамі, казкамі, анэкдотамі, рознымі выбрыкамі і маніпуляцыямі. Яго рукі нясьціханна маталіся, як крыльле ў ветраку, вярцелася галава і дрыгалі ногі: ён кожнае слова хацеў падмацаваць гэстам і мімікай. І гэта яму добра ўдавалася. Ня меншым мастаком ён быў апавядаць пра Украіну, пра Палтаўшчыну, пра сваю вёску. З яго губ ня сходзілі таполі і запяканка, грачанікі і боршч, сонешнік і белыя хаткі, дзеці і жонка, пакінутыя бяз догляду; недастачы і ахарошаная марамі пякельная праца на дробным ашматку зямлі. Ва ўсіх яго по-

вертах і ў міміцы, у жартах і ў анэкдотах бушавала едкая зьненавісьць да вайны, да таго ладу, які панаваў у Расіі. Ох, як яму жадалася атрымаць белы білет! Па сіле сваёй блізарукасьці гэта павінна было быць яму забясьпечана, хоць па поставе і стройнасьці, па складу свае фігуры ён выглядаў здаровым і адмысловым гвардзейцам. Я ня ведаю, што пастанавіла аб ім камісія—я пакінуў яго ў палаце, як і застаў.

Мне давялося праляжаць у шпіталі тры дні. На чацьверты я трапіў на камісію і мяне агледзілі дактары. Працэдура гэта адняла каля 20 хвілін, і я вышаў няўпэўненым. Але пасьля, у час перапынку ў паседжаньні камісіі, я стрэўся з сваім аднапалчанінам, які папаў у сакратарства праверачнае камісіі. Ён весела мне паведаміў, што мяне і яго запісалі пад вызваленьне. Праверыўшы мае прозьвішча, ён запэўніў да таго цьвёрда, што ажно я зарадаваўся.

Абнадзееены, назаўтра раніцаю я разам з сотняю іншых агледжаных камісіяй быў выпісаны з шпіталю і накіраваны ў якуюсьці кашару (цяпер ужо не прыпамінаю, дзе яна была) на вычытку вынікаў. Ішлі мы да кашары каля гадзіны, гэтулькі-ж таўкліся ў ёй, пакуль якійсьці афіцэр вычытаў мае прозьвішча і выдаў паведамленьне пра вызваленьне. Я тут-жа ў тысячным натоўпе людзей адшукаў свайго аднапалчаніна і з ім пашлі ў горад знайсьці дзе паабедаць.

На вуліцах Масквы мне давялося перацярпець шмат пакут з аддаваньнем чэсьці і станаўленьнем ва фронт. Узяць пад казырок я сяктак налаўчыўся, але выканаць цырымонію стаць ва фронт было для мяне заданьнем нялёгкім. Тым ня меней я справіўся ў некалькіх выпадках і з гэтаю мудрасьцю, і дзень у Маскве скончыўся бяз розных здарэньняў.

Вечарам мы выехалі ў Іванава-Вазьнясенск. Знаёмыя закідалі мяне пытаньнем, што я прывёз з Масквы, і ўсе зайздросьцілі майму вызваленьню з вайсковага пекла.

Але мне давялося яшчэ шмат панэрвавацца. Справа ў тым, што мае таварышы хутка па звароце з Масквы атрымалі праходныя пасьведчаньні і паехалі дамоў, а з маім пасьведчаньнем вышаў нейкі непалад. Дзякуючы гэтаму я папаў у вельмі нявызначанае становішча. Міналі дні, а з Масквы наконт мяне не атрымоўвалі ніякіх вестак. Кожную раніцу я чакаў заклiку ў канцылярыю—ды яго ня было. Прачнуўшыся а пятай гадзіне, я разам з усімі ўмываўся, піў гарбату і... заставаўся ў кашары. Рота ішла на заняткі, а я ўлазіў на верхнія палаці, браў кніжку і да абеду, лежачы, чытаў. Гэта мне небракавала: у кашары было ціха, адзін днявальны калупаўся, падмятаючы падлогу ды прыбіраючы палаці. З ім я па таварыску абменьваўся некалькімі сказамі, ведаючы, што ён зайздросьціць мне. Але іначай адчуваў я, калі кашараю праходзіў зьвераваты фэльдфэбэль: хоць гэты салдафон таксама ня мог ужо мне нічога зрабіць, тым ня меней ён зломысна пазіраў на мяне і смакаваў магчымую перамену ў маім становішчы, калі ізноў яму ўдасца з мяне насьміхацца і зьдзеквацца. Замаруда

з прысылкаю вестак з Масквы, відаць было, прымушала фэльдфэбэля сумнявацца ў маім вызваленьні. Ён яшчэ некалькі разоў прымусіў мяне, хоць і іншым ужо тонам, падмесьці кашару і памагчы знасіць з двара гной. Тым ня меней ужо фэльдфэбэль пачаў зварачацца да мяне на «вы». Праз некалькі дзён ён дэманстратыўна ігнараваў мяне.

Аднойчы прышоў на агляд кашары сам палкоўнік. Тлумачэньне даваў фэльдфэбэль. Заўважыўшы мяне аднаго на палацях, палкоўнік грозна запытаў, зірнуўшы ў мой бок. «А этот чего там лежит?» «Освобожденный, ваше высокоблагородие». «А почему его не отправляете домой?»—«Не получилось из Москвы никаких извещений о нем». «Навести справки по телеграфу». Я карцеў начальству і размова палкоўніка гэта добра засьведчыла. Я ўбачыў, што мне хутка будзе вядома тая прычына, з-за якое я вось ужо каля двух тыдняў, як валяюся з кніжкамі на палацях. Хоць мне і абрыдла маё нявызначанае становішча, усё-ж я баяўся, каб, часамі, усе мае надзеі на вызваленьне не разьляцеліся пылам. Палкоўнікаў тон вельмі выразна мне дапамніў пра абыходзіўшую мяне вайсковую дысцыпліну. Канчалася ўжо асноўная падрыхтоўка нашага палка да адпраўкі на фронт—аставалася на канчатковае зьбіраньне ня болей, як два-тры тыдні. На гэты тэрмін выпадалі самыя заўзятыя заняткі. Можна было ўяўляць сабе, якой-бы я падлёг муштры, як адстаўшы. Ня дзіва таму, што палкоўнікава наведваньне кашары парушыла ўвесь мой спакой, і я праз усю ноч абдумоўваў сваю будучыню. Мая нэрвовасьць да таго абвастрылася, што кожную дробязь я расцэньваў, як вялікае здарэньне, ад якога залежаў мой лёс. Вайне канца не прадбачылася. Па друку, які ўсё-ж трапляў у нашу кашару, трэба было дагадвацца, што буржуазія кладзе ўсе стараньні, каб перасеч усякія паражэнчыя настроі ўва ўрадавых ды ў дварцовых колах. З дапамогаю сваіх спадручных з меншавіцкага лягеру, буржуазія старалася ўзьняць патрыётычны настрой у арміі і ў грамадзкасьці і мільённымі ахвярамі ды разбурэньнем краіны падтрымліваць антантаўскі імпэрыялізм. Трапіўшы гэтым часам на фронт, нельга было спадзявацца выкруціцца адтуль цэлым або, нават, і жывым. Так што думаць было аб чым...

Але гэтыя думкі былі ўжо толькі пару дзён. Зранку 25 сакавіка мяне паклікалі ў ротную канцылярыю, і пісар абыякавым тонам мне паведаміў, што я звальняюся з войска і сёньня-ж павінен ехаць. У яго ўжо была гатова праязная і ўладжаны ўсе фармальнасьці з маею адкамандыроўкаю. Я ўзьнёсься на сёмае неба. Не памятаю, ці паабедаў нават і хутка быў у зборы. Таварышы па роце мяне цёпла правялі з кашары за варота, пажадалі ўсяго найлепшага і абяцалі пісаць—я ім пакінуў свой адрас. Быццам-бы ня чуж быў добрых пажаданьняў і ротны камандзір, аднак яго напутнае слова ня сьведчыла пра гэта. «Шкада мне вас, Жылуновіч,—сказаў ён, разьвітваючыся:—я меціў вас паслаць у вучэбную каманду, а там два гады да афіцэрскага чына. Вам ухмылялася будучыня». Прапаршчык сказаў гэта зусім сур'ёзна, і таму я моцна зазлаваў. «Дзякую, тэта мне ані ня ўхмыляецца». іранічна адказаў я яму і з гэтым кінуў кашару.

Ужо я ехаў на вакзал, калі ён разам з двума іншымі прапаршчыкамі стрэў мяне на пляцы і з ухмылкаю на твары паказаў на мяне сваім калегам. Гэта быў апошні зірк царскае ваеншчыны, ад якое я аддаляўся з радасным настроем, поўны жаданьня бачыць яе зьнішчанай разам з вайною, разам з самадзяржаўным ладам...

Праз два тыдні я атрымаў ад свайго таварыша з роты паведамленьне, што яны накіраваны на фронт пад Ілуксту.

5-ІІ-32 г.

Ула дз мер Хадык

## ТРЫВОГА БУДНЯЎ

*

Нутром на зелень зёлак лягу,
Пад ветру біч падстаўлю лоб.
Мой дзень правёў праз вею плягу,
Ў кулак недалікатна згроб.

На рэбрах лапікла рудзела
І валасы ўставалі торч.
Гуляў апошнюю нядзелю
Апошні на балоце корч.

Ў той час, як нахапіўся вечар,
Сьвяточных ня было агнёў.
Усход на костках чалавечых
Дрымотных быляў змрок разгнёў.

На ланцугі брыгадных зьвеньняў
Сабакам кідаўся прыстрэк.
І тоўкся ў дол глухіх займеньняў,—
Хто нехлямяжы чалавек.

Хто цёг па ўзрэхах прыбышовых
Год княскіх злучаных карон—
Давеку ў завязях здаровых,
Як безнадзейны маладзён.

*

Абрысы старадаўняй пушчы,
Сьвятую смагу баек там—
Нутром на попел percaтрушчу,
Зьмяшаю з друзам папалам.

Ўскапаю дзедаўскі дрывотнік,
Па каліву перабяру...
І што ня здолеў скарб нямотны
Я да канца дагавару.

Праз грані дум прайду у негаць
Прыгонных продкаў, курных хат...
За ўласным ценем мне ня бегаць,
Ня зводзіць вершамі дзяўчат.

Залёты, што былі дагэтуль,
Пазбаўлены свайго кутка...
Прыдумаць дружыну поэту
Цяжэй, як вобраз для радка.

Ня схілены на ласку, сорам
Замрэ ў ладох натхнёных струн—
Тады ніякім загаворам
Ня збыць паэзіі каўтун.

Дык лепш змагацца з невядомым,
Ісьці благому насустрэк.
Я сон знайду, я буду дома,
Як спыняць рух вужакі рэк.

Зьляту на сухазем'е лістам—
Уладар начэй і дзён ўладар.
Вятры па горле галасістым
Прагоняць вір крыві і хмар.

Тады сваіх здабыткаў кайстру—
Што не дабраў, што стойваў сам,—
Я перадам другому майстру,
Другому сэрцу перадам.

*

На памяць вывучыўшы догму
Пра ўжытак сонца і вады,—
Ня чуем пад сабою ног мы,
З уцех гародзім гарады.

Сталеем, як мядзьведзь у котле,
Паукулі сьвету робім з брух...
А вытне хто каго навотлег,—
Рагочам, зьбіўшыся у круг.

Нам на карысьць ідуць забавы,
Што ўздым даюць, што твораць сьмех...
І гонарам пясьнярскай славы
Падшыты кожны наш прарэх.

Як падпаўзе натхненьне крабам,
Шануем мы сучаснасьць тэм:
Муры сусьветнага маштабу
На мёзенец худы бярэм.

Драўляных слоў сыры ахапак
У нас дывізіям раўня...
Драбней сланэчнікавых шапак
Блакітная велічыня.

Цыглатыя і маладыя
Буслы спрабуюць вартасьць дзюб,
Каб вызнаць, з крыльлямі за шыяй,
Зямлі спажыўнай кожны шруб...

І сум мой, пісаны ў спадмане,
Складаў лісты не на замку.
Я буду помніць іх, як раньне,
Як правую сваю руку.

Я буду помніць іх, як прашкі
Шалапаватага пяра,
Як твор таварыша Барашкі
Пра Сьцёпу, жонку змагара.

*

Перасьцярогся ад падзіву
Мой сьмех, разбэшчаны бяз мер...
Люблю я кнігу „Над абрывам"
І аўтара яе—цяпер.

Ўжо для мяне яна, як прыклад
Каштоўнасьці і рамяства...
Душа свавольнічаць адвыкла,
Сядзіць ціхом ня дзень, ня два.

Я з посьпехам тры леты з гакам
Лагоднасьці яе вучу.
Я сам амаль што пернік з макам:
Нідзе й вады не замучу.

*

Вярсту галоўнага сутыку
Прабегла будняў талака.
Благаюць вусны ў рэштках крыку
Вады вазёр, як малака.

Маркотным часам злосьць за сьцёгны
Хапае, як сьляпень, як здрок...
А лета шляхам расьцяробным
Канчае свой ўраджайны крок.

На штурм ўздымаюць сад ападкі,
Каб колас зрэзаны здагнаць.
Ноч абіраецца па кладках
Праз ціш, ў якой ня знойдзеш дна.

Пшаніцы залатая грыва
Ў крутую кінута тарпу.
Дамоўкі ў клёнах і крапіве—
На застаўкі усе храпуць.

Ўрачыстасьць тояць хмар паромы...
Я з радасьцю яе радню—
За жыватворчы сон утомы,
За дужую бадзёрасьць дню.

*

Учора вецер біў у дзьверы,
Злавала ноч, і дождж ішоў.
Благаў узгоркаў мокры чэрап
Бярозавых капялюшоў.

Ад прудкасьці гарэлі рамы,
Хрыпелі сьцены хат старых,
На варце прошлай панарамы
Цьмянеў ланцуг гарадавых.

Вітала гораду прадмесьце
Мудрэйшая з мудрэйшых хэньць:
За матку боскую—двадзесьце,
За маршала—двадзесьце пеньць...

Учора сьмерць была, як тэма,
Як жаль, рыдалі хмызьнякі.
І адцьвіталі хрызантэмы
І нараджаліся ваўкі.

Клапамі троньціла ад цноты,
Як ад радкоў плюгавых строф.
Замежным кашлем кулямётаў
Канаў расійскі Саваоф.

З ражна разьбітай райскай брамы
Зьвісаў архангела шкілет.
Ĭ быў жывым малюнкам драмы
Разьдзёрты напал эпалет.

*

Учора пыл курэў ад гміны,
Ўлягаўся сьвіст жандарскіх пят.
Гула туга на дамавінах,
Глыбела лёгіка гармат.

Як зьвер падстрэлены, ятрэла
Шляхецкай навалачы злосьць.
За песьняй—„у бой мы пойдзем сьмела“—
Расла другая маладосьць.

Дні набывалі новы профіль,
Выкоўвалі, каб сьветла днець,
Пачатак маладой эпохі,
Старой разваліне—канец.

Учора вецер мёр на грудзе,
Ў блакіце хмары ня плылі.
Кіямі баранілі людзі
Мяжу натрапленай зямлі.

У зайздрасьці шалёнай скрэблі
Каструбаватых рук луску,
Ĭ пад настрой ламалі рэбры
За жменю гною і пяску.

Ў ральлю нечалавечым крыкам
Кідалі боль патрэб сваіх
Ĭ сточвалі шнуры—з разьлікам
На душы мёртвых і жывых.

*

Сякуць падкованыя коні
Празрысты сум. Ты іх спыні.
Як верасень, на падваконьні
Прысядзь, са мной пагамані.

Як верасень, прыдзі і ляпні
Ў спакой перакананы шыб...
Гуртом да вобразаў ня трапных
Нікалі рыфмы не дайшлі-б.

Урыўкамі пацёртых сказаў
Мы-б ня ўпіраліся ў платы
І лёгка лукаткі абразы
Перамагалі-б, я і ты.

Ня ў высьцігах, не наўздагоне
Па звадзе здрадзіць цэлу моц...
Як зор сузор'і, шлях сягоньня
І як аўсянае вязьмо.

Ў пярэданьнях—тут сьлёзы сохлі,
Заростала травою твань,
Тут з гора нават кошкі дохлі,
Ратуючы дзявоцтва грань.

Тут кон праўдзівасьці прачутай
Раскідала мая далонь,
Мая апошняя пакута,
Лірычная мая аблонь.

Разьвязаны шляхоў шарады
На выспрабованы узор.
Ёсьць і маёй тут частка ўлады,
З краінай кроўны дагавор.

Ён для мяне, як сьлед сукрыты,
Як матцы роднае дзіця.
Суровай ніткаю прашыты
Балонкі сьмерці і быцьця.

Ляжаць зярнятамі абзацы
І з былі адыйшла труха,
Як адыйшла у даўнасьць граца
І гарацешная саха.

*

Ты чорная, як смоль, як вугаль,
Ты сьветлая, як сон, як май.
Калі хлапца ня возьме зруга,
Ты на гарэлку запрашай.

Суцішанасьць даўнейшай спробе
Напоўніць чаркі да краёў...
Я жыць пачну ў тваёй спадобе,
Ты—жумрыць пачуцьцё маё.

Ў цябе, маёй спрадвечнай любы,—
Прысватанага шчасьця век,
Дзявочых сакрамэнтаў кубел
І роднай нэндзы чалавек.

На весьніцах і лад і рып‘е,
І ты, як гаспадыня, тут...
А толькі ён са мной ня вып‘е,
Не рассупоніць губ хамут.

Няпэўных мар сатлее стопак,
Я гонар хатні прысалю...
Я паспытаю бульбу з кропам
І сок вішнёвы пахвалю.

Нуду, як зганьбеную славу,
Падхопіць за вакном ярчук.
Ты пусьціш жарт па зьместу справы,
Бяз зьместу я зарагачу.

*

Куляецца за колам кола
Па дугах сплюшчаных дарог,
Смугу цяпла асеньні холад
П‘е вобмегам—за логам лог.

Рудой імглы густая крайка
Прыблытала ў пару нізін
Вякоў прыгодніцкую байку
І сьпеў, што ведаў я адзін.

Душа адчула здрады мэту,
Як забракованы памфлет...
Наповерх творчыя сакрэты
Выносіць вучыцца паэт.

Жыцьцёвай глыбіні таемнік
Згубіў свой дапатопны пэнт...
Адказ праменьняў сноп дае мне,
Як самародак-дыямэнт.

Адказ на дум напластаваньне
Кладзе свой нож, каб спосаб даць...
Другія плодзяцца пытаньні—
Адмерці, выжыць, расьцьвітаць.

І ў вырысы апошняй квадры
Пушчу я рост сваіх прыкмет—
Ударных, як праблема кадраў,
Акрэсьленых, як родны сьвет.

*

Я доўга і упарта марыў
Скрух вечных разгадаць цыб'ё.
Пад шкло вучоных акуляраў
Жаданьне трапіла маё.

Мой век, выразнасьцю працяты,
Узяў з вялікай кнігі кніг
Пэрыяду свайго пачатак,
Трывогу будняў маладых.

Узброенага часу скутак
На атайбованых сьлядох...
Пад дзён сваіх іржавым путам
Ня ведаў славы скамарох.

Знайшла на могілках паданьняў
Зьнябытая туга свой кут.
Гадованы я новым дбаньнем
Пра даль на маладым вяку.

І жарт мой, порахам пракуран,
Падмоўлен прыказкай згадаць
Натуру караля Батуры,
Калі сьмяяцца не шкада.

*

Зор раньніх зьнікла дыядэма,
І вільгаць прапаўзла праз скронь.
Заместа дроў, бярэмам стрэмак
Да сонца я трымаў агонь.

Згрызоце патушыць карцела,
Чаго ня сходала сьпярша...
Балела сколатае цела
І радавалася душа.

Пакінула старая мода
Ад прыцемак вадзіць дзяды.
Апошнім пройдуць веснаходам
Мае наступныя сьляды.

Ўстрывожу, прывяду да ладу
Спрытомненую смагу дзей.
Губляць ключы за лістападам
Вятроў гусінай чарадзе.

На золаку плывуць ня сьцежкі,
Мінаючы асеньні крок,—
Спаўзаюць сьветлыя усьмешкі
З маршчыністых узгоркаў шчок.

1932 г.

**Міхась Зарэцкі**

# ВЯЗЬМО

## Частка трэцяя

*(Канец)*

### 7

На экстранае пашыранае пасяджэньне бюро ячэйкі, склікапае на-заўтрага пасьля таго, як зрабіў Пацяроб перапалох у мястэчку сваім абагуленьнем жыўнасьці, усе сябры бюро прышлі з трывожным прачуваньнем нейкіх асабліва важных падзей, якія грозна навісьлі над ціхім санлівым Сіўцом.

Да самага пачатку пасяджэньня Сымон Карызна ня вымавіў бадай што ніводнага слова—ён сядзеў насуплены за сваім пісьмовым сталом (пасяджэньне было ў яго на кватэры) і толькі раз-по-раз кідаў кароткія вострыя позіркі на сэкратара камсамольскай ячэйкі Віктара, якога ён спэцыяльна заззаў на бюро і які сьціпла сядзеў у куточку, пакорна адчуваючы на сабе суровы гнеў разьюшанага начальства.

Як сышліся ўсе, каго запрасіў Карызна, ён, не абвясьціўшы нават пасяджэньне адкрытым, не прачытаўшы нават парадку дня, адразу загаварыў жорсткім адрывістым тонам, які прымусіў усіх настаражыцца ў напружаным чаканьні.

— Таварышы! Сёнешняе пасяджэньне бюро склікана невыпадкова. Падзеі, што за астатнія дні разьвінуліся ў нашым мястэчку, вымагаюць ад нас ужыцьця па-бальшавіцку рашучых рэвалюцыйных захадаў. Калектывізацыя, удала распачатая ў Сіўцы, сустрэла шалёнае супраціўленьне з боку пэўнае часткі жыхарства, і гэтаму супраціўленьню мы павінны неадкладна пакласьці канец. Вы, таварышы, усе добра ведаеце падзеі апошніх дзён. Для нас зусім ясна, што ўсёй гэтай кампаніяй кіруе невялічкая, але дасюль яшчэ ўплывовая купка кулакоў і падкулачнікаў, якой мы самі, таварышы, патураем сваёю мяккасьцю і нерашучасьцю. Так далей быць не павінна. Мы стаім перад магчымасьцю поўнага развалу распачатай намі справы, за якую мы ўсе адказваем перад партыяй. Ня спыняючыся перад самымі жорсткімі рэвалюцыйнымі захадамі, мы павінны адным ударам выбіць зброю з

рук контррэвалюцыі, павінны адным рашучым ударам разбурыць усё гэта кулацкае контррэвалюцыйнае гняздо.

Кароткая паўза, якою ён падкрэсьліў свае апошнія словы, павісла ў такой нязносна-цяжкім напятым маўчаньнем.

Сымон Карызна гаварыў далей—яшчэ больш жорстка й выразьліва:

— На грунце адпаведных дырэктыў мы маем права ў выпадку патрэбы найзласьнейшых з кулакоў, якія актыўна змагаюцца супроць мерапрыемстваў савецкае ўлады, высяляць з межаў нашага раёну. Мы мусім скарыстаць гэтае права, бо гэтага вымагае ад нас рэвалюцыйная неабходнасьць... Хто хоча сказаць што па гэтым пытаньні?

Усе маўчалі. Потым нехта нясьмела зрабіў ніто заўвагу, ніто запытаньне:

— І эта—па пастанове агульнага сходу беднаты?..

Карызна рэзка перапыніў яго:

— Мы гэта ведаем... Дрэнная тая ячэйка, якая не вядзе за сабою беднату.

І, яшчэ з момант пачакаўшы, ці ня возьме хто слова, Сымон Карызна рэзюмаваў:

— Я думаю, што асаблівых спрэчак па гэтым пытаньні ня можа быць. Там не спрачаюцца, дзе трэба дзейнічаць рашуча і дружна. Я прапаную адразу-ж распачаць канкрэтнае абмеркаваньне, каго неабходна выселіць.

Ня ўправіўся ён закончыць сваіх слоў, як паслужны Пацяроб грымнуў—задзёрыста і амаль што весела:

— Любачкі мае! Я-ж іх усіх, як аблупленых...

Але заўважыў сам, што гульлівы тон яго ня зусім падыходзіць да агульнага сходу пасяджэньня і, сьціхамірыўшыся, стаў сьціпла пералічаць кандыдатуры:

— Ну, першы будзе, ня йначай, Цімахвей Міронавіч... Гвардыян, значыцца...

Усе ў знак згоды кіўнулі галовамі.

— Потым, пэўная рэч, Кандрацёнак Максім...

— Сахацкага не абмінуць... ніяк не абмінуць....

— Прахора таксама...

Як памянуў Прахора, нехта з прысутных нявыразна мыркнуў, а сьледам за ім камсамолец Віктар зусім выразна заявіў:

— Прахор ня кулак. Прахора мы заўсёды мелі за бедняка.

Пацяроб нахіліў да яго мілосна скрыўлены твар і саладжава, як да дзіцяці, прашапялявіў:

— Любачка, ён горш за ўсякага кулака. Ён увесь Сівец баламуціць... Ён гэты калгас жыўцом-бы праглынуў... Разумееш, мой залацэнькі?..

Але Віктара так лёгка ня ймеш—ён цьвёрда стаяў на сваім.

— Прахор—бядняк. Што ён нездаволены, што злуе няма ведама на каго і за што—гэта іншая рэч. Можа мы самі ў тэтым вінаваты...

Пацяроб тым-жа тонам перапытаў:

— Можа мы самі, золатка, вінаваты?..

— Мы не зьвярнулі дасюль на яго належнае ўвагі і, замест таго, каб апрацаваць яго, узьвесьці на правільны шлях, аддалі яго ў рукі кулакоў...

Віктар гаварыў гэта, зьвяртаючыся да ўсіх, але сам чуў, што ўсе ягоныя словы ідуць галоўна да Сымона Карызны і што ніхто іх ня ловіць з такой увагай, як ён. Віктар чакаў з боку сэкратара ячэйкі чарговага выбуху. І сапраўды Карызна запытаў яго здушаным злосьцю голасам:

— Ты, значыцца, супроць высяленьня Прахора?

— Так. Я супроць гэтага.

— А супроць высяленьня Цімахвея Міронавіча Гвардыяна— таксама?

Віктар на момант замяўся. Ясная рэч, што ён ня стане абараняць Гвардыяна, як і іншых кулакоў, праўдзівых злосьнікаў працоўнае беднаты. Ясная рэч, што ён за тое, каб выселіць іх, раз гэта патрэбна. Але ён наогул ува ўсіх гэтых справах апошніх дзён бачыць многа такога, што абуджае ў ім шчырыя сумненьні, і ён хоча неяк усё гэта выказаць, растлумачыць, ды ня ведае, як, з чаго тут пачаць.

Сымон Карызна едка ўсьміхнуўся і, не чакаючы адказу, адчырыкнуў:

— Мы возьмем гэта на ўвагу, таварыш сэкратар камсамольскай ячэйкі... Далей...

Пацяроб пасьпешна хапіўся за новыя кандыдатуры, і Віктар астаўся ў дрэнным падазроным маўчаньні.

Сьпіс быў прыняты бяз спрэчак, хоць у ім, побач з сапраўднымі кулакамі, былі серадцякі і нават беднякі накшталт Прахора. Пасьля навучальнае практыкі з камсамольцам Віктарам ніхто ня важыўся супярэчыць ці выказваць свае сумненьні.

Раптам Пацяроб размашыста ляпнуў сябе далоняй па ілбе.

— А братачкі! Гэта-ж у нас адны тут сівецкія... А Сівалапы?..

Сябра бюро, камуніст з Сівалапаў, зазначыў:

— Ды ў Сівалапах бадай што й няма такіх надта ўжо злосных кулакоў. У нас-жа скрозь—галеча...

Пацяроб хітра падміргнуў яму (—мы вашага брата ведаем!—) і потым, узяўшы езувіцка-бязьвінны від ды пазіраючы скоса на камсамольца Віктара, працягнуў:

— А што, залаценькія, каб гэтага самага Загароўскага Малаха калупнуць...

Віктар зьбялеў і адвярнуўся ў бок, каб схаваць сваё мімавольнае ўзрушэньне. Некаторыя з прысутных кінулі на яго быстрыя спачувальныя погляды, і ён балюча адчуў іх.

Карызна з радасьцю падхапіў Пацяробаву прапазыцыю:

— Супроць высяленьня з Сівалапаў Малаха Загароўскага ніхто ня мае супярэчыць?

Віктар нэрвова тарглануў галавой, але моцнай патугаю волі суняў сябе і змоўчаў. Маўчалі і ўсе іншыя, хоць усе добра бачылі відочную недарэчнасьць высяленьня гэтага спакойнага беззаваднага серадняка.

Сьпіс быў закончаны. Але-ж гэтым ня скончыліся яшчэ нягоды, што шчодрым дажджом сыпаліся сёньня на галаву няшчаснага камсамольца Віктара.

Сымон Карызна вёў далей пасяджэньне бюро.

— Таварышы! Я мушу дадаць яшчэ, што гэтую апэрацыю мы правядзём у найкарацейшы тэрмін. Заўтра ўвечары ўсе, хто падлягае высяленьню, павінны быць дастаўлены на чыгуначную станцыю. Сёньня-ж мы нашую пастанову правядзём праз сход беднаты, які я ўжо даў загад склікаць. Адказным за высяленьне, я лічу, трэба вызначыць таварыша Пацяроба. Супярэчаньняў няма?

Супярэчаньняў ня было. Карызна хацеў быў ужо закрыць пасяджэньне, але акурат у гэты момант яго працяла новая думка, і ён, ледзьве прыметна ўсьміхнуўшыся, дадаў:

— Гэта—па Сівцы. Што да Сівалапаў, дык я ўважаю, што ўся гэтая справа павінна кіравацца таварышамі з мясцовых жыхароў. Таму я прапаную адказным за высяленьне кулакоў у Сівалапах вызначыць сэкратара нашае камсамольскае ячэйкі. Супярэчаньняў няма?

Супярэчаньняў ня было. Усе былі ашаломлены гэтай наўмыснай, для справы ані непатрэбнай жорсткасьцю, бо ўсе ведалі пра стасункі Віктара з дачкой Загароўскага.

Віктар няўцямна ўзьняў свае па-дзяціннаму чыстыя вочы і паволі абвёў усіх цяжкім ліпучым поглядам, нібы пытаючыся ўва ўсіх, што гэта значыць, ці мо' просячы спагады сабе, ратунку.

Усе—ніто з замяшаньнем, ніто з дзіўным нейкім сорамам—унікалі гэтага погляду.

— На гэтым, таварышы, пасяджэньне бюро ячэйкі лічу закрытым.

Камсамолец Віктар адразу ўстаў і выйшаў з памяшканьня. Ён мог вытрымаць з патрэбнай цьвёрдасьцю афіцыйна-дзелавы тон пасяджэньня, але прыватныя гутаркі былі яму цяпер ня ў змогу: яму трэба было акрыяць на самоце, прывесьці да ладу разматлашаныя думкі свае і пачуцьці.

Ён адразу падаўся пад Сівалапы і йшоў шпаркім пасьпешным крокам, нібы чакала яго там пільная, неадкладная справа, хоць ніякага пэўнага замеру ў яго пакуль што ня было.

Уся істота маладога хлопца была занята цяпер, вядомая рэч, каханай дзяўчынай, а тым часам, як ні напружваў ён свае мазгі, ніяк ня мог узьбіцца на якую канкрэтную, зьвязаную з ёю, думку. Нават яснага вобразу Аўгіньчынага ня мог ён адрадзіць у сваім расстроеным уяўленьні.

Так прайшоў ён бадай што паўдарогі. Як падыходзіў ужо пад млын, чамусьці ўспомніў:

«Учора занёс ёй новыя кніжкі... Якія гэта кніжкі?..»

І гэта першая выразная, хоць зусім не актуальная цяпер, думка займала яго ўсю пазасталую да Сівалапаў дарогу. Усю дарогу ён на-

пружваў памяць сваю, каб успомніць, якія ён занёс ёй учора кніжкі. Памяць упарта не давала адказу, а думка аб тых няшчасных кніжках рабілася ўсё больш дакучная, неадчэпная. Толькі ўвайшоўшы ўжо ў Сівалапы, здолеў ён ад яе адкараскацца, бо трэба было вырашыць неяк, куды цяпер пахінуцца.

Камсамолец Віктар мо' колькі хвілін стаяў так сярод сівалапаўскай вуліцы ў поўнай разгубленасьці і няўцямна вадзіў наўкола пустымі нявідушчымі вачмі. Колькі раз, сунімаючыся поглядам па вокнах хаты, супроць якой стаяў, ён упарта стараўся ўспомніць нешта пільнае, дужа яму патрэбнае, і ніяк ня мог. І толькі як забразгалі з хаты ў вакно і знаёмы голас гукнуў:

— Заходзь, Віктар да нас! Чаго ты стаіш?..

Тады толькі заўважыў, што стаіць супроць хаты Якуба Лакоты, і борзьдзенька, нібы сьпяшаючыся схавацца ад некага ў гэту спадзейную схову, пабег да дзьвярэй.

У Якуба Лакоты у «габінэце» было поўна людзей. Непакойны запал чырвонага інваліда ўсё яшчэ мучыў яго, вядучы да магілы. Адхілены ад кіраўніцтва ў новым калгасе, ён усёроўна гарэў турботамі і творчым энтузыязмам. Цяпер у гуртку блізкіх калгасьнікаў ён з уласьцівым яму гарачкавым захапленьнем абмяркоўваў нейкі новы праект, меўся прапанаваць на разгляд управы калгасу.

Віктар моўчкі сеў і пачаў слухаць. Ён не разумеў ніводнага слова і не стараўся зразумець, а толькі ўбіраў у сябе агульны фон густога дружнага гоману, і гэты гоман яго супакойваў, варочаў да звычайнага стану. На яго пазіралі з лёгкім зьдзіўленьнем, бо ніколі дасюль ён ня быў гэткі сумны, але па шчасьце не чапалі яго. Ён сядзеў так аж датуль, пакуль не паразышліся ўсе-чыста. Тады Якуб Лакота падышоў да яго і, пільна зазіраючы яму ў твар сваімі хваравіта-бліскучымі вачмі, запытаў:

— Што з табой, Віця?

І Віктар пачаў апавядаць усё зусім спакойна, разважна, нібы справа гэта зусім мала яго й абыходзіла. Толькі ў канцы апавяданьня зьявіліся ў яго ў голасе ноткі балючага, зусім дзяцiннага неўразуменьня. Ён глядзеў на Лакоту гарачым цупкім поглядам і ўпарта дапытваўся ў яго:

— Гэта-ж няправільна, га? Дзядзька Якуб... Гэта-ж непатрэбна? Непатрэбна?.. Я не к таму, што... Я магу зрабіць... І я зраблю... хай сабе... Але-ж гэта наўмысьля ён.... Гэта несправядліва... Праўда, дзядзька Якуб? Несправядліва?..

Якуб Лакота з хвіліну думаў—пахмуры, скупчаны ў сабе—і потым адказаў з рашучай цьвёрдасьцю:

— Гэта няправільна і непатрэбна...

І Віктар, забыўшыся раптам на тое, што гэта ён «не к таму», што «ён можа зрабіць і ён зробіць», загарэўся палкай надзеяй.

— Дык што-ж, дзядзька Якуб? Як? Што рабіць?.. Скажэце мне...

Якуб Лакота, яшчэ з хвіліну падумаўшы, сказаў ціхім глыбока-праканаsuccessfulм голасам:

— Па-баявому, па ваеннаму так... Калі ты атрымаў няправільны на твой погляд баявы загад, ты мусіш перш яго выканаць, а потым абскардзіць...

Віктар аўтаматычна пераказаў сьледам за ім:

— Перш выканаць, а потым абскардзіць...

І, сабраўшы ўсю сваю пазасталую цьвёрдасьць, заявіў з магчымай бадзёрасьцю і рашучасьцю:

— Добра... Я так і зраблю...

Ён кінуўся да дзьвярэй, але з паўдарогі вярнуўся і, падышоўшы зусім блізка да Якуба Лакоты, папрасіў яго пазмоўніцку ціхім прытоеным голасам:

— Вы мне паможаце, дзядзька Якуб, гэта ўсё... абладзіць... Добра?

Якуб Лакота пяшчотна абняў яго за плечы.

— Добра, Віця, я памагу.

8.

Быў гэта выдатны для Марыны Паўлаўны дзень, які страсянуў яе даўно ўжо нязнанымі і бадай забытымі турботамі. А пачаўся ён быў таксама даўно ўжо нязнанаю Марыне Паўлаўне радасьцю.

Ураньні мімаездам залучыла была ў Сівец райжанарганізатар— дзябёлая прастадушная і вельмі разумная жанчына, з якой Марыне Паўлаўне давялося мець доўгую гутарку. Яна зацікавілася жыцьцёвымі ператрускамі Марыны Паўлаўны, і тая мусіла расказаць ёй усё-чыста, як на споведзі, што аднак ані не цяжарыла яе, бо райжанарганізатар абуджала да сябе найшчырэйшую даверлівасьць. У выніку гэтае гутаркі Марына Паўлаўна атрымала сур'ёзнае і нават катэгарычнае запрашэньне перайсьці на працу ў раён, і прыняла гэтае запрашэньне з вялікай радасьцю і ўдзячнасьцю.

Райжанарганізатар вельмі сьпяшалася і зьнікла з Сіўца так-жа раптоўна, як і зьявілася ў ім, пакінуўшы Марыне Паўлаўне апроч нечаканае радасьці яшчэ адчуваньне дзіўоснае казачнасьці ўсяго, што адбылося.

Можа гэта быў проста прыемны шчасьлівы сон?

Марыну Паўлаўну даўно ўжо цяжарыла недарэчнасьць быцьця яе тут у Сіўцы, пад бокам у свайго былога мужа. Яе нічога тут ня трымала, яна нічым ня была тут зьвязана, і выходзіла так, нібы яна жыве тут выключна таму, што чакае звароту да ранейшага, спадзяецца яшчэ вярнуцца да мужа. Гэта надзвычайна мучыла яе і яна скрозь лятуцела аб тым, каб як выбрацца з гэтага нялюбага Сіўца, але ня мела спосабу, як гэта зрабіць.

Цяпер пытаньне разьвязалася само па сабе—проста і дасканала.

Марына Паўлаўна праз цэлы той дзень жыла ў ружовым чадзе новага адчуваньня. Яна нібы памаладзела адразу на дзесятак год—у яе ў галаве мітусіліся такія сьмелыя і такія пекныя лятункі, якія-б задаволілі палкую фантазыю маладой дзяўчыны. І сёньня ёй упар-

шыню пасьля разлукі захацелася пабачыцца з Сымонам Карызнам, сказаць колькі слоў яму—разьвітацца, ці што. Яе зусім не абыходзіла, пра што яны-б мелі там гаварыць—ёй хацелася, каб ён толькі адчуў яе новы настрой, каб пабачыў яе шчасьлівую, радасную. Яна знаходзіла безьліч тлумачэньняў свайму такому жаданьню і, ясная рэч, не дапускала й думкі пра тое, што гэта ў яе памаладзелай істоце загаварыў цьмяны прыглушаны голас жаночага кабецтва.

А гэта, мабыць, так і было.

Увечары Марына Паўлаўна ў апошні раз ішла на сходку жаночага гуртка. Пасьля гуртка яна назначыла сабе абавязкова зайсьці да Карызны. Што-ж там такога? Яна мо' заўтра ці пазаўтраму едзе, у яе там яшчэ ці мала патрэбных рэчаў—ёй-жа трэба сабраць іх, пападкаваць?

Абы хутчэй скончылася гэтая сходка. Ды зрэшты яна можа й не даседзець да канца, раз у яе пільная справа.

У школе, дзе быў прызначаны сход, замест шумнае бабскае грамады яна засьпела ўсяго трох ці чатырох вельмі маркотных жанчын і нязьменна-вясёлую бадзёрую Тацяну, якая гэтым жанчынам нешта вельмі энэргійна тлумачыла.

Марына Паўлаўна зьдзіўлена запытала:

— А дзе жанчыны?

Тацяна адказала спакойна, але з падкрэсьлена-цьвёрдай стрыманасьцю, якая паказвала, што ў яе ўнутры таксама ня ўсё у парадку.

— Ня прыдуць... Выпраўляюць сваіх суседак у далёкую дарогу.

Жанчыны нібы па камандзе заўздыхалі:

— Божа мілы! Што гэта толькі дзеецца! Ну хай-бы ўжо тых багатыроў каторых, а то-ж бядоту, галоту... Што яны маюць да іх?..

Марына Паўлаўна глядзела на іх шырока расплюшчанымі вачмі і нічога не разумела. Тады Тацяна пасьпешна выправіла маркотных жанчын і, астаўшыся сам-на-сам з Марынай Паўлаўнай, расказала пра тое, што ўжо вядома было ўсяму Сіўцу, апроч аднае, захопленае сваёю новаю радасьцю, Марыны Паўлаўны. Апавядала Тацяна ўжо іншым—таемна-напружаным тонам, не хаваючы больш свайго глыбокага ўзрушэньня. Як скончыла, Марына Паўлаўна парыўчата схапіла яе за руку.

— Тацянечка, родная... Ці гэта так трэба? Скажы, ці гэта ім трэба было гэтак рабіць? Ці гэта закон такі?..

Тацяна раптам замкнулася ў жорсткай чужасьці.

— Хто яго... Можа й трэба, а можа й ня трэба... Яны—начальства... больш чаго ведаюць...

Марына Паўлаўна, мала ня плачучы, прасіла яе:

— Тацянечка, родная... Ты пэўна ведаеш... чаму ты ня скажаш мне?..

Тацяна яшчэ памаўчала з момант, а тады раптам адчыкрыжыла з сьмелай злосьцю:

— Шалеюць яны, во што... Нешта есьць нутро катораму, дык ён на людзях спаганяе. Ня будзе з гэтага ладу...

Марына Паўлаўна зусім ціха, нібы баючыся ўласнага запытаньня, прашаптала:

— Гэта ты—пра Карызну?

Тацяна змоўчала. Марына Паўлаўна раптам зарупілася:

— Пойдзем да хаты, Тацяначка... Пойдзем да хаты...

Дарогаю Тацяна, нібы выпраўляючы сваю мімавольную рэзкасьць, тлумачыла больш лагодна й пагадліва:

— Яно пэўна што трэба прыбраць з дарогі сяго-таго, каб не заміналі... Але-ж трэба ведаць—каго, а ня то, што гамузам—хто першы пад руку трапіў...

Як падыходзілі ўжо пад самую хату, Марына Паўлаўна сунялася.

— Мне, Тацяна, яшчэ трэба схадзіць у адно месца. Я скора прыйду.

Тацяна нічога ня пыталася, бо ведала добра сама, куды ідзе Марына Паўлаўна. І ў думках яна пахваліла яе.

Аднак Марына Паўлаўна сямігодку мінула—толькі з момант прыстоіла пад. ёю ў нерашучасьці—і пашла далей у самы канец даўгой сівецкай вуліцы. Там збочыла яна на вузенькую, у адзін сьлед, сьцежачку, што вяла да загубленае ў сьнегавых сумётах Галілеявае хацінкі.

У маленькіх крывых вакенцах няўмеру пышна зьзяла яснае сьвятло Галілеявае саматужнае электрычнасьці. Марына Паўлаўна асьцярожна паляпала ў заваленыя дзьверы—і сьвятло зараз-жа згасла. Гэта мела азначаць, што Галілей ня прымае. Але Марыне Паўлаўне пільна трэба было яго бачыць, і яна, паляпаўшы мацней, гукнула дрыжачым ад хваляваньня голасам:

— Дзядзька Ахрэм! Адчынеце!

Сьвятло зноў запалілася, і за дзьвярмі пачулася непакойная Галілеява шарпаніна.

— Кхе-кхе... Гэта вы, Марына Паўлаўна? Зараз адчыню...

Але, адваліўшы дзьверы, ён усё-ткі перш сьцеражліва вытыркнуў у шчэлку сваю бародку і, толькі канчаткова пераканаўшыся, што ніякае небясьпекі няма, шырока расчыніў дзьверы перад нечаканай, але прыемнай госьцяй.

Марына Паўлаўна стала ў парозе, ашаломленая нясусьветным Галілеявым гармідарам. Да яе зараз-жа падышоў Босы і, пазнаўшы яе, стаў ветла церціся аб яе ногі. Яна ўздыхнула з гаспадарлівай рупнасьцю і паспагадала бязладнаму Галілею:

— Ня прыбрана ў вас тут, дзядзька Ахрэм... Жывіцё вы неяк так... непалюдзку...

Галілей бесцарамонна прапусьціў міма вушэй гэту заўвагу, бо быў глыбока заняты нечым сваім і апрача таго «свайго» ня мог бачыць і чуць больш нічога на сьвеце. Нават не запрасіўшы Марыну Паўлаўну сесьці, ён нэрвова перабег сюды-туды паміж свайго грамазду і, суняўшыся перад ёю, зашаптаў таемна й радасна:

— А я ведаю ўсё... ага... Я ўсё разумею... усё разумею...

— Што вы разумееце, дзядзька Ахрэм?

Галілей яшчэ бліжэй нахіліўся да яе і здушаным ад захапленьня шэптам прасіпеў:

— Яны баяцца... ага... Яны баяцца, во што... Баяцца... хі-хі-хі...

І нават засьмяяўся стары дзівак, што траплялася з ім толькі ў хвіліны найвыдатнейшых перажываньняў. Марына Паўлаўна толькі дагадвалася, пра каго гаворыць ёй Галілей, але ведала добра, што распытваць яго цяпер без карысьці, і таму пастаралася ўлучыць яму ў тон:

— Чаго-ж ім баяцца, дзядзька Ахрэм?

Галілей трыумфаваў.

— Тэхнікі, Марына Паўлаўна... Тэхнікі баяцца...

— А што ім тэхніка?

— Тэхнікай трэба браць... ага... тэхнікай... А яны ня ўмеюць... хі-хі-хі... ня ўмеюць...

Марына Паўлаўна з ціхім дакорам перапыніла яго:

— Людзі тут, дзядзька Ахрэм, а ня тэхніка.

Галілей на хвіліну змоўк, нібы ўслухваючыся ў яе словы, а тады загаварыў яшчэ ў большым захапленьні:

— Ага... ага... людзі... А на людзей тэхніка трэба... І на людзей— тэхніка... ага... А яны ня ўмеюць... Яны баяцца...

Марына Паўлаўна зразумела, што пад гэткі настрой нічога людзкага ад Галілея ня дойдзеш і, каб растлумачыць прычыну свайго прыходу, упяршыню за ўсё жыцьцё зманіла свайму старому прыяцелю:

— А я прышла са справаю да вас, дзядзька Ахрэм. Ці не перанесьлі-б вы тую сушыльню, што некалі мне зрабілі, туды, да Тацяны... Я не патраплю сама...

Галілей суняўся, разгублены сярод свайго гломазду і вінавата лапатаў:

— Сушыльня... ага... сушыльня... Я ведаю... я разумею... ага... сушыльня ..

Ён так мо' разоў з дзесяць пераказаў нечаканае для яго ў гэту хвіліну слова і ўсёроўна не дабраўся жаднага сэнсу—так цяжка было яму вымкнуцца з свайго цудоўнага неперproducts захапленьня.

Марына Паўлаўна адвіталася і пашла з хаты. Босы праводзіў яе жаласным енкам, нібы жаліўся на няшчасную сваю долю, якая прымушае яго сядзець у хаце адзін-на-адзін з гэтым апантаным гаспадаром.

Галілей выпускаў Марыну Паўлаўну з такой адмысловай асьцярожнасьцю, што сапраўды цяжка было азначыць, хто больш баіцца, ці ён ці тыя, над кім ён трыумфаваў сваю хімерную перамогу.

Марына Паўлаўна ішла ад свайго прыяцеля нездаволеная. Адно, што здолела яна вынесьці з свае візыты, гэта тое, што Галілей адмоўна глядзіць на апошнія падзеі ў Сіўцы і што ён прачувае ў іх нейкі новы правал Сымона Карызны. Але гэта толькі згусьціла яе змрочны трывожны настрой.

Яна ішла цяпер да Сымона Карызны. Яна не здавала сама сабе справы, з якою мэтаю яна туды йдзе,—адно з жалем і крыўдай усь-

ведамляла, што гэта ня будзе ўжо тая прыемная сустрэча, аб якой яна думала праз увесь сёнешні дзень.

Сымон Карызна хадзіў па сваім пакоі буйнымі гонкімі крокамі, з чаго Марына Паўлаўна зразумела, што ён моцна ўзрушаны. Ён сустрэў сваю былую жонку з шчыраю радасьцю, але яна адчула, што радасьць гэта ня злучана непасрэдна з ёю, што ён з роўным пачуцьцём сустрэў-бы цяпер кожную рэч, якая-б на момант выбіла яго з цяжкога ўзрушэньня.

— А, гэта ты, Марына... Як добра, што ты прышла. Сядай, калі ласка...

Яна, не распранаючыся, прысела на сваё калішняе аблюбёнае месца—у куток старой абшарпанай канапы. Карызна кінуўся да стала і нэрвовым рухам схапіў з яго паперку.

— Я акурат атрымаў сёньня ліст ад дачкі... Ты ёй мусіць нічога яшчэ ня пісала?... Яна ня ведае... Яна піша нам абаім... На, пачытай...

Яна выцягнула руку, каб узяць паперку, і рука здрадліва закалацілася дробнай дрыготкай Ён заўважыў гэту дрыготку і, нібы апечаны ёю, пасьпешна адхапіў ад ліста сваю руку. І гэты невялічкі тлупасны інцыдэнт чамусьці вярнуў яго ў стан цяжкога яго ўзрушэньня—ён зноў нэрвовымі крокамі засігаў па пакоі.

Марына Паўлаўна ўздыхнула і ціха, нібы сама сабе, праказала:

— Я прышла ўзяць некаторыя свае рэчы. Я заўтра еду..· І яна не зманіла—яна ў гэту хвіліну ўжо сапраўды была ўпэўнена, што едзе менавіта заўтра.

Карызна з крыўднай бязуважнасьцю мыркнуў сабе пад нос:

— Ага... заўтра едзеш... Куды?..

Яна цьмяна, нярадасна пахвалілася:

— Мяне бяруць на работу ў раён... Па лініі жанаддзелу...

Ён паказаў выгляд, што зацікавіўся і з штучным зьдзіўленьнем у голасе перапытаў:

— Так? У раён?.. Гэта добра... Гэта надзвычайна добра...

Марына Паўлаўна змоўкла, працятая крыўдай і расчараваньнем. Але гэтыя пачуцьці трывалі ў ёй нядоўга. Гледзячы на балючыя мітушэньні свайго былога мужа (яна-ж прывыкла разумець кожны ягоны рух), Марына Паўлаўна памалу ахаплялася даўным сваяцкім жалем, і ўсе думкі яе концэнтраваліся на адным: як-бы разьвеяць гэты чорны яго настрой, якое-б даць яму хоць невялічкае спацяшэньне. У міжвольным парываньні яна падышла да яго і, пяшчотна дакрануўшыся да яго рукі, прашаптала:

— Сымон! Нашто ты мучыш сябе?

Ён здрыгануўся ад неспадзеўкі і інстынктыўна адшаснуўся ад яе, гатовы да злоснага энэргічнага адпору. Адылі ўбачыў пакорны боль у яе глыбока запалых вачах і, стрымаўшы сябе, адказаў халодна, але спакойна:

— Ты пра гэта... пра высяленьне... Ты не разумееш, Марына... Гэта—трэба. Гэта суровая неабходнасьць рэвалюцыі... Рэвалюцыя без ахвяр ня бывае... Каб ісьці наперад, трэба церабіць дарогу...

Ён гаварыў зьнехаця—сухім афіцыйным тонам, абы адкараскацца ад яе, а мо' й ад сваіх сумненьняў. Але Марына Паўлаўна была надзіва настойная і рашучая.

— Няпраўда, гэтага ня трэба... Гэта робяць ня так, як ты... Ты—жорсткі... Ты мучыш сябе і праз гэта ўсіх.... Ты ў сабе носіш атруту, і сам ня хочаш пазбыцца яе... На што ты так робіш?..

Карызна ледзьве стрымліваў злосьць.

— Ты што, угаварваць прышла?.. Мо' падаслалі? Агітуеш за пакутнікаў—кулакоў?..

Марына Паўлаўна зусім распалілася.

— Я не дапушчу гэтага! Я не магу дапусьціць... Ты сам сябе губіш! Ты ня тэй дарогай ідзеш, якой трэба ісьці... Камуністы ня так робяць... Ім гэтага не патрэбна!.. Ты баішся, і таму на гэта йдзеш...

Тады Сымон Карызна падышоў блізка, усутыч, да свае былое жонкі і з бязьлітаснай едкасьцю праказаў:

— Ты пэўна забылася, што мы ўжо ня муж і жонка?

Так, Марына Паўлаўна сапраўды была на гэта забылася. Карызнаў напамінак, як струмень ледзяной вады, ахаладзіў яе і вярнуў да прытомнасьці. Цяжка згнібёная, асаромленая, яна адышлася і ціхенька села ў свой куточак канапы. Потым узьнялася зноў і праказала пакорна, вінавата:

— Я забяру патрэбныя рэчы.

Яна доўга порхалася ў шафе—нічога ня брала там і ня шукала—абы схаваць сваю нязносную цяжкую няёмкасьць.

Як выходзіла, у руках у яе ня было нічога, апроч пакамечанага доччынага ліста. Яна заўважыла яго і ўжо ад парогу сказала:

— Я напішу дачцэ... пра ўсё... Добра?

Карызна каротка згадзіўся:

— Гэта даўно трэба было зрабіць.

І Марына Паўлаўна праз усю тую ноч пісала даўгі, поўны матчынскіх сьлёз, ліст да дачкі, у якім аднак менш за ўсё наракала на свой боль ці на свае нягоды, а больш апісвала трагічна-бязвыхадны стан, у якім на яе думку знаходзіўся цяпер Сымон Карызна, і настойна клікала дачку на ратунак.

Гэты ліст назаўтрага Марына Паўлаўна сама й завезла на пошту ў раён, як пераяжджала туды на новую працу і на новае жыцьцё.

## 9.

Камсамолец Віктар скрозь чорную ноч, скрозь лютую, мабыць апошнюю перад вясной, завіруху ехаў у далёкую незнаёмую вёску шукаць свайго друга.

Зморaная, але бяз меры старанная шаўлюжка сваім конскім інстынктам адгадвала загубленую ў цемры і сьнегавай замяці дарогу

альбо мужык з жонкай, зноў, пакуль суд ды справа. Аўдолю клічуць. Ня надта хочацца ёй умешвацца ва ўнутраныя справы, падлічваць, хто каму больш сінякоў насаджаў, ды нічога ня зробіш,—улада. Спачатку саромелася трохі, не магла прывыкнуць, што гэта яна таксама начальства. Прыдзе чалавек з бядою да яе, а ёй здаецца, што гэта ён нарокам, дзеля прыклепу, абы чаргу адбыць, а напраўду— за нішто яе лічыць. А потым прывыкла патроху, перастала саромецца і нават ганарылася, што і мужчыны па яе дапамогу прыходзяць. І старалася. Сваю работу кіне, а калі па сельсавецкай справе што трэба, зробіць, не марудзячы. З сельсавету паперка якая каму ці лісты на пошце возьме, калі ў мястэчку бывае,—сама на двор прынясе, а там абавязкова яшчэ раз прачытае ўвесь адрас на канвэрце—няхай ведаюць, што яна таксама пісьменная. Бывае, даручыць ёй старшыня сельсавету сход правесьці ў Мядзьведзічах, газэту дасьць ёй з пастановаю ўраду ці інструкцыю якую райвыканкомаўскую, то яна, прышоўшы дадому, разоў два яе прачытае сама сабе. Чаго не разумее, да Шуры пойдзе, каб тая растлумачыла. Будзе па некалькі разоў перапытвацца, хаця-б добра ўцяміць, што да чаго. Бываюць словы такія, што яна й ня чула раней ніколі, і вытаварыць іх—язык ня слухае. То будзе перамазваць, практыкавацца датуль, аж пакуль гладка ня пойдзе. Затое на сходзе тагды чытае, як рэпу грызе, толькі дзівяцца мядзьведзіцкія—калі яна ўсьпела так навучыцца!

Прышла аднаго разу Аўдоля да Шуры з некаю паперкаю. Пра справу гаворыць, а тут відаць, што самой карціць нешта, з языка просіцца. Шура заўважыла гэта па твары, чакала, пакуль Аўдоля сама пачне, але бачачы, што тая не адважваецца, запыталася:

— Ты мусіць нешта сказаць мне хочаш?

— Па чым жа ты пазнала?

— Відаць, што пра адно гаворыш, а пра другое думаеш?

— Думаю ад ранку ўжо і надумацца не магу,—такую мне задачу задалі. Раяць мне ў партыю падавацца.

— Дык ты што?

— Бачыш-жа, што—хаджу ды думаю. Гэта-ж я пашла сёньня ў сельсавет, а там Шнаркевіч. «Хадзем, кажа, на сход у мястэчка». «Мяне, кажу, там ня прымуць. Гэта-ж, кажу, у вас партыйны сход сёньня?» «А ты, кажа, гэта беспартыйная?—а сам жа ведае. Думала, пакпіць з мяне хоча, а ён кінуўшы жарты, ды на праўду: «Прынось, кажа, заяву да нас у ячэйку».

— А праўда, чаму табе і не падацца ў партыю?—сур'ёзна глянула ёй у твар Шура.

— А як жа ды ня прымуць?

— Такую, як ты, прымуць,—упэўнена сказала Шура.

— Дык што-ж я за камуністка буду! Дурная, як авечка.

— Вучыцца будзеш. На сходы будзеш хадзіць. Кніжкі чытаць.

— А пакінь ты, я й слухаць не хачу. Выдумала невядома што,—

замахала яна рукамі на Шуру.—Быццам гэта лепшых за мяне ня знойдзецца. Давай вось лепш памажы мне паперку разабраць.

А праз некалькі хвілін, падняўшы галаву ад паперы, запыталася:

— Заяву гэта пісаную трэба падаваць? На словах нельга?

Шура ня зразу дагадалася, што гэта яна зноў пра партыю.

— Пісаную. Давай вось зараз напішам, калі хочаш.

— Не, пачакай, дай мне падумаць яшчэ,—адмовілася Аўдоля.

Прышла яна зноў да Шуры толькі праз два дні.

— Ну, дык давай напішам,—гукнула яна яшчэ з парога.

Гаварыла мацней, як звычайна,—хацела гэтым прыкрыць сваё хваляваньне.

— Садзіся пішы, а я падпішуся. Можа гэтак добра будзе?—спыталася ў Шуры.

А калі Шура палажыла на стале чысты аркуш паперы і памачыўшы пяро, нарыхтавалася пісаць, Аўдоля перапыніла яе:

— Не, гэтак нядобра будзе. Падумаюць, што я толькі расьпісацца і ўмею, пазнаюць, што ня тая рука пісала. Давай лепш я сама буду пісаць, а ты мне кажы што.

Старанна выводзіла кожную літару, баялася, хаця-б не сапсаваць. Ад гэтага літары выходзілі яшчэ крывейшыя. На трэйцім слове зрабіла памылку, вярнулася назад, хацела папрaвіць і размазала пальцам цэлае слова. Прышлося папрасіць у Шуры чысты аркуш паперы.

Напісаўшы, уздыхнула з палёгкай, быццам гоні жыта зжала, ад пастаці адагнулася. Сядзела, чакала, пакуль засохне, а тагды асьцярожна зламыла аркуш у чатыры столкі і палажыла за пазуху (быццам ніколі іначай папер не насіла).

---

Рыгор мог ужо сядзець. Калі не варушыў нагамі, яму здавалася, што мог бы ўжо ўстаць і пайсьці, як мае быць. Ён асьцярожна спускаў ногі з ложка і пробаваў, як яны служаць. Левая, разьбінтаваная ўжо з тыдзень, лёгка згіналася ў калене: пробаваў паварушыць пальцамі і ўсім ступянём—таксама нічога. Правая яшчэ ўсё была ўвязана. Болю ў ёй Рыгор не адчуваў, і доктар абяцаў, што хутка разьвяжа й гэту, дазволіць яму хадзіць, але Рыгору здавалася, што нага ня будзе гнуцца ў калене.

Шура, ціхутка адчыніўшы дзьверы палаты, спынілася ў парозе. Бацька, заняты сваімі практыкаваньнямі, нават не пачуў, калі яна ўвайшла. Узяўшыся аберуч за ложак, ён памаленьку прысядаў, стоячы на адной левай назе, а правую, забінтаваную і простую, як лудку, адстаўляў далёка ўперад. Пасьля ён выпрастаўся і асьцярожна абапёрся аб падлогу праваю нагою, Шура ўстрывожылася, каб не зрабіў сабе горш.

— Скажу я доктару, што-ж вы гэта робіце!—ціха сказала яна з парогу.

Бацька хуценька лёг на ложак і накрыўся. З-пад коўдры вытыркаў толькі яго твар—шырокі падбародак зарос даўно цёмнарусаю барадою. Рыгор вінавата ўсьміхнуўся, як дурасьлівы школьнік, якога настаўніца злавіла на месцы злачынства. Гэта ўсьмешка на заўсёды сур'ёзным і нават панурым бацькавым твары страха не да сьлёз расчуліла Шуру.

— Ня можна-ж гэтак, вы-ж можаце зноў пашкодзіць яе,—угаварвала яна, як малога, нагнуўшыся над ім.

— Я памаленьку, папробваць толькі,—апраўдваўся Рыгор.

Тое, што Аўдоля падалася ў партыю, зьдзівіла Рыгора сваею нечаканасьцю. Раней жа ў яе, здаецца, ніколі й намеру такога ня было. Хіба яна цяпер так зьмянілася за гэты час? «Баба апярэдзіла»—падумаў, горка ўсьміхнуўшыся.—«А ўсё калецтва гэта нарабіла». У яго зьявілася лёгкае пачуцьцё крыўды і нездаволенасьці сабою, падобнае да таго, калі, бывала, на полі ці на сенакосе вышярэджвалі яго дужэйшыя суседзі. І сапраўды, чаму яму самому ніколі ў галаву ня прышло падумаць пра гэта?

Шура пашла, а Аўдолін учынак усё ня выходзіў у яго з галавы. І да вечара і назаўтра, аж пакуль новая навіна не ўсхвалявала яго нанова і яшчэ мацней. З пад арышту выпусьцілі Грамабоя.

— Жульніцтва! Подкуп!—збурыўся Рыгор.—Шкода, што мае ногі яшчэ ня служаць, сам бы пашоў.

Але Шура была ўжо ў пракурора і даведалася пра ўсе прычыны і пра стан ўсяе справы. На допыце Грамабой сказаў, што ён з Сомікам закурыў і пашоў, кручачы, да свайго каня, які стаяў аж ля чацьвёртай шліхты. А калі ён, пачуўшы крык, вышаў з-за шліхты, дык Сомік ужо ўскочыў на сані і хвастаў каня, а Рыгор ляжаў, прыдушаны кавалкам і каля яго ўвіхаліся Сьцяпан Варанец з Баранком. Тагды ён падышоў памагчы ім. Сьцяпан-жа з Баранком сьведчылі, што, толькі выехаўшы з весьніцы яны ўбачылі, як з шліхты кацiўся кавалак, як Рыгор рвануўся, каб уцячы, і як кавалак яго нагнаў і падабраў. Пасьля выскачыў з-за шліхты Сомік і замахнуўся жалом, каб прыкончыць Рыгора; але пачуўшы іх крык і ўбачыўшы самiх, ускочыў на сані і памчаўся ў вёску. Пра Грамабоя яны пасьведчылі, што ён сапраўды вышаў аж з-за чацьвертай шліхты, дзе стаяў яго конь, і падышоўшы, памог ім дастаць Рыгора з-пад кавалка. Супроць Грамабоя ніякіх довадаў больш ня было, апрача таго, што ён закурваў разам з Сомікам за шліхтаю, але-ж ён і сам зразу пра гэта сказаў. Тая-ж акалічнасьць, што Сомік зьбег адзін, гаварыла быццам за тое, што адзін ён і вінават у гэтай справе. Разгляд справы быў адложаны да таго часу, калі будзе злоўлен Сомік. А калі Сомікаў канец стаў вядомы, справу пра замах на Рыгора зусім спынілі.

Ня гледзячы на тое, што фармальна Грамабоя нельга было абвінаваціць, і Рыгор гэта сам убачыў, калі даведаўся дакладна пра ўсе акалічнасьці справы, ён усё-ж ня мог пагадзіцца з думкаю, што Грамабой тут не вінаваты. Тая варожасьць паміж імі, якая ня раз раней выяўлялася ў дробных сутычках, пасьля выпадку з кавалкам

павялічылася ў некалькі столак і вырасла ва ўпэўненасьць, што Грамабой з Сомікам змовіліся зьвесьці яго з сьвету. А калі сьледзтва ня можа выкрыць Грамабоевага злачынства, дык толькі па сваёй няздольнасьці, ці нядбайнасьці. І бальніцу ён пакідаў, а гэта перакананьне ў яго не слабела.

---

Ехалі моўчкі траха што ўсю дарогу, занятыя кожнае сваімі мысьлямі. Конь ішоў ступою, разьмякчаны адлігаю сьнег хліпка шуршэў пад палазамі, сані плаўна пакалыхваліся і ад гэтага думкі цягучыя, як гэты імжысты туман, яшчэ больш ахутвалі галаву. Адвыкшы ад сьвежага паветра, Рыгор зябка хутаўся ў каўнер кажуха, але вочы яго, стомленыя чатырма сьценамі бальнічнага пакою, прыемна адыхалі, праймаючы сьнегавыя прасторы аж да цёмна-сіняй стужкі ахутанага імжыстым туманам лесу. Шура час ад часу нокала на каня, торгала лейцамі, замахвалася пугаю. Конь, амаль не прыбаўляючы ходу, баязьліва аглядаўся назад. Яна супакойвалася, і ён таксама супакойваўся і ішоў далей маруднаю мернаю ступою, заняты, мусіць, таксама сваімі, яму аднаму вядомымі, конскімі думкамі.

Шура крадкам пaглядала на бацьку і на новую мыліцу, да якой яна ніяк не магла прывыкнуць. З маленства яшчэ застаўся ў яе ня то страх, ня то нейкая грэблівасьць да мыліцы. У сувязі з мыліцай у сьвядомасьці яе ўсплывала ўсё жабрацтва і калецтва: людзі страшныя і няшчасныя, бязрукія, бязногія, з белымі сьляпымі вачыма, гарбатыя, бязносыя; людзі, якія жывуць, пакутуючы, абы як дажыць свой век, ад якіх яна дзяўчынкаю, як толькі згледзіць бывала, хавалася ў павець, на вышкі, альбо замыкалася ў хаце, залазіла ў кут пад лаву. Гэтыя ўражаньні маленства, мусіць, былі прычынаю таго, што бацькава мыліца сёньня так яе ўразіла і напужала. Яна бачыла, як бацька насілу ходзіць, няўмела яшчэ апіраючыся на мыліцу, як цяжка яму было сесьці на воз, і яе ўсю дарогу не пакідала думка— а што з бацькам будзе далей? Доктар, праўда, супакойваў і казаў, што бацька праз некі час будзе хадзіць бяз мыліцы, хоць будзе накульгваць, але яна баялася горшага. Думала пра тое, што вясною бацька, напэўна, ня здолее рабіць на полі, што тагды з імі будзе? Сама Шура ні араць, ні сеяць, ні касіць ня ўмее, маці нядужая,—ці гэта ў арэнду каму здаваць, ці як яно будзе? Паглядаючы на бацьку, яна дагадвалася, што і ён думае пра тое самае, што можа ў яго які небудзь намер пэўны ёсьць, ды вось маўчыць, не гаворыць пра самае важнае. Такі ўжо ў бацькі характар, ці мо гэта ён Шуру малою яшчэ лічыць, што пра важныя справы з ёю не гаворыць. Думае адзін, а калі надумаецца, тагды ўжо скажа, як трэба рабіць у гаспадарцы.

Яшчэ не даяжджаючы да мядзьведзіцкіх могілак, Рыгор убачыў, што з весьніц выходзіць працэсія. Папа з дзяком і Васіля Крываножку з крыжам, ён пазнаў яшчэ здалёк. За імі на дрэўках матляліся пратэсы.

— Ці не памёр гэта хто?—спытаўся Рыгор, стараючыся разглядзець хто ідзе за пратэсамі.

— Гэта-ж я забылася вам сказаць, Янаічка памёр.

— Адкашляў сваё на гэтым сьвеце,—ня то спачуваючы, ня то іронічна сказаў Рыгор.

Неўзабаве выразна разгледзеў: Яначкаў сівы конь, на возе ўрачыста бялее труна. За возам, трымаючыся за задок развалак, з насуненай на вочы хусткай ідзе Марыська. Не пазнаць—ня то яна плача, ня то так працірае балючыя вочы. Грамабой бяз шапкі, урачыстьі і строгі, ідзе побач з труной. Разьмінаючыся з Рыгорам, першы схіляе галаву з засмучанай ветлівасьцю, такою штучнаю, на яго грубым твары. Рыгор глядзеў яму ў твар жорстка, ня мігаючы і не адказваючы на прывітаньне. Тагды той хуценька адвярнуўся і жалобная маска зьмянілася грымасай нянавісьці.

— Гад, ой гад!—сказаў, разьмінуўшыся, Рыгор.—Морда, хоць ты яго жывога на неба бяры, а сам рад, што брата хавае. Цяпер ён гэту Марыську знарок уморыць, каб хутчэй усё падгрэбці.

— Мы ўжо на ячэйцы гаварылі пра гэта і ў сельсавеце гаварылі,—адказала Шура.—Дзён пяць таму назад, калі Яначка зусім ужо аслабеў, Марыля з Сьцёпкам пашлі і апісалі ўсю Яначкаву маёмасьць, каб Грамабой пасьля не ашукаў яе: не дажджэ ён тут вельмі пажывіцца чым. Яна, мусіць, ці не да брата свайго пойдзе, а калі не, дык трэба будзе падумаць, як далей быць.

---

Нага патроху папраўлялася, але ступаць ёю, як мае быць, Рыгор яшчэ ня мог. Апіраючыся рукамі аб лаву, ён пракульгаў з полу да стала. Адчыніўшы шуфляду, дастаў асадку з пяром і бутэлечку з чарнілам.

— Пашукай мне кусок чыстай паперы,—закамандаваў Шуры.

Шура трохі зьдзіўлёна глянула на бацьку, але не наважылася папытацца, што ён надумаўся пісаць. Дастала аркуш лінеенай паперы і падала яму.

Рыгор разгладзіў паперу на стале і пачаў пісаць каструбаватымі буйнымі літарамі, прыпыняючыся і думаючы ледзь не над кожным словам:

**У камуністычаскую парцію**

ЗАЯВА

Прашу прыняць мяне ў камунісцічаскую парцію, як я ёсьць мядзьведзіцкі бядняк і акціўны алямент. Гады і кулакі паламалі мне ногі, а я хачу зламаць ім карак. Дык няхай мяне камуісцічаская парція навучыць, як ямчэй гэта зрабіць. Адзін гад споўз, не дапоўз, куды хацеў, да здох. Але ў нас у Мядзьведзічах і навокал яшчэ ёсьць такія гады, што мяне і савецкую ўладу та-

целі-б на ражне бачыць. Парцейнаму не дазволена ў бога верыць і папоў слухаць, дык я з папом даўно ўжо гішэфту ня маю, а пра бога як мае быць яшчэ ня думаў, гэтымі днямі падумаю, у чым і распісваюся

РЫГОР ВАРАНЕЦ і член дымаўскага сельсавету".

Адчыняючы шуфляду бытцам за некаю патрэбаю, Шура скасіла вокам на паперу і пасьпяшыла адысьціся, каб не паказаць радаснага ўзрушэньня, якое яе ахапіла. Мыліца, што адзінока ляжала на палу, цяпер здавалася ёй зусім недарэчнаю і непатрэбнаю такому моцнаму і дужаму яе бацьку.

*Канец першай кнігі*

Менск.
Кастрычнік 1931—
чэрвень 1932.

Лукаш Калюга

# ЦЕСНАВАТАЯ КУРТАЧКА

## (Навэля)

*Пятрусю Рагачэўскаму*

Нікуды ня варта такая работа: пачынаць з надвор'я, з ветру, з дрэў, абсаджаных навакол дзеі. Але хто мне казаў, што я лепшы за іншых? І цьвёрда трымаючыся гэтага пераканаьня—што ня лепшы за іншых,—сьмела пачну яшчэ горш: з пазалеташняга сьнегу.

Яго помняць гразкога, мурзатага ад даўнасьці, што летась пазавугольлю куляўся ад сонца, як прышоў на яго звод, як усім дадзеў, прыгледзіўся. А мне ў памяць ня ён, а пазалеташні, 1930 году сьнег, што тую восень на першы, на кароткі—і таму прыгожы—час быў за навіну.

З гэтага і пачну. Спынюся перад маладосьцю, перад момантам—зьменным, імклівым. Ступлю шырэй, абмінаючы акамянелую старасьць, бо няма калі, бо далі вабяць. І адна ў мяне надзея, на шырокі крок.

— Брыдка, дзядзька Адась,—казала Волька Лысаковічаўна.— А яшчэ—калгасьнік...—з прыціскам выгаварыла яна гэта апошняе слова, бо з Банькоўскіх хаты адзін ён з сваёю кузьняю ў калгас запісаўся.

— Можа так калі, другім разам... Цяпер і грошы якраз разышліся.

Не такі ўжо і «дзядзька» быў Адась, як можна было падумаць з Вольчыных слоў, што так моцна школаю аддавалі. І меў ён яшчэ непазбытую сялянскую прывычку: бедніцца, гнуцца—малечка што. Ды і скупават быў крыху—чаго там таіцца!

— Усюды ўсё грошы,—бедаваў.—У саўгасе на сене крыху зарабіў, дык от усё ніяк ня выберуся схадзіць сыскаць.

— Дык колькі запісаць, што даіцё, таварыш калгасьнік,—ня слухаючы ягоных жартаў, дапытвалася Волька.

— Ды ня тарокайся ты,—аказалася з куткавога ложка, дзе туста сабраўся быў вячорны змрок, меншая Адасёва сястра.—От бо натура!

— А колькі даюць?—Нарэшце палез ён па грошы ў кішаню.

Гэта-ж з блізкае ШКМ хадзілі па хатах у Вязавіч траіх вучняў, зьбіралі на самалёт. Хадзіла двaіх далёкіх нейкіх хлапцоў і сваявязаўская, дзяўчына Волька Лысаковічаўна, што разам з імі вучылася.

— Ну, як ваш Ясь?—папытаўся ў яе Адась пра большага брата, што цяпер апошні год быў у Чырвонай арміі. Некалі, як Лысакоўчык яшчэ дома быў, сябраваў з ім Адась. Часта ён тады хадзіў да Лысаковічавых гуляць.

Малая, шчупленькая, дзіця яшчэ была тады Волька. Ужо ў ШКМ пачынала хадзіць. Ціхая была, сарамяжая: лішняга слова бывала да чужога чалавека не прагаворыць. А за гэтыя два гады, як пайшоў яе брат у войска, мала калі бачыў Вольку Адась. І цяпер неўспадзеўкі заўважыў ён, што вырасла, памажнела Лысаковічаўна. У школе, у чужых людзях пабыла і многа пасьмялела. Ужо бяз Волькі не абыходзіўся ніводзін сход: крыху па абавязку—што камсамолка, а болей па сваёй ахвоце. Асталося ў яе цяпер ад дзяцінага толькі гэта, у школе набытае «дзядзька» ды кароткая, цеснаватая ёй цяпер картовая куртачка.

— Гэту-ж восень ён павінен дадому прыйсьці,—братавых тэрмінаў у Волькі пытаўся Адась, хоць і сам іх добра ведаў.—Нічога ня піша, калі пусьцяць?

— Ня піша. Нешта даўно ўжо ліста ня было.

Тымчасам ужо добра сьцямнела на дварэ.

— Ня бойся, Волька, хадзем далей,—клікалі Лысаковічаўну яе таварышы ад Банькоўскіх з хаты.

— Ужо ня цепярся, а нам на сягоньня яшчэ шмат хады,—казалі яны.

І ня было калі Вольцы доўгую гаворку пра брата распачынаць.

— Аставайцеся здаровы,—хутчэй сказала яна.

Пашоў Адась за вучнямі ў сенцах дзьверы зачыніць. Правёў да варот пад самую вуліцу.

— Ты-ж, Адась,—ужо проста, па-таварыску, без «дзядзькі» казала Волька,—заўтра да нас на сход прыходзь увечары.

— Куды да вас? У школу? Хто яго пойдзе за чатыры вярсты.

— Ды не: да бацькі ў хату.

— Глядзі-ж прыходзь,—наказвала.—З парт'ячэйкі будуць. Ад нас з школы прыдуць. Трэба... Сам павінен ведаць. У нас калектывізацыя ўсяго на 34%,—казала Лысаковічаўна, пераходзячы на другі бок вуліцы.

Нарвалася на гэту гаворку Тэкля Мятліцкая, хцівая кабеціна. Аднекуль з-за вугла раптам зьявілася яна тут. Хуценька акінула позіркам Вольку, як бы гэта рабіць ёй забаронена было.

— Пусьці-ж мяне,—сказала Адасю, што заняў быў сабою ў варотах увесь праход.

Шмат высшая, страйнейшая падалася Банькоўчыку Волька папацёмку. Як бы падрасла яна з хаты, з відна вышаўшы ў вячорны змрок.

— Глядзі-ж прыдзі,—аж з другога двара гукнула Лысаковічаўна.

Яшчэ раз азірнулася на яе Тэкля ды схавалася ў сенцы, за дзьверы.

Відаць было з Банькоўскіх двара далёкім агнём асьвечанае неба над Менскам. Абы зьмерклася на дварэ, там займалася зара. Ціха... нікога ня было ў Вязавічах на вуліцы. Адзін-адным узяпёрся Адась на вароты. Пазіраў ён на той далёкі бляск. І думалася яму, як бы хутчэй з сваім кавальствам туды дапасьці.

— Навернеш некалі галавою. Вобмегам табе вылезе гэты 34%,—пачуў Адась з сянец, як ішоў у хату. І толькі ён адчыніў дзьверы, як і па гаворцы было, як бы яе нажом хто адсек.

— Трэба ісьці. Ня цепярся ўжо,—раптам узьнепакоілася Тэкля.

— Гуляй. Куды табе сьпяшацца?

— О, не! Дзе ты бачыла?—і так забавілася.

— Што гэта нешта Лысаковічаўна табе на шыю вешаецца?—папыталася маці ў Адася, як Тэкля пашла з хаты.—Абы чуць,—казала,—жаба каторая паднялася, дык ужо яна... Ото сьвет паўстаў!

— А вы слухайце!..—злосна асыкнуўся Адась.

— От не дадуць месца,—нямаведама пра каго ён сказаў-бы, кладучыся спаць.

Назаўтрае ў Лысаковічавых на сходзе ззаду за людзьмі ў галавах, адсунуўшы крыху далей падушку, на ложку сядзеў Адась з вусатым Антосем Драніцкім.

— Што-ж ты слова не закінеш?—знайшла яго там Волька.—Калгасьнік, а зашыўся за людзі ды маўчыць сьціхатою.

Тымчасам сакратар парт'ячэйкі блізкага саўгасу канчаў рабіць даклад.

— Што мне?! Я тут не даўгавечны,—казаў Адась Лысаковічаўне.

— А кашулю набраў на сьмерць?—ня ў той зусім бок яна кінулася з жартам.

— Пры чом тут кашуля? Я дзе пайду—прайду. Магу з малатком працаваць, а нарвецца дзе сталярка—і з гэтым не слабо. Махну ў горад. З працы рук я усюды сабе хлеб знайду. Вольны мне шырокі сьвет.

Сакратароў даклад скончыўся.

— Хто мае што сказаць?—пыталіся.

— Кабеткі, вы нічога яшчэ не гаварылі,—прасіў іхняе думкі сакратар.

— Ат, што мы скажам?!

А тымчасам ззаду ў гурце пачалі перш памалу, а потым што раз мацней-мацней дудукаць.

— Што вы там самі з сабою гаворыце? Вы ўсім скажэце. Каб усе чулі...

— І трэба сказаць,—аказаўся з ложку вусаты мужчына.

— Дык ты, Антось, не туляйся там, а выйдзі наперад ды і скажы што маеш.

— Хадзі да стала бліжэй, таварыш Драніцкі,—па прозьвішчы яго знаў сакратар.

Так і зрабіў вусаты. Устаў і пашоў праз людзі, гаворачы.

Волька паправіла крыху падушку, што седзячы Антось падабраў быў пад сябе. Адсунула яе далей пад сьцяну ды сама на тым месцы села. Яна была дома і глядзела парадку.

— А што?.. табе ў калгасе будзе дрэнна?—пачала ізноў Волька спыненую гаворку.—Выкуеш сабе за дзень якіх два-тры працадні— і ня знайся! У нас трох кавалёў на вёску.

— І ўсе калгасьнікі,—падказаў Адась.

— Вельмі добра. Астаецца толькі большую, прастарнейшую кузьню паставіць, сабраць у вадно месца начыньне і людзі.

— Хто кажа, што дрэнна? Але большага, дальшага сьвету хацелася-б паглядзець.

Вісела тая кароткая, цеснаватая, дзяціная яшчэ Вольчына куртачка над ложкам на шастку. Як дома, распрануўшыся, у сінім каптане сядзела Волька на ложку. Што былі яны так паасобку—на ложку Волька, на шастку куртачка—ня відаць было як вырасла адна, і як другая зрабілася мала. Ня ў памяць было цяпер Адасю тут, на гэтым сходзе, якую ён стройную, высокую бачыў учора Вольку, як пераходзіла вуліцу ў вячорным змроку. Забыўся. Гаварылі пра калгасныя ды пра адыходніцкія справы. І не падумалася яму закінуць слова пра што іншае, драбнейшае: весела, кпліва спыніцца над дробязьзю. Ён казаў:

— Каб мне ня армія сяголета, не сядзеў-бы я дома. Даўно дропнуў-бы куды. А то—што ты будзеш вырывацца на месяцаў колькі. Але яшчэ і так надзею маю,—разважаў Адась.—Возьмуць. Два гады адбуду, а там будзе відаць куды... Там ужо прасторны адчыніцца сьвет.

Каля стала справілі рогат. Мусіць, нешта сьмешнае сказаў Антось Драніцкі. Ён палажыў асадку на стол.

— Ну, што-ж,—кажа,—мужчыны?! Падыходзьце болей. Што я адзін за вас усіх сацыялізм зраблю?

— Бярэце прыклад з таварыша Драніцкага,—казаў сакратар саўгаскае парт'ячэйкі.

А далей «бягучыя справы» набеглі.

— Ідзі атрымай...—успамянула Волька Адасю, што ён быў разьбедаваўся, як яны хадзілі зьбіраць на самалёт.

Пакінуў Банькоўчык сваё сьціхлае незапаметнае месца на ложку за людзьмі. Падаўся ён бліжэй да стала.

Там саўгас плаціў касцом за работу.

— Новыя—у руках шапацяць, як бярэш—чатыры чырвонцы прыпаліся Адасю. І да іх далі два старыя, як з бота ануча, рублі. Харашэнька ў чатыры столкі злажыў Адась чырвонцы. Параўнаваў, разгладзіў ды да іх у таварыства далучыў два буланыя пакамечаныя

рублі. Палажыў усё разам у стары свой, у адным ражку белымі шыўнымі ніткамі зацыраваны палярэс.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Далей—болей...

І ўжо не казала Лысаковічаўна, што:

— У нас усяго на 34 процанты...—а сьмела адрэзала, робячы на камсамольскім сходзе ў ШКМ даклад пра ўдзел іхняе школы ў калектывізацыі:

— У Вязавічах праведзена на 85 процантаў...—і была яна яшчэ больш рада, што сама адтуль, з тых Вязавіч.

Сорак дзьве хаты было ў калгасе з тае невялічкае вёскі. А ў гэтых сарака дзьвёх і Банькоўскіх хата лічылася. Маці і дзьве незамужнія сястры—уся іхняя сям'я—былі калгасьніцы. Усяго было за гэты час. І паміж усім гэтым здарылася тое, што ў злосьці сталі і Банькоўскіх жанкі з Мятліцкаю.

— І сьледу да гэных людаедаў не палажу цяпер,—казала аднаго разу на вуліцы Тэкля жанком.

Зямлі сабралася, як вокам скінуць: сваёй, вязаўскай прыбыло вунь на колькі процантаў ды яшчэ кулацкай—вязаўскіх Мятліцкіх зямлю ды шляхечай з засьценкаў, з хутароў далі іхняму калгасу. Надыйшло жніво і агледзіліся вязаўчаньне, што работніка ў іх сваго не стае. Прыехалі на іх поле жняяркі. Шырока, шмат занялі яны поля на свой круг. Вышлі на поле вязаўцы з сарачні хат і агледзіліся яны, што на такой шыры, на такім прасторы жменька іх. А была пагода, сонца—сама што жаць, сама што сушыць ды ў такі дабро звозіць.

Аказаліся вязаўчаньне ў другія калгасы. І чуў Адась у сваёй кузьні на выгане, спаважна цягаючы мех, як:

— Выпраўляла мяне маці!

— Зялёнае жыта жаці,—здалёк ды што раз усё бліжэй пад'яжджала песьня пад Вязавічы.

Кінуў Адась сваю работу. Вышаў з кузьні паглядзець, адкуль гэта і хто. Але нікога нідзе ня відаць было. Песьня была за вёскаю з другога боку. І стаяў Адась, плячысты, прысадзісты. Слухаў. Шырокія, як апраньнікі, ляжалі яго старыя, растоптаныя боты ў гарачым ад сонца пяску.

Песьня сьціхла і Адась пашоў у кузьню.

Пачакаўшы ізноў кавалю давялося кінуць работу. Невялікае што, а руціла. Вышаў ён з кузьні—ажно няма дзе дзецца: наперадзе вёска, а за кузьняю, за невялічкім выганам чыстае поле з усіх бакоў. І ўсюды людзі. Чатыры жняяркі адна за аднэю ішлі наўкола палетку. Віда-віда сьціскаўся бліжэй да сярэдзіны сьпелы жытні круг. І жанцы і жнеі адным гуртам ішлі ззаду. Круцілі перавяслы, вязалі цяжкія, на кулі падобныя снапы.

Ды руціла Адасю, ня было яму калі доўга ўглядацца. Мусіў ён хутчэй да дому пайсьці—а гэта недалёка было,—каб там сярод будынку прызаўняцца дзе.

Коратак пры дружнай рабоце самы вялікі летні дзень.

Увечары прыезныя жнеі пашлі спаць у прасторную раскулачаных Мятліцкіх андрынку, на калгаснае пахучае, мурожнае сена.

Адзін Банькоўчык з усяго свайго таварыства астаўся ў Вязавічах. Кавальства прытрымала яго тут. А так усе хлопцы—хто куды віда: каторыя ў войска пайшлі, каторыя канавы капаць пад Смалявічы паехалі, каторыя камен̆ьне білі, недзе далёка адгэтуль клалі шашу. Вязавічы за падлеткамі (за «падшывальцамі», як іх Адасёва таварыства звала) асталіся.

— Эх! Што вы за хлопцы?—не за вочы, а ў вочы казаў ім, увечары на вуліцу вышаўшы, Адась.—Да наводных дзяўчат у андрынку ўлезьці. Як плюнуць... От мы некалі! Дзе нас ня было? Куды мы не дападзём? Каля нас, як па брытве хадзілі. Бывала, калі адыйдземся куды на вёскі... Ашчэ Антось Драніцкі нежанаты быў. Удвух, утрох пойдзем, а каб хто слова нам наперакор сказаў.

— А забыўся як з Казюкоў уцякалі?

— Усяк было,—ня было куды дзецца Адасю.

— І ці раз было!

— А мы Казюкоўцам аднаго разу...—пачаў быў Адась.

— Хадзем, хлопцы.

І ня далі Адасю гонар свайго таварыства аднавіць. Пашлі.

— От былі штуку падстроілі...—ідучы намагаўся ён скончыць, але ніхто ўжо ня слухаў.

Нізкага росту быў Адась, а «падшывальцаў» на лес гледзя ўчора павыганяла. І прапаў, згубіўся ён у іх гурце. Забыліся яны пра Банькоўчыка.

З сярэдзіны былі зашчэплены жнеі ў андрынцы. Стузянулі хлопцы варота.

— Адчынеце.

Ціхі. Ніхто ня пытаецца з сярэдзіны, хто там і чаго.

— Свае,—на нясказанае пытаньне адказаў нехта з хлапцоўскага гурту.

У сярэдзіне ў андрынцы ціханька, утаіўшыся сьмяяліся.

Пад самым шчытам быў з аднаго боку незаложан закот. Тудэю ўлезьлі ўдвух. Адчынілі з сярэдзіны дзьверы.

— Заходзьце, хлопцы,—паклікалі ўвесь гурт.

Ізноў згубіўся, на самым задзе астаўся Адась. Не хацеў ён быць няпрыкметным. Вярнуўся да дому ад самых шырока расчыненых варот.

Вуліцаю ідучы ўбачыў адзінокі Банькоўчык Антося Драніцкага. Доўгія, пушныя вусы сабе загадаваў. І быў добры, рупны гаспадар. У гэту сяўбу выбралі яго Вязаўскія калгасьнікі сабе за палявода. А помніць Адась як некалі, яшчэ хлопцам быўшы, яшчэ як не гадаваў Драніцчык вусоў, яны разам блізкія вёскі, шукаючы весялосьці, абыходзілі. Высока тады ляцеў ён, а цяпер сеў на ложку ля калыскі. Пакалыхваў дзіця.

Некалькі быў Антось яшчэ сваім сватаньнем славен у Вязавічах. Абы сьвята ці прысьвятак, пападзе сабе якога п'янчужку-ладэду ды

і паехаў. Усё далёкіх незнаёмых дзяўчат аб'яжджалі, і кожны раз у новую вёску. Мір народу праз гэта ён увазнаў. А ўзяў замуж сабе з Вязавіч Гэльку, што «ступкаю» звалі—надта-ж яна куртатая была. І цяпер пры лямпе крышыла Гэлька буракі.

— А-а, люліша,—цешыў Антось малое наравістае дзіця.

Даўгавата ў іх пад акном стаяў Адась, пазіраў. Ды пасунуўся ён, як стары, па-маленьку дадому.

Падалося Адасю, што нешта белае матнулася ў Лысаковічавых у варотах. А пазалетась быў трывожны, неспакойны час. І набегла Банькоўчыку даўно, яшчэ вясною чутая пагроза: «навернеш галавою». Ціханька падкраўся Адась да Лысаковічавых хаты, каб згледзіць, хто там ды зрабіць перапуд. Зірнуў з-за вугла. Ажно гэта была ў белай хустцы Волька. Стаяла яна пры самай хаце ўзапёршыся на плот.

— Гэта ты?—зьдзіўлёны быў Адась.

— Я.

— Што-ж ты адна сягоньня?

Была цёмная, цёмная ноч. Было хмурна: ні месяца, ні зоркі. Парнасьць і цяпло было, як перад дажджом.

Узяў Адась Вольчыны рукі.

— Якія яны мяккія, кволыя ў цябе. Адвыкла ў школе ад работы, гультайка.

Хацела нешта Волька яму пра палітэхнізацыю на гэта сказаць, але змоўчыла. Цяжка было гаварыць у такую душную, цёплую ноч. Босая, у адным лёгкім паркалёвым кафтаньніку, вышла на хвілінку Лысаковічаўна паглядзець, дзе хто ёсьць на вёсцы. Халаднавата ёй было ад аднэй летняй, парнай ночы. Бліжэй яна прыхінулася да Адася, а ён леваю рукою абняў яе гнуткі, малады стан. Ціханька прастоілі хвілін колькі.

— І што далей?—папытаўся Адась.

— Ня ведаю.

Тады ён памаленьку знайшоў вусны.

— Ня трэба,—толькі пасьля пацалунку сказала Волька.

А там бліжэй пад восень было. Крадком, ціханька пасоўваўся верасень. Халаднейшыя па жніве пачаліся мэтафарычныя вечары. Як і той, першы раз, увечары белую хустку на Лысаковічавых дварэ здалёк убачыў Адась. І ўжо ведаў ён, хто там ёсьць і чаго.

Проста іх дваром дзьмуў халодны восенькі вецер. Упіраўся ў Вольчыну кароценькую, цеснаватую картовую куртачку. То падымаў, то назад клаў ёй на плечы тую белую, здалёк запаметную, завязаную пад бараду хустку. І надзьмуў вецер холаду, восені ў іхнюю мову. Маўчалася добра,—гаварылася нехаця.

— Адась, а чаму-б табе не падвучыцца трохі,—успомніла Волька, як у яе на іспытах пыталіся пра Коласавы «На пpасторах жыцьця».—Як гэта цяпер, у нас час аб аднэй пачатковай школе быць. Я сабе ўявіць гэтага не магу.

Падалося Вольцы, што нешта супярэчыць хоча Адась.

— На работу будзе яшчэ час,—адказала яна яму на гэта.—Абы толькі хацеў, дык работу заўсёды знойдзеш.

— Дзе ты бачыла! Стар ужо,—на праўду сам сябе шкадаваў Адась. І зусім гэты адказ быў ня той, што чакала Волька.

Яна была перш проста, як на сходзе, дзе на пытаньне даючы адказ, казала:

— Гэта не бяда.

Потым прыслухалася да Адасёвых слоў, як бы лепш, адменна пачула іх. І падалося дзяўчыне, што пакепліваюць з яе, за малую маюць. Ёй яшчэ ня трэ' было маладзіць сябе, хацелася большаю, сталейшаю быць. Але не ўдала, як уразіў Адась яе гэтым, незнарок сказаным крыўдна зразуметым словам, жартавала:

— Не сьмяшыў-бы ты людзей сваёю старасьцю!—павяла рукою па ягонай, тры дні як паголенай, барадзе.

Пацiскала Волька плячыма. Такі халодны вецер наскрозь хадзіў праз Лысаковічавых двор.

— Хадзем на вуліцу—зацішней будзе,—убачыў Адась, што холадна Вольцы.

— Падавайся на рабфак,—сказала яна, сеўшы з Адасём на прызьбе пад хатаю.—Тры гады, а там і далей табе насьцеж дзьверы.

Яшчэ ў тым вяку была Волька, што хацелася ёй без канца і бяз мэты далей і далей у навуцы ісьці. І падалося Вольцы, што яму, няпрывычнаму, было замнога трох год.

— І мне-ж тры гады ў тэхнікуме быць,—на сваю нядаўную крыўду забылася яна.

— А як ШКМ?

— Я-ж скончыла. А ты і ня ведаў?!

Тут за хатаю зацішней, цяплей было. Змоўкла, у задуменьні прыхінулася Лысаковічаўна да Адасёвага плячука.

— Што гэта: ці не гарыць што?—паказала яна на паўночны ўсход.

— Гэна бляск ад Менску. Кожны вечар, як крыху цямней, так.

— Пятнаццатага і я там буду.

Ізноў павяла яна рукою па яго шорсткай барадзе. Цяпер, на прызьбе пораўне седзячы, ёй было гэта многа зручней.

— Добра?—як пра наперад умоўленае, папыталася.

Наклёўваўся ўжо і ў іх нейкі цікавы, працягам у горад перанесены сюжэт. Так ішлося, што, адным словам,—гл. Колас «На прасторах жыцьця». Можна-б было «і г. д.», нават, аўтару ставіць.

— От толькі з Чырвонай арміяй...—казаў Адась.—Мой-жа год сяголета на прызыў ідзе.

Гэтага году верасень з прызывам—удвух да Адася прышлі. Хмурны і радасны ішоў хлопец у суседні сельсавет, дзе быў пункт. Хмурыўся таму, што ня так, як ён захоча, пакіруецца ягонае жыцьцё. І рад быў, што так яшчэ лепш будзе. Але збракавалі Банькоўчыка. Ня варт ён быў у Чырвоную армію. Стаптаўся Адась над кавад-

лам стоячы і ані—і заваду ня было ў яго ўсходу на нагах: роўныя і шырокія, як лапаць на васемнаццаць вушак, была ягоная ступа.

— Гэта й добра,—казала дома маці.—Адбыў войска... а цяпер трэба думаць, як на сьвеце жыць. Жаніся от, ды пляшчы свае жалеза па-крысе.

І ня чуў Адась матчыных слоў. Думалася яму, што на дварэ і гэты раз холадна, а колькі там цяпла з тае кароценькае, цеснай, трэці год ношанай куртачкі!? Хутчэй сёрбаў ён сваю, раніцаю звараную, прастылую вячэру.

За навіну быў гэтага вечара Адась на вуліцы. Нічога яшчэ ня ведалі ў Вязавічах. Думалі: ня доўга яму асталося дома быць. Усе свае перабудуць: хто пазьней—хто раней. А Адасю-ж з гэтае восені пачыналіся ягоныя чырвонаармейскія два гады. І за гэта была яму ад яго вязаўскіх сяброў вялікая ўвага.

Той самы—нізенькі, прысадзісты быў ён, а ўжо ня губляўся болей у гурце. Усякаму ён сам, ягоная мова цікавы былі гэтага вечара.

— Ну як, Адась?

— Як?—пыталіся ў яго.

— Ня ўзялі,—кожнаму і ўсім разам адказваў ён.

І куды дзелася тая цікавасьць?! Ізноў кепікі пачаліся, як дазналіся хлопцы, што свой ён—на век вязаўскі астаецца.

— Маўчаў-бы лепш. не прызнаваўся. Гэта-ж дзяўчатам у вушы як унясуць...

Ізноў здрабнеў, згубіўся паміж гурту Адась Банькоўчык. І гаворка з ім толькі нагадала хлопцам Яську, Вольчынага брата.

— Чулі, што Лысакоўчык звыш тэрміну ў Чырвонай арміі астаецца?

— Праўда?

— Учора ліст паштар прынёс.

І нікому ня ў галаве было, калі кінуў гурт збракаваны Адась Банькоўчык.

Волька чакала, узапёршыся на нізенькі, з тонкіх жэрдак плот каля вугла бацькавае хаты.

— Як у цябе з Чырвонай арміяй?—перш-на-перш папыталася.

— Хібіла, што ані ўсходу на нагах няма,—нехаця прызнаўся ёй Адась.

У гэтым годзе скончыла Волька ШКМ. Ня трэ' было ёй казаць, што патрэбна абарона краіны, але такі—сама яна ня ведала чаму—рада была, што Адася дома пакінулі, што нехта іншы ягонае ганаровае і адказнае месца заступіў. Але прыкра была Банькоўчыку пра гэта мова.

— Ну, а як ваш Яська?—пытаўся ён.—Звыш тэрміну астаўся?

— Прыслаў ліст. Пытаецца: як лепш—аставацца ці дадому ісьці.

— Ну і што?

— Напісала, каб аставаўся.

І не такі ўжо халодны, ветраны быў той вечар, як вячэраючы думалася Адасю.

Сьветлы, цёплы, пагодны ўдасца часам увосень дзень. Бабіна лета завуць. Ды ня толькі дні—і вечары, часам, адменныя ўвосень, у верасень месяц трапляюцца. І не вядома, як зваць іх: аж да гэтага часу імя не добрана. От табе і тэрміналёгічныя камісіі!..

Мелі-б мы толькі што згаданую выгаду і карацей, прыгажэй можна было-б сказаць пра той вечар. Што раз болей тады праясьнівалася над Менскам. Было нешта асабліваe там.

— Старайся цяпер камандыроўкі,—казала Волька.

Толькі ня відаць было па-пацёмку, што ёй на гэта адказаў Адась.

Даўжэй і шпарчэй на заўтрае разьдзімаў ён свой горан. Ахвотней і лепш кавалася яму. І так і гэтак меркаваў. І ўсё выходзіла добра. Даўней з сваей гаспадаркі нельга было: гаспадара-б дома не аставалося, а цяпер з калгасу можна і адлучыцца: маці з сёстрамі самі заробяць сабе хлеба.

Прыцягнуў палявод Антось Драніцкі пад кузьню жоўтую калгасную каламажку на жалезным хаду. Ляжаталі непадмазаныя колы. І ўсётакі не заўважаны ўвайшоў ён у поўную дум Банькоўскага кузьню.

— Паглядзі,—кажа,—што ёй далягае.

— А што?—прахапіўся каваль.

— А нешта на задняй восі з правага боку лютэрка ня трымаецца: трэба анучу падкручваць, як едзеш дзе. І тут крыху акуцьце папраў,—паказаў Антось, на двор да каламажкі вывеўшы каваля.

— Трэба,—кажа,—каб усё спраўна было.

— Што табе гэтак прыспела з каламажкаю?

— Заўтра ў мястэчка паеду. Трэба з крэдытамі як уладзіць, што некалі, аднаасобнікамі яшчэ бышы, нашы калгасьнікі бралі.

— Хто болей з табою паедзе?

— Я адзін.

Хутка спозарыў Адась, якое яму шчасьце само ў рукі прышло.

— Мяне,—пытае,—возьмеш?

— Добра. Едзьма.

Новага, нядаўна купленага ў калгас белага каня назаўтрае запрог Антось у тую жоўтую каламажку. Бедаваў дарогаю:

— Хаця, каб ён аўтамабіляў не баяўся, а то чыстая бяда будзе з такім канём у мястэчку.

— А які ў цябе там інтэрас?—папытаўся ў Адася.

— А дай рады! Аж ня спрытна прызнацца. Як малы ўсёроўна,—на курсы думаю паступіць.

— Ну і што? Час цяпер такі. Усе то вучацца, то перавучваюцца.

Хутка ў мястэчку справіў свае справы Антось. Адась з камандыроўкаю, таксама, не забавіўся, але належала яму яшчэ прэміроўка.

Меўся Банькоўчык справіць сабе на зіму новыя боты. Зайшоў ён у кааперэтыў. Ажно там, як на тое ліха,—ня было на ягоныя апраньнікі сорак шостага нумару.

Ня даў веры Банькоўчык каапэратыўшчыкам. Наважыў спрактыкавацца сам: дзьве большыя пары папрабаваў мераць, ды дзе там—у халяву чуць лезуць яго шырокія растаптаныя ногі, а ня то каб абуцца.

Зайшоў па дарозе ў другія каапэратывы, паглядзець, што там ёсьць. Але нічога яму не спадабалася. Так і прынёс да возу тыя чатыры новыя чырванцы. Адлажыў купліва на другі раз.

— Ну, як, далі?—папытаўся яго Антось, як да возу сышліся.

Дастаў Адась з штаноў з глыбокай кішэні свой белымі шыўнымі ніткамі ў ражку зацыраваны палярэс, а з палярэса ў чатыры столкі зложаную паперку.

— Зірні,—кажа.

— О, гэта я скажу, што з розумам хлопец робіць. Я сам, каб ня жонка, ня дзеці, здэцца-б на якія курсы пашоў. Сям'я мне адно сьвет завязала.

Ізноў харашэнька зложыў Адась камандыроўку і на старое месца, у тую самую кішаню палажыў яе. Можна было і дадому ехаць. Але тут умяшаўся дзень. Быў ён хмурны, ветраны.

— Можа-б пагрэцца трэ' было. Як ты думаеш?—папытаў Антось.

— А не пашкодзіла-б.

І зрабілі яны лад. Дастаў Адась тыя два, як ануча з бота, рублі. Прыкінуў да іх Антось свае два, крыху навейшыя, ды і кажа:

— Папільнуй ты, Адась, воза. Я схаджу вазьму... Тут недалёчка.

Вялікаватая чарга там сабралася. І ўсю яе сваёю штукаванаю мовою зьдзівіў Антось:

— Дай мне,—кажа,—кавалак гарэлкі.

— Кажы, як чалавек, колькі табе трэба ды людзей не затрымлівай,—як каса: на такога ядавітага чалавека трапіў Антось.

— Я-ж кажу: дай з паўмэтра,—як камень цьвярды быў вязаўскі палявод.

— Плаці 3 рублі 50 кап.,—давялося таму зразумець Драніцкага.

— Цябе толькі па сьмерць пасылаць,—лаяў яго пры возе Адась Банькоўчык.

— А дай рады! Забавіўся.

Ужо з места разьяжджаліся людзі. Што раз відней яны мястэчку з пляшкаю на сваім возе былі.

— А што, калі нас хто з раёну за гэтаю работаю ўбачыць?—цікава было Адасю.—Я, дык ужо,—дармо. А ты-ж сякі-такі начальнік. Палявод.

Пакуль шклянога бога добра ня ўбачыў, Антось казаў:

— Ну што-ж! Трэба-ж пагрэцца. На гэта людзі ўвагу маюць.

А як перапусьцілі разоў колькі, другі сюды зьявіўся Антось. І адкуль ён нарваўся—той самы, даўнейшы, што некалі з Адасём у чужыя вёскі на вечарынкі хадзіў.

— Што?—адразу крыкам у іх ціхую, памяркоўную гаворку ўмяшаўся гэты прыблудны задзіра.—Калі мяне за палявода асядзілі, дык ужо і горла завязалі?! Ужо з добрым чалавекам мне і хэўры па-

ганяць нельга?! Дык бярэце з мяне к чортавай галаве свайго палявода—от што я скажу.

Выехаўшы за мястэчка пайшоў калгасны палявод на цяньгі ўспамінамі да таго, яшчэ хлопца, не жанатага Антося.

— Эх, як маладзейшы быў.—падцмакваў дарогаю.—Сам ведаеш. У тваіх гадох, а то і маладзей. Што я па сватох папаезджаваў! Гэта мне, як плюнуць, было. І ўсё маладых, бывала, мы з сватам дабіралі. дзяўчат. Сам ведаеш. Першых сватоў не пачаставаўшы не адпраўляюць... А гэта многа значыць, калі хочаш абы толькі...

Аўтамабіляў не баяўся, але ня ведаў сам з мястэчка да Вязавіч дарогі белы, нядаўна куплены конь. І ня было каму паказаць гэта каню. Адзін расказваў, а другі слухаў—абодва вязаўскія калгасьнікі былі заняты. Надаўгад яны ехалі, пакуль ня спыніліся.

— Но, каб ты выдах!—гукнуў тады Антось на каня.

Былі яны ў вёсцы проці нейчых незнаёмых варот. А на двары стаяла жанка з вядром.

— Янук, зірні ты: наш Белы дому не забыўся,—каму яна казала—невядома: ніякага Янука, прахапіўшыся, разгледзіўшыся дзе яны, нідзе ня бачылі вязаўчаньне.

— Дзе гэта мы?

— У Анэкдотах [1],—кажа Антось,—Гэты конь з Анэкдотаў і завёз нас на сваё старое месца, трaха ні на самы двор.

— Скажэце: кудэю тут...—ужо дарогі пачынаў пытацца Адась ды:

— Эт! Было—ня было....—на нешта сьмелае адважыўся Антось.— Аднак,—кажа,—тут Здарэньне блізка,—сьцебануў ён каня і адвёз далёка ад тае жанкі Адасёва запытаньне.—Раз блудзіць!

— А гэта ў якую вёску едзем мы?—папытаўся Банькоўчык у Антося.

— У Вялікія Анэкдоты.

— Добра. А там, што праехалі?..

— Гэна Малыя Анэкдоты былі.

— Можа-б мы другою якою дарогаю?..

Быў непаваротны, цяльпукаваты Адась Банькоўчык—акурат традыцыйны гэрой беларускае літаратуры. Абы абмінуць сьцісла трапны—такі нязвыклы ў нас—анэкдот, ён гатоў быў даць вярсты тры апісаўчага, матывавальнага кругу.

Але быў з традыцыйным Адасём Антось Драніцкі—утрапёны чалавек.

— Іначай няма дарогі ў Здарэньне. Толькі праз Анэкдоты ехаць трэба,—а ён добра знаўся ў гэтым баку.

Ды, пакуль што, ані не разумеў Банькоўчык Антося. І на што яму—утрапёнаму—тое Здарэньне?

— Паедзем у сваты: аднак вечарэе,—Пазьней той растлумачыў.— Толькі выбачай: ня першыя будзем. Па сваім даўнейшым сьледзе цябе павяду.

---

[1]) Анэкдоты - вёска такая пад Здарэньнем ёсьць. Дайце рады.

— А мешалкі мы не заробім, як добра да свата прыгледзяцца.

— А во,—узяўся Антось за доўгія, пушныя свае старэчыя вусы.—І не падумаюць пра падабенства.

— Чорт яго... ня мог адважыцца Адась.—А потым...

— А потым: другі раз ня прыедзем... Вып'ем сабе, закусім, а там—першы і апошні раз яны нас бачылі.

— Ну, калі так, то—давай,—пасьмялеў Адась.

Добра дарогу знаў Антось у гэтым баку. Зрабілі яны за Анэкдотамі дзьве павароткі і ўехалі ў самае Здарэньне—у новую, Адасю незнаёмую вёску. І што яшчэ цікавей: якраз перад тэю хатаю сутрымаў Антось свайго белага, калгаснага каня, дзе дзяўчына была напагатове, каб замуж пайсьці.

Сватоў прынялі ветла. Частавалі добра. Доўга зацягнулася сватаньне. Пад паўдня назаўтрае ўехаў палявод з кавалём у Вязавічы.

З калгаснае аборы вазілі гной. Якраз з поўным возам давялося разьмінуцца запозьненым сватом.

— Гэта вы яшчэ ад учарашняга?—пераяжджаючы вуліцу, папытаўся калгасьнік.

— А дай рады!

У аборы дзяўчаты накідалі гной. Пачулі паляводаў голас. Ужо ўсякіх жартаў і меркаваньняў было ў Вязавіч—чаго-б гэта заначавалі Антось з Адасём у мястэчку. І цяпер цікава было дзяўчатам падхапіць ад іх самых самую праўдзівую навіну пра гэта здарэньне.

Павыходзілі на вуліцу накідальніцы. Заступілі дарогу, як на рабоце былі,—так і вышлі—з сахарамі.

— Дзе гэта так забавіліся?

— У сватох,—сутрымаў Антось свайго белага, блуднага каня.

— Што вы на гэта скажаце?!..—сьмяецца ён.

— Праўда?—гуртам прыступілі дзяўчаты да Адася. І Волька Лысаковічаўна стаяла сярод іх, узапёршыся на сахор, чакала, што Адась скажа. А той маўчаў. Што яму казаць? Ды і на што? Першы і апошні раз яго там бачылі. Што ён другі раз туды паедзе, заручыны будзе рабіць?.. Маўчаў Адась, бо ня даў бы яму салгаць сват.

Тымчасам наўкола фурманкі ўсё прыбываў гурт.

— Чулі...—падышла сюды з другою навіною Адасёва меншая сястра.—Чулі, якую Мятліцкага шалахвост на вас лухту вярзе? «Што гэна, кажа, калгасьнікі, як аблудныя, ходзяць» ды паказвае сюды. От толькі што, вуліцаю ідучы, чула.

— От, скажы, не дадуць сучцы прытону.

Ніякай навіны ад мужчын не папаўшы (таму, аб чым Антось прагаварыўся, не паверылі), на зусім іншае пераскочыла ў дзяўчат гаворка.

— Дадуць. Не бядуй. Далі Мятліцкаму,—дадуць і Мятліцкай.

— А дай рады!.. ужо другі месяц на казённым хлебе пане Мятліцкі...

Умяшаўся ў іх гаворку і Антось. Быў ён гаспадарны чалавек ды й палявод к таму.

— Ідзеце,—кажа,—дзяўчаткі, накідаць, ато зараз прыедуць па воз, а вы тут гульма гуляеце.

— Вязі,—кажа на Адася,—каламажку,—а сам ён зьлез з воза і пашоў парадкавацца на калгасны двор.

— Адась!—гукнуў палявод з двара.

Той ужо далекавата ад'ехаўся быў.

— Што?—лейцамі сутрымаў ён крыху каня.

— Ты-ж яе ў Януковым таку пастаў. Каня на пашу завядзі. Глядзі не напаі толькі з дарогі.

Не залюбіў Банькоўчык апошняга загаду.

— Што я малы?.. Ня ведаю, ці што? Но!—тарkануў ляйчынаю белага.

Восень, што далей, то ўсё болей уваходзіла ў сілу. Халаднелі вечары. І тая самая была куртачка на Вольцы.

— Ну, як? Далі камандыроўку?

— Далі.

Сьвяціў белы, халодны месяц. Відно ды бескарысна было.

— Пакаж. Я пагляджу, як яны табе напісалі.

Палез Адась у кішаню. У ваднэй памацаў, у другой—няма. Усе перашукаў—нідзе не знайшлося.

— Ляснула,—казаў,—грошай сорак руб.

— І ты ня помніш дзе?

— Дзе-ж? У сватох. Каб яны скрозь зямель пашлі!

Холадна было Вольцы ў сваёй кароткай, цеснай куртачцы. Успомніла яна пра сваю дарогу.

— Трэба ісьці спаць ужо. Заўтра-ж мне заранеЙ уставаць. Каб хаця на рачьні цягнік не спазьніцца,—памалу, як бы гэта ёй нямаведама як цяжка было, расказала Волька свае новыя турботы.

— Дык чаго там надта сьпяшацца. Пасьпеешыся. Далёка там тая станцыя—тры вярсты.

— О, дзе ты бачыў! Трэба ісьці.

— Заўтра 15-га?

— Не. Але мне трэба раней.

Памкнулася ісьці ў хату.

— Што-ж ты?.. і разьвітацца ня хочаш?

— Я й забылася,—яна вярнулася, падала руку.

І пашла.

На вялікі жаль, у жыцьці здараюцца сюжэты рэдка, а ў Беларускай літаратуры ўдаюцца яшчэ радзей. Калі на жыцьцё разы два чалавеку выпадзе такая ўдача, дык і то ён ня ведае, што з ёю рабіць—да таго доўга ўсё гэта зацягне, што аж збрыдае ўсім і самому яму. Ня ўдалося гэта і маім гэроям: не зацягнулі, дык спынілі яны яго заўчасна. Зусім ня вышаў, мабыць, самы цікавы, у Менск перанесены працяг. Ды дзе там Менск?! І знаку ад яго ня было ў гэту халодную, відную ноч.

Ублыталіся ў справу сорак рублёў, і мусіў Адась другі раз туды ў сваты ехаць.

Палярэс знайшоўся.

І зноў забавіліся яны там цэлую ноч. Гаварылі сваты ды і ўгаварыліся: сказалі, розум адпіўшы, што цераз тыдзень зробяць заручыны.

Скупаваты крыху быў Адась. Ужо, каб вясельле раскідаць, трэ' было ўтратнае вярнуць. Пашкадаваў ён, што дорага абыйдзецца. Так, нехацяі, і склеілася ў яго. Папоў поблізу нідзе ня было—зьвёўся, «ня ўрокам кажучы», як жартавалі ў Вязавічах, іх нарад. Дык і так усё добра абышлося. Шлюбу ня бралі. Але былі і далёкія з шумкамі, з званкамі вясельныя пераезды, было ўсё, што яшчэ не зьвялося: і вянкі дзяўчаты вілі, і на дзяжу маладую садзілі, і песьні пяўчыцы пелі, адбіралі ў сваці пірог. Плакала і маладая над куфрам скупымі традыцыйнымі сьлязьмі.

Шырэй ступім у гэтым месцы. Тут старое, спрадвечнае, акамянелае...

Было весялосьці, музыкі ў Банькоўскіх,—аж разьлягаліся Вязавічы. Аднаго ня было там—Волькі Лысаковічаўны. Відаць быў і гэтага разу, як заўсёды, далёкі бляск над Менскам. Там была цяпер Волька ў нейкім тэхнікуме.

Можа і ня ў галаве ёй цяпер былі Вязавічы, гэта вясельле. А тут яшчэ пра яе не забываліся.

Ішло на рэчку ў халоднай восеньскай вадзе абрусы мыць Банькоўскіх вясельле. І везьлі на калгасным кані таго дня Тэклю Мятліцкую на вакзал. На зусім яна з дзецьмі ехала адгэтуль. Зірнула на Банькоўскіх, усыпаны людзьмі, двор.

— Такі не ўшчапіўся Лысаковічавых вытлуг,—успомніла яна яшчэ Вольку.—А трасцу!—асыкнулася Тэкля са злосьці і здавальненьня.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А зіма надыходзіла....

Лятаў той самы, у пачатку спамінаны, рэдкі сьнег. Далей—болей... ды пачаліся мяцеліцы, пачало сыпаць «па бабіным куску». І замяло Вязавічы, гурбамі вёску паабстаўляла.

У самыя кручаныя нядзелі пусьцілі былі Яську Лысакоўчыка на два тыдні да дому. На другі дзень вышаў быў ён, як сьціхла мяцеліца, прайсьціся па вёсцы, паглядзець дзе-што ў ёй адменнае стала. У вёсцы паміж будынкаў было ціха. Мяцеліца сунялася. Але яшчэ не працерлі саньмі дарогі—замецена была вуліца ў Вязавічах. Не прайсьці было. Калматыя ад сьнегу парабіліся Яськавы новыя, шчыгульна да нагі дабраныя боты.

З канца ў канец прайшоў Лысакоўчык сваю невялічкую вёску. Вышаў на выган. Ажно там, за Банькоўскага кузьняю ў чыстым полі сьвету ня відаць. Зьверху сьнегу ня было, але вецер драў з поля і гнаў перад сабою цэлыя хмары.

Нідзе на цэлай вёсцы нікога ня было. Толькі тут у канцы, каля кузьні заўважыў Яська чалавека. Па старым зношаным кажуху быў

ён падперазан шырокаю абшмулянаю старарэжымнаю яшчэ дзяжкаю. У шырокіх надалончаных рукавіцах ягоныя рукі здаваліся мядзьведжымі лапамі. Каб ні пры кузьні стаяў, дык бадай што не пазнаў бы Лысакоўчык свайго даўнейшага сябра Адася—так ён адмяніўся.

— Чаму ты дома?—зьдзівіўся Яська.—Мне-ж Волька неяк увосень пісала, што ты на рабфак думаў падацца.

Ня было чаго казаць Адасю. І зацёр ён гэту гаворку, як бы забыўся Яськава пытаньне.

— Хадзем у хату: чаго дубець на гэтым скавышы,—зазваў Лысакоўчыка.

За адным скрыпам з імі ўвайшла да Банькоўскіх цёпла апранутая—відаць у гадох ужо—дзяўчына. Насекла яе мяцеліца, разагрэла варушкая, ахвотная работа, і цяпер, зірнуўшы на дзяўчыну, здавалася—во зараз капне кроў з поўных, здаровых шчок.

— Дзе гэта наш шуфель дзеўся?—папыталася яна ў старой Банькоўскай, у Адасёвай мацеры.

— Трэ' было-б,—кажа,—сьцежку да склепа пракідаць... Замяло, дык цяпер ні прыступу.

— А ты ў сенцах у кутку зірні,—параіла тая з печы—з сваёй высокай старэчай гары.

Варушкая была незнаёмая Яську дзяўчына. Не забавілася яна ў хаце. За работаю, як вада ў рацэ, пашла.

— Сваячка?—папытаўся Яська ў Адася, як толькі тая схавалася за дзьвярыма.

— Дзе ты бачыў!.. Мая жонка,—як бы нехаця прызнаўся Адась.

І трэба сказаць, каб больш дакладнае апісаньне было, што ўзяў Банькоўчык «тую славу, што сядзела на ўсю лаву», пра якую ў прыпеўцы сын мацеры адпявае:

— А мамачка не хачу, бо на ложак не ўскачу.—Мажная Міхаліна, ягоная жонка, была.

Сядзела Банькоўская на сваёй старэчай гары. Шырока—ва ўсе тры акны—відаць быў ёй сьвет.

— Зірні, Адась, у вакно: што гэна за яна?—Нешта згледзіла на вуліцы цікавае маці.

Высокая, стройная, завеяная сьнегам вуліцаю ішла з клумкам дзяўчына. Ня мог пазнаць яе Адась, а маці непакоілася на сваёй цёплай гары:

— А што? Хто гэна?

— Хто яе,—кажа,—ведае! Новую настаўніцу можа прыслалі, ці што...

— Гэна-ж наша Волька,—адразу пазнаў Яська.—са станцыі... Нябось, хапіла з яе... Такая завея!

— Эт, што гэта значыць маладой тры вярсты са станцыі перабегчы,—і ня шум баравы Банькоўскай на печы па мяцеліцы быў.

Якраз Вольчыны вакацыі з братнім водпускам разам прыпалі. І яна сьпяшалася да дому.

У гарадзкім паліце ішла цяпер Лысаковічаўна. Пазіраў Адась ёй усьлед. І шкода зрабілася Банькоўчыку тае цеснаватае куртачкі, шкода ўсяго, што было ды мінулася. Ішла Волька гладкаю, мяккаю вуліцаю. Глыбокія ад яе аставаліся сьляды. Ды ведаў Адась, што пройдуць людзі, пройдзе мяцеліца гэтаю дарогаю і не астанецца знаку: даўнасьць іх затрэ, зацярушыць.

Відаць было Адасю, як ішла з шуфлям гладкаю толькі што пракіданаю сьцежкаю Міхаліна. Спынілася, на вуліцу вышаўшы, пачакала, каб першая прайшла Лысаковічаўна.

— Трэба ісьці,—убачыўшы сястру, неўзабаве устаў Яська з лавы.

— Пабудзь. Яшчэ нагаворышся... будзе час.

— О, дзе вы, цётка, бачылі! Прыду калі другім разам надаўжэй.

— Дзьве штукі маеш,—толькі цяпер заўважыў Банькоўчык сябраў каўнер.

— Хутка тры будзе,—сказаў той, разьвітваючыся.

Пашоў Адась за ім дзьверы зачыніць: ёсьць такі стары звычай. І цяжкія яму былі ягоныя пляскатыя, бяз усходу—бракоўныя ногі.

Каб ня холадна было ад пазалеташняга сьнегу, што так скупа, па каліўцу лятае ў канцы навэлі, каб сьвету не засталучыла тая мяцеліца, што далей—у кручаныя нядзелі—пачалася, пасьвеціць сонцам леташняй, 1931 г. вясны.

І хвала паводцы... як другой, так і ўсякай наступнай бальшавіцкай вясны! Усё пазалеташняе, навэлічнае—тады толькі бурбалка на шумлівай хвалі. Нахопіцца дзе ўцішку: пры беразе, ля залітых кустоў; зьявіцца крохкая, выштукаваная тысячамі нечым абумоўленых выпадковасьцяй, форма. І толькі—момант! А далей—шутане высшая, дужэйшая хваля. І знаку на тым месцы не знайсьці—зьмяшалася, зблыталася і далей пайшло.

Але можа такі не растаць, сцаглянець і астацца крохкі пазалеташні сьнег. Скупа, па каліўцу на кадр будзе цярушыць ён, дробнымі белымі кропкамі абсыпаць цэлюлёід кінематаграфічнае стужкі. І так да самага канца няма канца на яго. А ў канцы прычынньнік наравісты, сваволыны рэжысэраў мантаж. Але спыніся, пусьці нанава—і пачнецца табе спачатку пазалеташняя мяцеліца. І ня ў голаве ёй, цэлюлёіднай, што дораг час, што новая паводка блізка.

---

**Мікола Хведаровіч**

# РАДЗІЎСЯ ЧАЛАВЕК

## ТАК БЫЛО...

На моры хваля гнала хвалю,
Раджаўся дзень, зьнікала ноч,
А ў поўнач совы заікалі,
Пільнуючы трухлявы корч.

Людзкія рукі ў працы нылі,
А зрок ярчэў ад шчасьця—жыцьць.
Зямлю жалезам паланілі,
Змываючы сьляды іржы.

І засявалі зернем. Ў стоме
Набухнуўшы жытлом, палі
Буялі сьпелаю саломай
І нанава яны цьвілі.

Зярнятамі, пахучым клёкам
І зыркасьцю ў жыцьцёвым тле.
Такім уцешным зорнавокім,
Раджаўся хлеб, пахучы хлеб.

Зноў абуджаліся узьлёты,
Ізноў раскошаю цьвілі.
І сьмех, і радасьць, і турботы,
Надзея, праца і палі.

Багацячы зямную раду,
Ад скону дня, ад веку ў век
Жыў хваляваньнем, заняпадам,
І ўзьлётам сьмелым чалавек.

Здабыткамі ён славіў гора,
А потам—дні свайго жыцьця,
Няўцям была яму пакора,
І скон жыцьця яму—няўцям.

Багацячы зямна палацы,
Ад скону дня, ад веку ў век
У муках, болю, поце, працы
Радзіўся волат-чалавек.

На моры хвалі гналі хвалі,
Раджаўся дзень, зьнікала ноч.
І неабдымнасьцю крылялі
Абшары васільковых воч.

Лясы сьпявалі безьліч песень,
І сонца высьцілала шлях.
Праменьнем яркім паднябесься
Здавалася яму зямля.

Яна дарыла безьліч працы,
Бяздоньне гора, змрок начы.
І дужасьць стала завіхацца,
Каб гэты змрок перамагчы.

Багацячы зямна палацы,
Ўзыходзіў дзень, праходзіў век...
У болі, радасьці і шчасьці
Радзіўся волат-чалавек.

## І ГЭТЫ СІНІ ДАЛЯГЛЯД...

І гэты сіні далягляд,
І гэтыя сьляпыя далі,
І гэты піразірк назад—
Хаду яго зачаравалі.

Як мор, захопніцтва сьцяло
Гарачую узьнёсласьць зрокаў.
Сьціскалася тужэй сіло
Прадажных дзедаўскіх аброкаў.

За перагонам—перагон,
Ня зьлічыш гэтых перагонаў,
Буянасьць дальніх берагоў,
Заўзятасьць паланелых гоняй.

Хадзьба няведамых хадкоў
І папярэднікаў шуканьн,
Сьляды іржавыя падкоў—
На парастках усходаў раньніх.

На костках мору і маны,
На багне чалавечай славы
Буялі сокам дзірваны
І дзідамі шляхі паслалі.

Зямлёй арудаваў Васал,—
Бязьмежнасьць ніў яго пшанічных,
Уласнасьць, дужасьць сам-на-сам,
Закону жорсткае аблічча.

Сьвятыня—статуй багача,
Ад нашчадкаў зьвіняць трамбоны,
Жабрацтва, бэстасьць палача
Людзкою больлю нявымоўнай.

На гэтай потайнай хвальбе,
На выдумках яе акрасы
Гугнява змоўленасьць скрабе
Шкрадою ўласнай перагасы.

А гэты сіні далягляд,
І гэтыя сьляпыя далі,
І гэты перазірк назад—
Хаду яго зачаравалі.

## ДАРОГАЮ ЯГО ЖЫЦЬЦЁВАЙ...

Дарогаю яго жыцьцёвай,
Бясконцай пуцявінай шчасьця,
Нязьмерна горка-палыновай—
Ня суджана яму прапасьці.

Бывае холад няньчыць люта,
Бывала расьцьвітаў ён ружай.
Яна—жыцьцёвая пакута—
Загартавала крута дужасьць.

Дарогаю яго змаганьня
І зараз вецер люты студзіць,
І зараз сонечнае раньне
Хвалюе і ласкоча грудзі.

Яно палоніць прагай ўзьлётаў,
І творчых дум яго бравада
Крыліць бясконцаю работай—
Штодзённасьць і жыцьцё і радасьць.

Але навокал ломяць коп'і
І кожны час трымціць крывава,
Шаленьне існасьці ў таропе—
Здабытак на пражытак права.

З багацьцем спацыруе дужасьць,
Шалеючы ад прагі шчасьця,
І кажанамі здрада кружыць
І чарнакрыльлем сонца засьціць.

Прыжытая вякамі помста,
За каплю першай асалоды,
Балючым муляе наростам,
Крывёю сочыцца, нязгодай.

Скіліць жабрачаю асінай,
Лютуе сіверам на багне...
Змаганьня кожная часіна
Скрыгае ў ярасьці зубамі.

Дарогаю яго цярністай—
І замяць бесхацімна цьмее,
І сьпеў лютуе урачыста
Глухой начы Варфаламея.

А ён, упарты і нязломны,
Гартованы ліхой нядоляй,
Руйнуючы усе законы
Куе сабе жыцьцё і волю.

Ясноты для жывога слова,
Упэўненасьць крылатай справе,
І росквіту для творчых сховаў,
І права чалавечай славы.

А шчасьця-ж хопіць ўсім на сьвеце,
Яго здабудуць працай людзі...
Праз стому, скрогат ліхалецьцяў
Яно надзеяй песьціць грудзі.

## КАЛІ ТЫ БУДЗЕШ ЖЫЦЬ...

Калі ты будзеш, волат, жыць,
Прыгледзься ў навакольнасьць кемна.
Жыцьцё ў таропе мчыць, імжыць,
Там горды творца і нікчэмнасьць—

Заходзяцца ў такой гульні,
(Яна жыцьцёваю завецца)
Яглом сабачае ганьні
На ружах дня—абраза сьмецьця.

Пакуль кірунак твой цьвіце,
А зрок імкнёны прамяніцца,
Калючы вязь табе пляце
Нікчэмны і зайздросны хціўца.

І дзідамі—на сэрцы чмар
Твае жыцьцёвае таропы.
Ў насупе валавяных хмар
Тваім зрабіўся далакопам.

Другому поперак нажом
Ляжыць тваё зямное шчасьце;
Яго ён ціхенька, выжлом
Прытворна мерыцца абкрасьці.

Яму няўцям праліты пот
І чэмер дзён жыцьцёвым бродам.
Юліць на словах абармот,
Карціць тваею нагародай.

І сябра дзён твайго зямна,
Любові нявымернай шыры—
На справе здраднік і мана,
На словах хціўца і няшчыры.

Ненавісьцю спалі ты іх,
Гаці ў бяздоньне збродаў згубкі:
Яны на радасьць дзён тваіх
Каравыя працягнуць рукі.

Яны спрадвеку чорны сьлед,
Паклалі у ясноты даляў.
Цьвіце бясчынства курасьлеп,
Гаціць уходы кукалямі.

Ўвесь гэты чорнакрылы зброд—
Падонкі, дзён былых акраса,
Як водгук апантаных год
Эксплёататарскае клясы.

Яно—прыжытае—карціць,
Шукае свае выйсьце ў новым,
Каб дзірванамі парасьці
І чмарам горкім палыновым.

Зьмяці нянавісьці агнём
Асколкі дзён былой аруды:
Яны трухлявым цьмеюць пнём,
Пачварным асядаюць хлудам.

Агнём пылае ў сэрцы кроў,
А далі радасьцямі клічуць,
Зьмяняе воля змагароў
Зямлі скарузлае аблічча.

Ў змаганьні тым гартуйся сам,
Адзінай барацьбой адвеку,
Каб нашых новых дзён краса—
Паўстала постаць чалавека.

## Я ЗАЎВАЖЫЎ ЗЫРКАСЬЦЬ ВОЧ...

Я заўважыў зыркасьць воч,
Разбэшчаную волю прагі;
На вуснах—сьмеху ператоч,
Клумок адходлівай зьнявагі.

На сонца зырыш гэты сьмех—
На дол праменьнем ён лажыцца...
Рашчуленасьць злавіць прымей
Хваленым каласункам жытца!

Твой шлях праменьне залаціць,
Туманны-ж досьвітак стапнее.
Бадзюгі змрокі калаціць
Заўзята рушыла віднея,

Яе ня спыніш. Барацьбой
Да перамогі прыйдзе сьветлай:
Незабракованы набой
Агнём на сэрцы змогу петрыць.

Я заўважыў дужы рост
У думах воч чарнявай смолі,
І росквіт чалавечых кроз,
І радасьць чалавечай волі.

Хоць вілаваты боек шлях
Хоць сьлед хады ў тузе сумётаў,
Хоць недамораная тля
Пачварай мерыцца употай—

Шалёны часу кругабег,
І зьмена дзей яго—бясконца:
Ў змаганьні, стоме, барацьбе,
Радзіўся найвялікшы творца.

Яго здабыткі—множаць дні
Геройствам, гонарам, адвагай.
Зырыць вачэй яго агні
Крыніца нявымоўнай прагі.

Гісторыя, шалёны бег
Твой зачарованы спрадвеку,
Але ў зацятай барацьбе
Радзіў ён творцу чалавека.

Яго я заўважыў рост,
У думах воч чарнявай смолі,
І росквіт чалавечых кроз,
І радасьць чалавечай волі.

## ЗАЎЗЯТЫ ЯХ БРАХНІ...

Заўзяты ях брахні
Лісьлівы цягне хвост.
Крывавых дзён хадні
Паложаны на прост.

У стоме ноч прайшла,
На небасхіле—рань,
Паўночная віхла
Мяркуецца зыраць.

Разьбіты чорны склеп,
Шалее тхла хаўрус.
Паломаную клецъ
Пільнуе зброд спакус.

За далягляды ніў
Туга зямлі спадзе,
Адменнай цяплыні
Прыходзіць новы дзень.

Ён сьпетрыць змовы бруд,
Разьвее сон начы,
Уласьніцкіх аруд
Спапеліць гніль-карчы.

У скарбах тых яго—
Жытло і сьвет вясны,
Праменны переразвон
Ад ніваў каласных.

За далягляды ніў
Туга зямлі спадзе.
Адменнай цяплыні
Прыходзіць новы дзень.

17-XI 1932 г.
г. Менск.

Сяргей Русаковіч

# ДЗЬВЕ СІЛЫ

(З „Навумавых казак“)

Немаведама што кажуць людзі, хоць вушы затыкай. Ото-ж гаворак—не абабрацца! Усёроўна, як у звон б'юць:

— Яго арыштавалі!

— Ён злачынца!

А таго й ня ведаюць: адкуль гэты чалавек, хто ён, якога роду? Касьці: белае—чорнае? Веры: праваслаўнае—нехрыст?

От гэтага ўжо цікавыя не пасьцігнулі ўведаць. Калі хто папытае, дык толькі адказ, што паціскаюць плячыма. Знаць:

— Хто яго ведае.

Адно і п'ялець. З языка на язык перакідваюць. Цёмныя месцы абмываюць сьлінаю. І тады невядомае спакваля акрэсьліваецца, набывае пэўную форму і ва ўсёй сваёй таемнасьці і велічы паўстае на самым відным месцы. Як на паказ. Глядзеце!

— А-а,—дзівяцца тады разявакі,—гэта-ж была і ня хітрая штука. От бок немач на яе: жыў-быў і ня бачыў.

Так было і тут. Сьпярша гаварылі потайкам, вуха на вуха. І чуткі хадзілі непрыкметна, на дыбачках, праціскаліся па завугольлі, пішчанніцаю лезьлі з хаты ў хату, а потым праз платы пералазілі і на вулку—больш шыршае месца, там разрасталіся, павялічваліся і праз дзён колькі т'кі выткнуліся на вуліцу. Тады людзі пачалі гаварыць:

— Ня наскі чалавек гэта.

— Супроць калгасаў падбухторвае.

— Пра вайну, маўляў.

І чуткі ўсё павялічваліся. Пакуль аднаго разу, здаецца, сьвятым днём, не зьявіўся і сам невядомы.

Быў ціхі летні дзень. Паветра вісела, што ў мяшку. А сонца расьпечаным аладзьдзем дымілася на шырокай скавaрадзе неба і сваімі пасмамі ўпіралася ў зямлю. Гулі авадні, бзыкалі здракі. Гудзеў і стары выімшэлы царкоўны звон. Іржавыя гукі здэтаваным голасам падавалі трывогу. І народ валма высыпаў на вуліцу, пацягнуўся да царквы. А звон клікаў дзіка, гамавана. Праз колькі год ён азваўся і падаў голас на ўсю парахвію. Забыты, ні кім не заўважаны, вісеў ён на старой званіцы і цяпер, мусіць, перад скананьнем уздумаў разь-

вітацца з сваімі прыхаджанамі. Гудзе, гудзе стары звон. Каля яго завіхаецца набожны Яўмен—асавецкі багатыр. А народ да аднае душы, як на які фэст выкацію. Паразяўлялі раты, пазадзіралі галовы сівабародыя мужчыны, а звон так і лезе ў самае нутро, шчыпле за сэрца, кранае здранцьвелыя нэрвы. Ня ўсьцерп тады чалавеку, і ён уклёнчвае перад царкоўкаю, раняе апошнюю сьлязу. А звон прадсьмяротным хрыпам даконвае:

— Блям-бам-бу-у-м...

Ось тады, як з-пад зямлі вынырнуў у натоўп маладжавы чалавек. На ім была сьвяшчэнная рыза і на сонцы, аж палускалася. На ўсе грудзі ляжаў, прывязаны на ланцужок, бліщчасты крыж. А ў руках зіхацела новая ў залатой аправе кніга. От ён яе разгарнуў, падкаціў пад лоб вочы, прыпадняў уверх галаву і, пачакаўшы пакуль Яўмен благаславіў мірам народ, пачаў служыць казаньне. Паднёс яшчэ бліжэй, да воч, так каб захаваць свой твар, сьвяшчэнную кніжку і басавітым расьцяжным голасам зароў:

— Сьвятое пісаньне Мікалая Чудатворца і непарочнае дзевы Марыі... Стаіць народ, як укопаны, не зварухнецца. Слухае сьвятую казань пра надыходзячы голад, вайну, пра сусьветны патоп, пра тое, што сьвяты Саваоф загневаўся на свой народ і пачынае яго выракацца. Насылае розную пошасьць, хваробы, а на палеткі—няўрод.

— І настане такі час,—казаў той падстрыжаны чалавек,—што ўсявышні Саваоф спыніць падаваць на гэтую пранцаватую зямлю сьвятло і цяпло. Тады людзі, як мухі, падохнуць на зьледзянелай пустыні. Недапусьцецеся, парахвіяне,—яшчэ раз заклікаў у зьнямозе маладжавы. Хадзеце ў царкву, малецеся богу і ўсявышні зьлітуецца: прыме ваша пакаяньне. Зноў павядзе сьветлаю сьцежкаю да раю зьбітый з панталыку на паўтропе народ. Памяркуйцеся дома з сваімі жонкамі, раскажэце ўсім, хто сягоньня ня чуе, і заўтра ўсею парахвіяй прымеце веру божую Тады будуць вашы ізноў радзіць загончыкі, зьнікне з поля чортавая сіла, **што так руйнуе ваша** ўласнае, спрадвечнае, і вы зноў зажывеце, як і жылі. Саваоф вас не пакрыўдзіць. То мірам госпаду богу памолімся.

І Яўмен падхапіў:

— У царкву праваслаўныя!

А натоўп не зварухнецца. Слухае і сваім вушам ня верыць. Усё падступаецца бліжай, загінае вобадам, упіваецца вачыма ў невядомага і хрысьціцца. Гэты лад таксама вядзе Яўмен. Ён ведае, калі палажыць на грудзі крыж, каб гэта было ў помачы і сабе і богу. Ня дарам ён быў тры гады царкоўным папячыцелем, а потым даслужыўся і павышэньня: зрабілі прыходзкім старастам. Сочыць натоўп за абодвымі: перш з аднаго вачэй ня спускае, а потым з другога.

І падстрыжаны ўсё папраўляецца, сама ўваходзіць у сілу.

— Памолімся, парахвіяне, выганім злога духа з сябе...

Ашаломлены натоўп сьцепануўся, затудзеў на розныя галасы, як раздражнены рой:

— Ойча наш іжа ясі да нанебясі асьвяціцца імя,—і маладжавы падхапіў,—тв-а-ё-а...

— ... Благаславі госпадзі... Чэлавеко любчэ... Прыідзіце ко мне ўсе труждаюшчыеся... аз успакою вы...,—ляцелі ў прастору гукі новых малітваў, абуджалі ціхае наваколье, пошчакам адбіваліся ў цьвінтарскім майдане і беглі ўгрунь, туды за ваколіцу, дзе бязьмежная шырыня сенажацяй, неаглядная роўнядзь падолу, ось там заблытваліся ў павіху і ад зьнямогі каналі. Гэта быў сапраўдны вэрхал, што набыў урачыстасьць. Надрыўныя галасы пераліваліся рознымі ладамі, разьбяталіся ва ўсе бакі, а потым ізноў з разгону зьліваліся ў адзіны магутны акорд. Цягнулі хто што ведаў усе пагалоўна.

Нямаведама, што было-б далей, як раптам:

Ізноў заенчылі немым голасам званы, загаласілі, затужылі і ўсё мацней, званчэй, шырэй. Покатам разьлягаецца цьвінтар. Захістаўся натоўп, заварушыўся, аж бачыць: ідзе іх колішні бацюшка служыць малебства. Зжахнуўся натоўп, перахрысьціўся і павольна рушыў у царкву, гэты дзень прыпаў якраз на Іспаса.

Што гэта: уяў ці здань? А можа дзіўны сон пракавеччыны? Хто яго ведае, нешта некалі было, але не за нашым ведамам. І толькі пасьля яго засталося ў народзе адно паданьне. Людзкая памяць яго захавала, пранесла ў вякі, як успамін аб далёкай мінуўшчыне. Астатняе праспалі асаўчукі і яно адышло ў небыт. От што кажа паданьне пра таго невядомага. Мне кожын раз апавядае яго сівы дзед Навум. І я слухаю з цікавасьцю, як дзейку пра вякі-ваяцкія. Сачу за кожным яго словам, углядаюся ў маршчыністы лоб, лысую голаў і сам сабе думаю: «Колькі гэтага чалавечка, а чаго ён не пераўжыў?» Мяне апаноўвае пырхун-сьмех над дзедавою шчырасьцю і я зноў пачынаю слухаць яго ўлюбёную казку. Адно ня ўтрываць, так і вярзецца: «а каб-жа 'шчэ да й барада вылезла, што-б тады ўжо лаганіў стары». Навум відаць здагадваецца пра мае кпіны, бо яны час-часом прарываюцца рогатам, і хітра пачынае сачыць за мною. Я, каб увільнуць ад небясьпекі, запрашаю да сябе больш слухачоў. Дык от прысядзьце і вы да мяне, паслухайце (разам некалі пакпім), Навум за гэта не пакрыўдзіцца.

— Прышоў ён, дзеткі, з далёкага краю. Ад самага сьвяцейшага зямнога цара—рымскага папы. Гэта нейдзе там: далёка, далёка, за нашаю грэшнаю зямлёю, за водамі, акіянамі, морамі. Там, кажуць, ёсьць сьвятая выспа, і жывуць на ёй усе зьбеглыя, што выракліся свайго народу багі. От старшы з іх і прыслаў свайго лепшага вучаніка на нашую азяблую плянэту, каб ён паглядзеў, што робіцца цяпер на яго калісьці бытаванай, пракавецкай зямлі. Знаць, шкода стала ўсявышняму Саваофу свае даўніны і ён зьлітаваўся над сваім праваслаўным хрысьціянскім народам. І выправіў свайго лепшага насьледніка да нас. А як адыходзіў той: Саваоф прачытаў яму на дарогу, каб бясьпечней было ісьці, усе дванаццаць запаветаў і благаславіў:

— Ідзі, мой сынок, на чужацкую зямлю, перахрысьці свой працавіты народ, выведзі яго на верную тропі і вярніся. Няхай ведаюць,

што мы свае касьці не адцураліся. А тым паганцам-баламутам не дазволь танцаваць на дзедаўскім папялішчы. Памятуй, сынок, пройдзе гэты чорны вецер і ізноў сонейка абагрэе пакрыўджаных. Ідзі, да спасе цябе сіла гасподняя,—і Саваоф злажыў у кучку тры пальцы і налажыў хрэст свайму насьледніку.

Гэтак, кажуць, выпраўляў сьвяты Саваоф у краіну чорнага ветру свайго першага вучаніка. От і ўсяго ведаюць, покуль што, пра яго нашыя людзі. Больш, а ні мур-мур, хоць язык адрэж, ня выцягнеш слова. Можа таму і цяжка дайсьці праўды. Бо ад таго невядомага даўно ўжо ўстылі сьляды, як растаў чалавек, прапаў без весьці. І толькі адно паданьне, дык то варажы на-двае. Бо:

— Хто, скажам, чуў як чытаў Саваоф сваё благаслаўленьне сыну? Хто быў з грэшных на тэй невядомай высьпе, калі там рай сьвятых? Хто, нарэшце, бачыў таго прахадзімца на нашай зямлі?

А ну, стары, за табою слова, пакратай сівізну галавы, пачухай патыліцу і давядзі: што гэта ня быў які бяздомны валанцай, а сапраўды вучанік Саваофа, тады будзе твая праўда. А так ні за што не паверу, як ты нерастапырвайся, а скажу:

— Дзед Навум хлус!

Цішыня, ніхто ні рэкне, ні гу-гу. І мой дзед упрындзіўся: апусьціў уніз голаў, замармытаў сам-сабе нешта пад нос і яшчэ больш насупіўся. А потым нішкам устаў, пацягнуўся, сплюнуў пад ногі ўсю чэмерыцу одуму і зірнуўшы на мяне вільготнымі вачыма, пашкрындаў. Тут я і зьмікіціў.

— Дзядуля,—клічу я,—на, вазьмі паўлітру, яшчэ падудукаем!

— Тога-ж,—азваўся весела стары.—Паезьдзім ужо, сынку, па Лібава-Роменскай.

І ізноў пачынаецца беспрасьветны туман... Слухайце, нашчадкі! Гэта кажуць людзі старога сьвету. Іх памяць ня нашай раўня, ні зблынышць: што дзеяцца сягоньня праз сотні гадоў пранясуць: прадзеды дзедам, дзяды ўнукам, а ўнукі дзецям, праз адно пакаленьне ў другое, але ня згіне бяз ведама здань пракавеччыны і чым сівейшая барада, чым гусьцейшы туман засьцілае павекі, тым большая праўда!

II

Як і запаматаваў Навум: ня было на асаўчукоў упыну, ня жылі яны ў злагадзе. Яшчэ здаўна раздваіліся на дзьве вялізныя плахі: валочнікаў і шасьцярыньнікаў. Прайшла тады паміж імі глыбокая разора і ў любкох на полі перапнулася шырокаю граньню, што адным канцом сточвае селавую вуліцу, а другім, як звочыць, сігае, аж пад самы выварат—упіраецца ў плячыстыя будыніны прытаманнага багатыра. Ад таго і распаліся вяскоўцы на селавых і хутаранцаў, гаспадароў і падданых. Таму і загібелі астатнія на сваіх загончыках, пакаржанелі, падрабнелі. Пачалі дзяліцца, буяць. Таўчэцца народ на сваім селішчы, месіцца. Рэўма раве, шукае выйсьця, ратунку. Лезе сам у нерат, толькі настаўляй. Бо: голад ні цётка, зубоў ня лічыць.

У самую нетру, у твань прэ, покуль ёсьць гізунты. Так здаўна зараявала хутаранская апалея над «чорнаю косьцю», адужала працавіты мазоль і ўсьсела на карак.

Угавеў на сваім седале і Яўмен. Наймітьг ўсё ахуроўваюць, надрываюцца. А ён гаспадар і зямная сіла—пахолак. Людзі ў жабрацкіх торбах з тоўстымі шкутамі, мяшаюць ральлю, скародзяць. Белабрысыя падлеткі супоняць коняй. Нядэшлыя, хілыя калекі рыпяць гаворкаю ў начлезе. Старыя, задрыпаныя бабы носяць на сваіх гарбатых сьпінах раньні смычай у шкутаванках. Ціхія дзеці пераззоньваюць галаскамі на выгане, ад ранку да цямна: пасуць сьвіней. А Яўмен?

Валюхаецца па вуліцы. Не сьпяшаючы, роўна кладзе на пяску сьляды сваіх грузных чобатаў, што выштукаваў пашыць 'шчэ з гамбургскага тавару. Пераціраюць набойкі жаўтапёсак па каменьню, хрумстае ён пад важкай Яўменавай ступнёю: так злосна, адчайна, як і сама мурлаватая натура гэтага чалавека. (Воўкам жыве такая патвара і людзі маюць яе за зьвераватую). Таму калі ідзе цяпер Яўмен насустрэч разбыханага гурту селавых, дык ніхто яму спагадна не саступае з дарогі, а, як знарок, варуюць—вастрэй сьцігаюць вокам на палеткавую грань, не ўважаючы на ўладнасьць гэтае асобы. От-жа і ня змыляцца барадачы; толькі скрывіўшыся патрэсваюць галовамі—знаць, ня лёгкая доля бядачая.

— Чаго так утарапіліся, дападныя,—ціхам ня мінуўшы, боўтнуў языком прышэлец. І сам у растапыранай хадзе прыстаў ля абвіслых, пылам абкураных селавых мужчын.

Застылаcьць тварaў адразу сышла. Яўменаў прыход падаў слова і ўсыпаў жару стройцца далей, на яго-ж самога. Бо не хацелі-ж людзі больш намульваць каркі на чужую весялосьць і не сваю спажыву.

— От думаем забраць прыбач па той бок грані, а то яна там пустуе. Нам-жа няхваткі. Ладам хочам зрабіць: бяз ніякае калатні—табе нічога не адыйдзе і нам палепшае,—адказаў за ўсіх рослы чалавек, выбіваючыся з натоўпу.

Як з грому, скаланулася ўсё жывое на Яўмену. Ікаўкай захадзілі сківаны. Пусьцілася ў гулі пад ім п'яная зямля, закружылася бязладным карагодам. І думкі разьбегліся ва ўсе бакі, быццам кругі на вадзе: ганіся—ня зловіш. Вырываецца грунт з-пад ног уладарства: гальтва горне да сябе. Таму ён, каб паказаць сябе яшчэ ў сіле і ня даць патачкі да большага, гамзануў, прытупнуўшы нагою:

— А кідун вас, гультаі, не забярэ?

І больш не згадаў што. Гэтак яму ўлучылі ў самае балючае, што гадамі заплывала рачным плывуном, каб сёньня скрануцца з застойны і выбегчы на сьветлую жарству, каб людзі спляснулі рукамі і ў дзікім захапленьні пусьцілі халодную сьлязу, убачыўшы праўду—так, як раньняю вясною пускае параненая бяроза жыватворчую кроплю соку, убачыўшы шчодры прамень сонца.

— І не кране,—выгукнуў рослы.

Мацней зардзеўся Яўмен: нянавісьцю, буем, адчаем. За колькі год свайго седзішча на папоўшчыне яму так ня прыходзілася насты-

рацца з селавымі, пераедаць сваё нутро. Тады пакорней веяла адусюль: прыцiснутыя ня пішчалі, зносілі моўчкам наканаваную няволю. Цярпелі гадамі няпраўду і зьдзек, покуль аднаго разу неяк усё не перавярнулася дагары нагамі. Так, як і цяпер глядзіць народ не свае крэўныя набыткі, так і тады ён ня сьмела працягваў сваю дрыжачую руку. Але акрамі—адмысловы.

Адказваць ня было чаго. Лепш прайсьці скрозь зямлю тую часіну было лягчэй, як перапускаць аблавухім на пух вырабленае, вышэшчанае, да' кожнай пясчынкі перамацанае поле. Але хто каля яго так завіхаўся? Чые рукі былі прыдатнымі?

— Памеркаваць трэба, чалавеча,—зноў аказаліся селавыя.

І гэты раз Яўмен змоўчаў, сьціхатою прастояў. Затое на адыход не паскупіўся, а прыскам у вочы сыпнуў:

— І мох і дзерава паелі—пачынайце адзін другога.

От і пайшла з таго часу дзейка ветрам-сьвістуном: па хутарох на сёлах—покуль ня вытхалася з памяці сёлавых Яўменава прыбач.

А тады-ж яшчэ доўга глядзелі яны ўсьлед лемяшыстаму на дарогу, пакуль не схаваўся ён у сваіх варотцах. А як зьнік, ну то й сьмялей лупнулі людзі на палетак: глядзець, ці ня прыбывае гэта да іх зямля, ці не пасунулася часам тая шырокая грань, туды—на папоўшчыну, каб больш ім разрасьціся, пусьціць карані, засяліць унукамі ўраджайнае поле: дар на жыцьцё парабком.

... Так і не ўнаравілі асаўчукі свае крывоты: маракуюць, бочацца. З новым маладзіком да яе прыкідаецца вогнік: ядраны, зыркі. Ад яго плюшчацца вочы, супяцца бровы і падымаюцца шасьцярыньнікі: шчапінець хіб, вяргуць, рахуюцца (як раз, бы тады за дзень да Іспасу):

— Півося гавее!

— Чым мы горшыя!

— Забраць і квіта!

Хіба от калі зачапіў гаплік за жывое. Пацягнуліся селавыя на палетак, да тае шырокае грані. З доўгім шнуром, з ланом тычак, з слупамі, рыдлёўкамі, сякерамі: па зямлю, па надзел, сэрвітут, за праўду, за роўнасьць, за волю. Так ішла першая разьведка ад імя селавых: Сьцяпан і Рыгор—Навумавы ўнукі.

... Відаць доўга блудзілі гэтыя людзі па каструбаватаму полю, покуль адшукалі той межавы слуп. Ад яго і пачалі весьці абрэзкі. (Так казка паступова разьвінаецца ў праўду: каламутную, задзёрыстую). Перш-на-перш зайшлі ад пляцыстых Яўменавых будынкаў—самага вывярату. Адхапілі ўвесь той правы лот за дарогу—перарэзалі напрамік. І новую мяжу пачалі пракладваць слупамі: сьвежымі, смаловымі. Так было яшчэ ўчора. Сягоньня-ж адтуль ужо не папускаюцца: Яўмен сьляпіцаю выдзірае вочы, хоць ты яму кол на галаве чашы—усёроўна і ня прыступу, на ўсё поле разяецца, як ня лопне:

— На маё ні нагою, галаву сатну! Бачыш апастар?—і ён паказвае на шворан.

— Чым! Чым! Гадзюка ты печаная,—заядаецца Сьцяпан.

— Ня век будзеш гавець, за маё-маё пусьцім,—наперад выступае Рыгор.—Аддасі і сам сабака папоўскі, як ня віляй.

— Аддам, але ня табе, трутню.

— Ня мне, а вобчаству, грамадзе цэлай.

— Рыгор, ці варта з дундарам гарланіць. Прабівайма лінію на вунь той слупок. Годзе яму раяваць на чужой шыі. Угавеў за намі. Няхай падставіць свой пуп. А зямля дзяржаўная—уласнасьці няма і папоўшчына не яго. На ёй збудуем калгас наперакор усёй апалеі.

Ня церпіцца Яўмену, сквярэцца ад злосьці, захліпаецца:

— Не дазволю, не папушчу. Закон?.. Права?.. Каму калгасы, а з каго кішкі ідуць на кілбасы. Галадамір! куды цягнеш? назад!—і Яўмен яшчэ мацней сьціскае шворан у руках.

— Выроўнівай шнур,—павольна гукае Сьцяпан. А сам ўвесь і расьце, як на дрожджах. Ня вымераць, ня выважыць яго буйнае дужасьці. Каранастыя плечы, прысадзісты рост, малыя зажмураныя вочы сочаць за кожным рухам разьятранага зьвера. Павольна кладзецца лінія ўздоўж Яўменавых азяродаў. Такжа паціху падступаецца ззаду на дыбачках Рыгорава сьмерць. Хвіля і... бачыць Сьцяпан, як нейкі чужы маладжавы мужчына ўзмахвае войстрым шклюдам над Рыгоравай галавою і от-от хоча яго апусьціць, але...

... Вакол ціша. Зямля вее летняю сьвежасьцю, глядзіць васільковаю пожняю, усьміхаецца роскітам водырных красак, шуміць не пажатаю яшчэ ярынаю і дзіву даецца, як лашчыць яе халадок, рашчэсвае русыя косы, уплятае касьнікі ў ветлую галоўку, песьціць жніўнаю песьняю, цалуе і...

Спрунжыняцца рукі, сьціскаюцца пальцы, шчэрацца зубы, дыбяцца косы, уздымаючы грудзі: Сьцяпан выступае на ўвесь свой дужы рост.

— Прэч, гадзюка!

Той асеў, пахіснуўся, а потым раптам з зьвярынаю ярасьцю наляцеў на Рыгора. Сьвіснула ў паветры лязо.

— Ой-ой,—здрыганулася зямля, застагнала.

Лёгкі ветрык падхапіў гэты дзікі крык. Панёс у паветры над ціхім полем. Падняў яго яшчэ вышэй на зямлёю, абудзіў размашысты водгалас і панёс далей, туды, дзе кацілася жніўная песьня, шырокая і цяжкая, як гэта зямля, каб зьнітавацца ў адзіны гарласты пошчак і разам расплыцца па ўсяму неабдымнаму сьвету: над лесам, балотам, імшарай. Але вецер аслабеў, зьнямог і ня ўтрымаў свой здабытак: упусьціў моцна цмогнуўшы нед самым сялом, расчуліў Навума.

— Сынкі вы мае, чаго не падзялілі... А божухна!—з растрэпанымі валасамі задыхаўся стары.

Сьцяпан падымаў з зямлі акрываўленага Рыгора. З расьсечанае галавы плыла цёплая кроў, запякалася ў верагі і павольна падала банклякамі ў нішчымную, сухую ральлю. А яна нямая толькі прагавіта глытала, усмоктвала, як ват вільгаць, рабілася чорнаю, азызлаю, як Рыгораў твар. Так людзі кармілі зямлю сваёю крывёю, улі-

валі ў жылы страўны клёк. І яна за гэта аддзячвала іх багатым ураджаем. На набраклай, набухлай ральлі вырастала супольная гаспадарка. Селавыя пачалі выходзіць у людзі, браць свае правы. А ў тойжа дзень вечарам шасьцярыньнікі ладзілі хаўтуры і кляліся не падавацца жываглоту. Тады-ж на полі (калі той падаўся ў лес і зьнік), Сьцяпан абяцаў:

— Буду патрашыць: лягу ці ўваскросну.

— Разам, дзеткі, са мною,—праз сьлёзы падаў голас Навум.

Абяцаў і Яўмен:

— Гэтым ня будзе ўдарована. Свайго не аддам. Чуеце? Не аддам! Хутар мой. Зямля мая. Гэта спадчына. І к чортавай мэтары вашы законы, правы. Я гаспадар. Калгасу ня будзе. Вон, галадранцы! А не...

Яўмен пераходзіць у дзейнасьць: патайную, прытаманную. На другі дзень зьяўляецца той падстрыжаны. І...—

Пачынаецца першы разьдзел: звонам, паданьнем, тугою.

---

... Пракавецкі туман адхлынуў. Далягляд апрасьціўся павіднеў. Перад намі звычайны верасьнёвы дзень 1929 году: з смугою, хмарамі, жоўцю.

## III

— І трэба было Яўмену,—цягне стары Навум,—зьезьдзіць у горад. Праведаць, як там яго справу вырашае Зьміτра Халімонавіч—народчы камісар па зямлі, знацца. Бо вельмі-ж, кажа, свае прыцісьнулі, жыць не даюць. Лішніцу знаходзяць, адрэзваюць, галетнікаў надзяляюць. На тое ні глядзяць, што і ў Яўмена запечак дармаедаў паблісквае: пракарміць трэба. Ды й на скаціну агараць, бо ўсякая-ж худоба ў гаспадарцы да нястаткаў хіліць. А ім што: уварві ды падай. От і намеркаваўся чалавек пажаліцца: выбраў добрую часіну (як раз марусіў пацярухаю дожджык), закілзаў лепшага стаеньніка і рушыў на станцыю.

— Паеду,—кажа,—у госьці да брата, хоць пераведаюся, а то год, як бачыліся.

Тут нашы асаўчукі і зьмікнулі: як голы, так і хітры, змышлёны.

— Пэўне, мусіць, хабар павёз. От немач на яго, усякімі манерамі выкручваецца. Летась так сабе мінулася, дык і сёлета думае ўвільнуць. Не, голубе, любі ня любі, а табе сьветам ня круціць. Лепш сам галавою налажы.

— Едзь,—кажуць на мяне асаўчукі,—да самога камісара і раскажы яму, што да вас, таварыш Зьмітра, ці як там яго, прыедзе асавецкі багатыр Яўмен. Ён ні дае нам вольна пажыць, забраў пад сваё ўладаньне ўсю лепшую зямлю і ваюе з намі. Мы, тобта, хочам у яго адабраць і паставіць калякцію, бо ў нас шмат хто ня мае прыстанішча, а тыя што і маюць, таксама, кажуць, надакучыла хураваць ад-

нымі рукамі ўсякую трасцу. От вы і дайце нам такую паперу, каб Яўмен да нас не касаўся з зямлёю і мы маглі будавацца.

— І што вы, думаеце, я й падхапіўся: лахі пад пахі і тайда. Яўмен дарогаю паехаў, а я нацянькі, пярэсьцікам, знацца. Не праўдзеш мяне, думаю, пачакай: першы прыеду да камісара. Ды ўсё па кані, ды па кані. Трушыць памаленьку мой рыжы, трасе грываю і ўсё чхае, пырхае (добрая прыкмета ў дарозе, рады будуць гаспадару). І я, як ні ў чым ня бывала, выцягнууся на ўвесь палукуш, выпрастаў ногі, лёг наўзнач і распластаўся. Тарахцяць мае калёсы, грукаюць па каранёх, падгоцкваюць драбіны, і я, што на рэлях: то ўверх, то ўніз. Доўга я так абіваў бакі ў палукушы, аж покуль ні ўлучыў добрую часіну, ды зусім ня выскачыў. Ота-ж тузанула, проста печані адселі! Ну, думаю, хваробу больш я вам паеду ў захапкі, добра і раз дурня ашукалі. Ды сяк-так ізноў, чалавеча, ускарапкаўся на воз і скіраваў ужо каня на шляхавую дарогу, гасьцінец. Тут ні якая трасца ня прыстане, калдобін ды пнёў і заваду няма. Дарога, як манішка: шырокая, простая, роўная і ў самую станцыю ўпіраецца. Ось дзе, думаю, і прыаддыхаць можна: каню лягчэй і сабе ямчэй. А Яўмен нейдзе яшчэ павінен ззаду боўляцца, бо я-ж такі на палавіну скараціў язду і не прастарэкаваў, усё падганяў. Не павінна быць, каб ён апярэдзіў мяне,—мармытнуў я.

— Но-о, падла, выкручвай!—пагукваю.

І не пасьпеў я зьвярнуць з аб'ездкі, як бачу: па шляху пярэкідам імчыцца нейкая хурманка. Конь сівы, крыжасты, аж да зямлі прылягае, бярэ на ўсе лапаткі. У калёсах, на высокім сядзеньні гайдаюцца двое. Адзін: шырокаплечы, лемяшысты. Другі: незнаёмы з твару маладжавы. Лемяшысты сядзіць з правага боку і кіруе канём, у аднэй руцэ трымае лейцы, а ў другой—пужку. Сьцёбае памаленьку лемяшысты па шустрым коніку. Бяжыць сівенькі, бяжыць, толькі пыл з-пад калёсаў хмараю тоўпіцца (пасьля дажджавое пацярухі прыгрэла сонца і дарога стала пыльнаю). Пацяшаецца лемяшысты сваёю худобаю і ўсё да незнаёмага нахіляецца (пэўне нейкі падарожнік папрасіўся пад'ехаць), а конік от-от раўняецца са мною і ўсё шпарчэй, шырэй выкідае наперад ногі.

Яшчэ раз зірнуў я на седакоў і мае вочы сьлізганулі па лемяшыстым: знаёмы твар Яўмена апаліў мне бровы, і яны засьмярдзелі. Што рабіць? Куды дзецца? Пазнае—нялоўка. І я, доўга неразгадваючы, бацнуўся ніцма ў палукуш. Нацягнуў на голаў пасьціланку і прыкінуўся хворым. Топае памаленьку мой рыжы, перагаварваюцца колы, скрыгіча пад імі пясок, перасыпаецца, шамаціць. А я ляжу, ні чхну, толькі моцна заплюшчыў вочы. Думаю: што-б мне такое сказаць, калі пазнае Яўмен хурманку. Так і вярзецца незнаёмы «пасажыр з рэчамі на станцыі». Добра, думаю, няхай сабе пазнае. Толькі ось, ліха яму, нешта мой конь (падаецца мне ў ваччу) коціць калёсы ня ў той бок, здаецца, сышоў з каляіны і соўгаецца па дарозе. Ну й патвара, і цяпер бочыць управа! Ня вытрымаў я, шпаргануў за

левую лейчыну і не адпускаючы яшчэ раз тузануў назад. Увільнуў мой рыжы, падцяў калёсамі і ня рыпне.

— Чалавеча, што загарадзіў дарогу,—чую я танклявы голас незнаёмага.

— Якую дарогу? Шлях малы, ці што?—азваўся я, а сам і не скрануся.—Едзь, куды едзеш.

— Цьфу ты,—сплюнуў Яўмен.—Вярні на права.

І незнаёмы яшчэ раз са мною агрызнуўся. Затарахцелі ўтулкі, забрынчэла лёстка і Яўменаў жарабец паміnуў мяне. Тады падняўся і я. Аж бачу: стаіць мой рыжы ўпоперак дарогі, апусьціў уніз бульму і чытае, як кажуць, газэты. Тут мяне і падшыхнула злосьць. Ня сьцерпеў я, задзжгеліў яму сырыцоўкі, завярнуў на каляю і пусьціў назіркам за возам. А так, як да чыгункі засталося некалькі гоняй і цягнік заўсёды адыходзіў на зморку, то й ня было чаго лішне сьпяшацца. Ехалі ступою. І цяпер мне ўдалося падслухаць Яўменаву гаворку з невядомым. Яго голас гучэў, як той царкоўны звон на Іспаса, і я бяз лішняе патугі разьбіраў кожнае слова. Гаварыў Яўмен пра сваё набалелае: пра зямлю, падатак, асаўчукоў і, галоўнае, зьнявагу.

— Хто што ўздумае, тое і робіць, цябе ні шманае.

І калі гэта яго крыўда дасягала найвышэйшага пункту раздражненьня, тады ён помсьціўся. Сьціскаў у адчаі здаравенныя кулакі і, як пуцам, трос галавою.

— Пачакайце ліха матары: прыдзе коза да воза, будзе й на маёй вуліцы кірмаш. Я толькі сам зьежджу да самога камісара, таварыша Прышчэпава. Усыплю тады я вам перцу, галетнікі, дзесятаму каторы закажа, як на чужое быць сквапным, рот разяўляць. Памятуйце, сьлюньцяі, свайго не папушчу.

— Ды дзе гэта бачана,—уторыць танклявы,—каб чалавек, што жыве, пане мой, не раўнуючы, як сьвіньня, раскашэльваўся чужым дабром.

— Вядома, што так. Вазьмі, прынамсі, бывалешнія гады. Я быў першы гаспадар на сяле. У мяне ўсяго па горла хапала—і малочанага і калочанага. Адно пры хаця. Тады лепш і парабкі дзяржаліся, гаспадароў паважалі, слухалі. Кожны сваё месца ведаў, даражыў ім— толькі каманду падавай, гарэла работа. І ня трэ' было вельмі дагаджаць, ня грэбавалі, што дасі на тым і скропіцца. Ня было калі разгадваць: ладэс, то ладэс, а ня кусаў цябе пес. Дзесяць пад варотамі стаіць: на выбар, толькі бяры. О, гэта была воля, моц—гаспадар, значыць, пашана. А цяпер: круцець-муцець, што ні пад нораў, дык ён над табою гаспадаром робіцца, саветам, саюзам страшыць, а таго ня бачыць, што каго разувае і сам босы ходзіць. Эх,—цяжка ўздыхнуў Яўмен,—парадкі, Мітадорка, на згіблую. Прышоў і наш рачанец.

— Я-ж кажу, ня будзе дабра. Адчула галытва патачку, няма чаго казаць. Учарашні пантопель твой—сягонешні кіраўнік. Наводзіць парадкі, устанаўляе прычындалы, а што ён ведае, каб хто па-

пытаў. Ні а, ні б э, ні кукарэку. Усяго і рамяства, што саха ды цэп. От і накіруй ты народам, вывядзі ў людзі, будзь храбрацом. За нішто прапала дзедаўская слава, дагнівае апошні кут. Шашаль точыць няўпынёна: чорны, чмары шашаль. Ах, нядэшлая царкоўка, шумлівы лапавухі цьвінтар, надрыўны пахавальны звон, учарнелы крыж—хто на вас ўзьняў свае жылістыя рукі?—І невядомы, на імя Мітадор (так назваў яго Яўмен), з роспаччу ашчарэпіў сваю галаў, прыхінуўся бліжэй да спадарожніка, палажыў на аглабінку ногі і ў ціхім рыданьні, даказваў:

— Шкада толькі, Яўмене, старога бацькі, а так-бы я ім яшчэ ўстроіў штуку. Гасьцінец напагатове.

— Ня трэба, Міцік, Баронь бог зробіш—прапалі мы, жыўцом зьядуць, згінем без весьці, а яны зноў адбудуюць. Гэтак ня дойдзем свайго. Трэба інакш, за крыжам трымаць сьмерць. Разумееш, за крыжам! Ну ось. Прыгадай дзень на Іспаса, і ты пераканаешся. Бач, як лоўка вышла, ніхто ні заікнецца. Нават помач ёсьць: ходзіць цэлае паданьне, і ты—вучанік Саваофа.

— З прыемнасьцю! Дык і тут так зрабіць, каб і шчуркі ня ўзышлі. Пусьціць гэта пакульле да неба. Няхай ушчуне мякіньнік вінаватага—адшукаў ветру ў полі. Бо мае сэрца гэтага не перанясе, далоні рук сьвярбяць даўно: ці я н ы, ці я.

— Так, то так, але пачакай, ня руш. Зьездзім да самога камісара, паслухаем ’шчэ, што ён запяе. Усё-ж старшы, галава. Па яго выходзіць на максымум, нават і з гакам. Гак—гэта хутар. Але загваздка ў тым, што на мясцох не даюць гэтага, недаступацца. Ім законы ня пісаны, што галава, то розум. Дырэктывы Прышчэпава—гэта хаханькі: ня ў той бок гне, ня ў такт дудка грае. Як зробім, кажуць, так і будзе. А там паглядзім, разьбяром, будзем бачыць, хто праведна рабіў. Тут то і круціся, як на шпяні.

Галава адно—рукі другое.

Галава Прышчэпаў—рукі мясцы.

Галава паперы—рукі справы.

Галава хутары—рукі калгасы.

Так і таўкуцца, як на грышчы. Трэба пачакаць, які бок возьме. А тады паварожым.

— Ня сьцярплю, Яўмене, аддаць трэба доўг за бацьку—гэта мой сыноўскі абавязак. Сьвядомасьць вымагае, пачуцьцё. І свая ўласная белая... ну, ты ведаеш' Інакш і быць ня можа: хіц выйграў, хіц прайграў. Адабралі ад бацькі хлеб, адбілі народ, зачынілі царкву і... ні лысы. Падатак... Падаходнае... Сэрца трэба камянoe, каб не адчуць рабства, але дачакаемся. Унь бачыш з Захаду сунуцца хмары: грозныя, цёмныя. З іх павінен быць гром. Ударыць пярун. Спаласьне молань. Будзьма, Яўмене, напагатове. Пад зыркае зарава зьнішчым панаваньне галетнікаў. Здратуем гэтымі агнявымі пісагамі іх долы. Адно, каб заварушыўся, узбушаваўся народ. А на гэта трэба быць пранырлівым: нюхам адчуваць слабыя месцы. Там, дзе я быў, так-

сабе не абыходзілася. Вазьмі Цярэшкаў Брод [1])—з зямлёю мяшаў паганцаў. Крыжам па галаве. От, гэта рэканструкцыя!

— Цяпер паслухай мяне, калі на тое пашло: няхай добра забудуюцца, зьбяруць усё з поля, прыстрояць малатарню і от-от на рыхтыку пускаць, тую-ж ноч і падсунуць галавешку, каб і цуркі не асталося, падчыстую, з карэньнем спапяліць. Але.. асьцярожна. На тую ноч нам трэ' будзе куды зьехаць. Адвесьці ўсякую падазронасьць.

— А хто зробіць?—перабіў Мітадор.

— Чыркнуць запалку, майстроў хопіць.

— Ну?!.

— Мой большы сын.

На гэтым гаворка абарвалася. Пад'ехалі да станцыйнага будынку. Гудзеў на слупох тэлефонны дрот. Дзесь стракатаў тэлеграф. Бегалі заклапочана праважатыя, запальвалі ліхтары, правяралі сэмафор. Здалёку прарэзьлівым гудком азваўся цягнік. Зыркія вочы праколвалі кволую цемру і ўсё падступаліся, бліжэлі. На пэроне тоўпіліся пасажыры, выносілі з станцыі рэчы. Я стаяў на ўзбочыне каляі.

## IV

Зачапіў гаплік за жывое і казка разьвінаецца ў праўду: каламутную, задзёрыстую. Праходзіць сваю валачобную дарогу, як стрэлка гадзіньніка на цыфэрбляце, тым-жа месцам: бяссэнсоўна, проста. Так заведзена ад роду: змалку і дастанку. Гэта закон. Другім наваратам тасуюцца і дзеі, як панажы ў кроснах, ныраюць чаўніком спрытнае дзяўчыны, што вытыкае першую губку свайго шчасьця. Усё ідзе сваім парадкам, мэрам водзіць нейкая сіла. На тое-ж ёсьць на ўсё свая акрамітная прычына: завад. Радзее і пракавецкае цемрыва першае часткі—згустак восеньскае смугі—варволю. Продухі фортак і драпы пазоў напоўнены водырам сьвежых цыклёнаў. Веюць вятры. імкнуць павеі. Скрозь:

... ладуюцца буфэры, торгаюць тормазы, цокаюць кляпамі, калышуцца вагоны. І—ад удушша захліпаецца паравік: глытае пару, чмыхае, харкае. Імчыць напралом: віхраметна, імклівы, напорна. Праз вею і стынь, золь і сьлізоту, ад ціхіх палёў да шумлівага гораду. Скрозь—сапуць цягнікі, грымяць колы... Сьпяшаюцца, шушукаюць, сакочуць. З рэйкі на рэйку пераскакваюць, перабягаюць. Адмерваюць кілёмэтры, мілі. Мінаюць аточкі, разьезды. Праходзяць усхілы, нізіны. Палі і лясы. Чародкаю, роўна, як гусі, з канца ў канец барухаюцца вагоны: ноччу і днём, раніцай і вечарам, бесьперастанку адзьвякваюць халодныя крокі на шырокім паясе рэяк: заклапочана, дбайна. Адблісквабць зашмальцованыя курткі—апранахі жалезнага цела—у кволым сьвятле сіняе сталі. Рыпяць вэстынгаўзы, ходарам ходзяць вагоны, з боку на бок калышуцца. А ў іх:

[1]) От, валантырнік, гэта-ж ён і „Спалох на загонах“ рабіў у Галавача.

Раскінуўшы ногі на палатках, падпёршы далонямі рук галаву, унурыўшы вочы ў падлогу вядуць людзі гаворку. Ціха, павольна, як гэты грукат калёс, нараджаецца апавяданьне: першае знаёмства з невядомым.

— Адкуль-жа самі будзеце?—нерашуча дзынкнуў голас.

— Непадалёку, з Саўчукоў.

У гэты час у другой бакоўцы нехта моцна пырхнуў. І бадай ад гэтага мацней пачало трапяцца ў ліхтарні сьвятло. Лапістыя цені, быццам напоперак засланялі сабою цьвірчэньне недагарка. І сьвечка, зьняможаная ад наплыву сівых клубоў дыму, захліпнулася. Надворная цемра цадзілася праз вокны. Скрозь яе чуўся маладжавы голас:

— Дзівосы робяцца на сьвеце. Няведама якія людзі пачынаюць швэндацца. Называюць сябе пасланьнікамі, сьвятымі. Людзей угаварваюць сядзець на месцы, не рашацца за калгас, у пекла ня лезьці, так кажуць...

— Як гэта?—перабіў у непаразуменьні бас.

Яшчэ вастрэй настаражылася за вокнамі ноч і прагавіта слухала ўсе клопаты сваіх падарожнікаў. Нехта стомлены ўдушлівей захроп на паліцы, крактануў і павярнуўся на другі бок, нібы хацеў адсунуцца далей ад гаворкі. Утварылася хвілінная маўчаньне, густое, вязкае.

— Так было ў нас. Не пасьпелі абагуліцца,—ізноў запеў малады,—не расчмякавалі, як кажуць, супольнага цымусу, на табе: укасала нейкага невядомага пасланца. А ён як пачаў барабаліць, не па простаму, а па сьвяшчэннаму, ды ўсё заікаецца імям рымскага папы, супроць калгасу. Аж страх нейкі ўзяў.

— І ты на свае вочы бачыў яго?—запытаў бас.

— Сам бачыў, далібог.

— То чаму вы яго не затрымалі, ды ў савет не адправілі?

— У тым і бяда, што ён сьвяты. Як пачалі мужчыны падступацца, знацца, каб разглядзець, як ён і растаў, зьнік чалавек. Толькі мацней залемантавалі званы, як па нябожчыку, самі, ніхто іх не чапаў.

— І ніхто ня скмеціў, куды ён уцёк.

— Дзе там просты чалавек дойме, калі там маланкаю адбылося. Праз колькі часу перадавалі з другое валасьці, што бачылі такога, а дакладна, што і дзе з ім сталася, да гэтага часу ніхто ня ведае. Нашы селавыя толькі праз яго шмат урону панесьлі, на другі...

— Чаму ўрону, як? Ён-жа сьвяты, на кепства не павінен пусьціцца? Што ты, чалавеча, заліваеш, ачмурэў, ці што?—скарагаворкаю перацяў яго ўдзельнік.

— На другі дзень калі пашлі адводзіць зямлю пад калгас, а не паслухалі таго прайдзісьвета, так і налажыў галавою на полі і пасягоньня адзін сёлавы мужчына—Рыгорам зваўся. З тае пары так і робіцца ў нас калгас, як мокрае гарыць. Ува ўсіх ахвота адпала.

Прырабіў, кажуць, сьвяты. Калі ступіць на папоўшчыну з намерам адвесьці пад агульную справу, так і ня сойдзеш—каюк. От што,—апраўдваўся маладжавы.

З паліцы азваўся той самы чалавек, што варочаўся. Яму перашкаджалі спаць. Колькі раз ён прытвараўся, плюшчыў вочы, намагаўся сябе ўтаймаваць, але гэта яму не ўдавалася. Думкі бралі сваё: кідалі з боку на бок, застаўлялі чхаць, трымаць сябе немым—няўмешвацца ў чужы гавор, каб не прагаварыцца. Бо ён вязе паручаную справу ўсяго сяла—сур'ёзную, адказную. Хоць цяжка слухаць чалавеку няпраўду, але ён павінен зносіць, часова карыцца ёй, інакш і быць ня можа, менавіта тут, у вагоне.

— То куды бог нясе?—пасьля невялікага ўпыну завязваў гаворку не малады, лемяшысты мужчына.

— Праведаць думаю сваякоў, параіцца, як надалей быць. Навіны расказаць: сёе-тое. Ведама, як у калгасе чалавек. На новы капыл працаваць, знацца, не пакутваць.

— Ага, значыць, арганізавалі ўсё-ж.

— Ат, нядэшлы, сяк-так зьляпілі на сваю згубу. Будзем хірэць пакуль дужыя, а там хоць агнём хай ідзе, нам усёроўна, абы дзень бліжэй да сьмерці. Горш ня будзе, як ёсьць, як-жа пажываеце, хвалецеся.

Лемяшысты зарагатаў.

— Хітры чалавек: старую скуру хоча на новы капыл нацягнуць. От надумаўся. Так і мудрацы не рабілі.

— Перайначыць, чаго-ж, па-новаму? Калі абнаўленьне, то й навіны. Хіба ў вас ня тое, што дзіўна, а мне—ані чуць. Паспытаеш і ты, што за смак, пачакай. Спамянеш некалі маё добрае слова.

— Ня ў гэтым рэч, я ўжо да адвалу наеўся, адно ліха ўсюды. У кожнай царкве ладан аднолькавы, што пытаць. Мне сьмешна з тваіх разваг. Колькі нашага мужыка ня дураць, а ён усё разумнейшы робіцца, ніяк не атлуміш яго, што не рабі.

Чалавек на паліцы ня ўтрываў. Яго, бы што пацягнула за язык, тармясянула, і ён у лад іх раздабару, стукнуў, як абухом у патыліцу:

— Тота-ж, годзе хлусіць, Мітадор: Яўмен праўду ведае.

Гаваруны анямелі, як што ім зарвала, і больш не ўказалі духу. Нешта было шапнуліся, спадлоб'я бліснулі на паліцу і зашамрэлі, пачалі зьвязваць невялікія клумкі. У перадраньняй дрымоце за вакном мільганулііся каменныя будынкі. Нехта з кутка радасна азваўся:

— От і Менск.

Цягнік падыходзіў да станцыі. Тарахцеў, павольна суцішаў свой ход, заўнімаўся. Пасажыры пачалі варушыцца, працірацць каравыя ад сну вочы, зьбіраць рэчы і рыхтавацца да выхаду. На пахолку стаяў ужо і Яўмен з сваім спадарожнікам. Не пасьпеў цягнік 'шчэ затарнаваць належна свой ход, як нашы знаёмыя «асаўчукі» саскочылі,

і размашыстым крокам накіраваліся ў станцыю. Тут адбылося і здарэньне. Не пасьпелі яны і тры разы зьмяніць нагі, як зьнянацку пачулі за сабою здаровы мужчынскі голас.

— Вы затрыманы.

Перад імі стаяў Навум і чалавек у вайсковым шынэлі.

На каляі яшчэ раз рыўком тарганулiся вагоны, і задні скат паўтарыў:

— Так ім і трэба.

Менск, 19-III-32 г.

Гайнрых Гайнэ

## НЯВОЛЬНІЧЫ КАРАБЕЛЬ

(Das Sclavenschiffe)

I

Супэркаго Мінэр ван Кок
Сядзіць над копамі сшыткаў—
Падлічвае колькасьць пагружаных тон
І суму магчымых прыбыткаў.
— „Га! Перац—адменны і гума, як сьлед,
Тры сотні мяхоў і шуфляды,
Пясок залаты, і сланёвая косьць,
І чорнай хапае гавяды...
Я вымяняў нэграў шэсьць соцен сабе
Амаль задарма ў Сэнэгале —
Мяса—сухое, цягліцы ўсё,
Як літыя з лепшай сталі.
Даў я ў абмен ім пэрлаў шкляных...
Гарэлкі падліў дзеля ўмовы...
Няхай восемсот адсоткаў вазьму,
Мне-ж хопіць да сьмерці паловы.
Няхай толькі трыста я з іх давязу
Да прыстані Рыо-Жанэйро,
Па сотні дукатаў за штуку мне дасьць
Кампанія пана Пэрэйро...“
Але раптам спыняецца Мінэр ван Кок,
Адкладае свае каштарысы —
У каюту ўвайшоў карабельны урач
Доктар ван-дэр-Смісэн.
У доктара костка аб костку б‘е,
Нос у прышчох—чырвоны яблык...
— „Ну, эскулапе,—крычыць ван Кок, —
Як маюцца чорныя д‘яблы?“
— „Нядобрыя весткі!—гаворыць хірург
З належным паклонам удзячным.
— „Сьмяротнасьць сёньня ўначы
Падвысілася значна.

Штодня памірала ў сярэднім два,
А сёньня аж сем сканала.
Мужчын чатыры, жанчын тры...
Я стратам вяду аналы.
Нябожчыкаў сам я спачатку ўскрываў,
Каб гэтыя шэльмы ня сталі
Прыкідвацца мёртвымі, а тады
Мы кідалі іх у хвалі.
Я з мёртвых заусёды скідаў кайданы
І—тут мой мэдычны напрамак—
Загадваў трупы кідаць за борт
На заўтрашні дзень, пад ранак.
Адразу тады ўсплывуць з глыбінь
Акулы, закруцяцца ў танцы...
Нэгрыцянскае мяса любяць яны,
Гэта—мае ўтрыманцы.
Яны плывуць за намі ўсьлед—
Аж толькі схаваецца бераг.
Шэльмы чуюць пах мерцьвякоў
І сьпяшаюцца на вячэру.
Гэта забаўна наглядаць,
Як хапаюць яны ўкучы—
Тая ногі, гэтая галаву,
А тыя—глытаюць анучы.
Як зьнікне ўсё, здаволена б'юць
Яны хвастамі ў барты нам
І хочуць, я мысьлю, падзякаваць
За ежу належным чынам".
„Але,—уздыхае Мінэр ван Кок,—
„У гэтым знаўца вы там —
Скажэце, як мне сьмяротнасьць зьмягчыць—
Яна пахне дэфіцытам".
Адказвае доктар: „З уласнай віны
Багата чорных сканала...
Брыдкім сваім пахам паветра яны
Атруцілі ў труме памалу.
Яшчэ з мэлянхоліі іншыя мруць—
Сумуюць па нечым, па некім...
Паветра і музыка з танцамі—вось,
Я мысьлю, найлепшыя лекі.
„Вось гэта рада!—крычыць ван Кок.—
„Вы, мой эскулапе слаўны,
Разумны, як той Арыстотэль, што
Быў Аляксандраў настаўнік.
Сам таварыства прэзыдэнт
Па гадоўлі дэльфінных цюльпанаў
Ня варты паловы вашых мазгоў,
Хоць і дужа адукаваны.

Аркестраў! На палубу чорных сагнаць.
Заскачуць яны перад намі.
А тых, якіх скокі не разьвесяляць,
Мы будзем лячыць бізунамі“,

II

З сіняга неба тысячы зор
Глядзяць у тузе здалёку.
Разумная, буйная кожная з іх,
Як прыгожай жанчыны вока.
На мора глядзяць яны... Мора вакол
У пурпуры ўсё ўспаласкала,
Фосфарасцэнцыяю гарацЬ
Ї туркочуць хвалі ласкава.
Ніводнага ветразя на караблі
Не ўзьнята. Ляжаць яны з краю.
На палубе цьмяна гараць ліхтары.
Вясёлая музыка грае.
Штурман па скрыпцы смыкам вядзе,—
На флейце грае кухар,
Б‘е ў бубен юнга, што сілы ёсьць,
Дзьме ў сурму доктар, што духу.
Багата нэграў, мужчын і жанок
Скачуць, галосяць зычна,
Крычаць, як вар‘янты, і ў кожны падскок
Зьвіняць кайданы іх музычна.
Напаў на нэграў вясёлы шал.
Абняўшы каханка палка,
Стогне, і енчыць, і раве,
Чарнатварая вэсталка.
Наглядчык тут за „Maitre des plaisirs“
Лупцуе сьмяротным боем
Павольных танцораў, каб танца тэмп
Вясёлым веяў настроем.
Ї дзін-дзін-дон і тра-ля-ля-ля...
Вылазяць з падводных склепаў
На шум страшыдлы глыбінь вадзяных,
Што спалі глуха і сьлепа.
Акулы санлівыя ўгору ўсплылі,
Їх сотні навокал налічыш.
Глядзяць яны зьдзіўлена на карабель,
Зьбянтэжана ўзьняўшы аблічы.
Яны заўважаюць, што сьнедаць ня час,
Яны пазяхаюць. Їклы
Тырчаць у іх з пастак. Ї кожны ікол
З пілу вастрынёй, напрыклад.
Ї дзінь-дзінь-дон і тра-ля-ля-ля...

Канца ня відаць разгулу.
Даўно нецярпліва самі сябе
У хвасты кусаюць акулы.
Ня любяць музыкі, здэцца, яны,
Як шмат хто іхняга тону.
А ўсё, хто ня любяць яе—свалата,—
Казаў паэт Альбіёна.
І дзін-дзін-дон і тра-ля-ля-ля...
Канца ня відаць разгулу.
Стаіць ля фокмачты Мінэр ван Кок,
Рукі ўзьняўшы ў маліцьве чулай.
„О, божа! Хрыстом прашу—пашкадуй
Грэшнікаў чорных галовы.
Ня злуйся на іх, бо ты-ж ведаеш сам—
Дурныя яны, як каровы.
Пакінь жыцьцё ім, хрыстом прашу,
Што крыж нёс за ўсіх нас крывавы...
Бо калі не пакінеш мне трыста штук,
Дык згіне уся мая справа“.

*Пераклад з ням. мовы*

Ю. ТАЎБІНА

В. Барысенка

# ТВОРЧАСЬЦЬ ЯКУБА КОЛАСА

### (Да 50-годзьдзя з дня нараджэньня)

Правільна вызначыць асноўныя этапы, якія прайшоў Якуб Колас у сваім творчым разьвіцьці, паказаць клясавую існасьць і функцыянальную ролю яго творчасьці, даць правільную ацэнку яго мастацкай прадукцыі, немагчыма без дэталёвага і глыбокага веданьня тых гістарычных умоў, таго складанага працэсу клясавай барацьбы, якім фармавалася творчасьць паэты, інакш кажучы, неабходна заўсёды мець канкрэтна гістарычны падыход пры вывучэньні творчасьці таго ці іншага пісьменьніка.

Вызначыць, сьвядомасьць якое клясы выражаў Колас у сваіх мастацкіх творах, дакладна, акрэсьлена паказаць, якую клясавую пазыцыю займаў пісьменьнік на тых ці іншых канкрэтных этапах клясавай барацьбы, за інтарэсы і ідэалі якое клясы змагаўся Колас сваёю творчасьцю, магчыма толькі тады, калі мы ў аснову свайго аналізу творчасьці Коласа, паложым ленінскае вучэньне аб двух «аб'ектыўна вазможных» шляхох капіталістычнага разьвіцьця. Ацэнку творчасьці Коласа трэба даваць з пункту гледжаньня характару і рухаючых сіл рэвалюцыі на Беларусі, з пункту гледжаньня тых задач, якія паўставалі перад пралетарыятам на кожным канкрэтным этапе рэвалюцыі,—толькі такі падыход да разгляду творчасьці Коласа будзе адзіна-навуковы ў лепшым сэнсе гэтага слова, адзіна правільны.

Колас на літаратурным фронце клясавае барацьбы выступіў з першымі сваімі творамі напярэдадні рэвалюцыі 1905 г.

У адным з самых раньніх сваіх вершаў, датаваным 1904 г. Колас кажа:

„Ня пытайце, не прасеце
Сьветлых песень у мяне,
Бо як песьню засьпяваю,
Жаль вам душу скалыхне".

Аўтар у гэтым вершы акрэсьлена зазначае, што «сьветлых» песень ён сьпяваць ня можа з прычыны таго, што навакольная сацыяльная рэчаіснасьць ня выклікае радасных песень, а наадварот, «ды

на жыцьцё як паглядзіш, сэрца болем зашчыміць». І далей у радках, поўных чорнага пэсымізму і безнадзейнасьці, аўтар кажа:

„Не шчасьліва наша доля:
Нам нічога не дала.
Ня шукайце кветак ў полі,
Бо вясна к нам не прышла".

І сапраўды, становішча асноўных мас сялянства, ад імя якіх выступае Якуб Колас у сваёй творчасьці на першым этапе яе разьвіцьця, напярэдадні рэвалюцыі 1905 году было непамерна цяжкое. К гэтаму часу, як зазначана ў праграме Расійскай Сацыял-Дэмакратычнай Рабочай партыі, прынятай на II зьездзе, у Расіі «капіталізм ужо стаў пануючым спосабам вытворчасьці», тое самае мы наглядаем і на Беларусі. Але, ня гледзячы на тое, што капіталістычны спосаб вытворчасьці стаў пануючым як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы, на Беларусі, як і ў Расіі, захаваліся значныя рэшткі прыгоньніцкіх перажыткаў.

Самаўладзтва само, зьяўляючыся адным з самых значных і магутных рэшткаў дакапіталістычнага ладу, заядла абараняла і ахоўвала ўсякія перажыткі фэадалізму ў інтарэсах землеўласьнікаў—прыгоньнікаў.

Селянін былой Расійскай імпэрыі, у тым ліку і беларускі, да самай рэвалюцыі 1905 г. лічыўся ніжэйшым станам, «подлежащим розге, платящим особые подати» (Ленин). Селяніна, прывязанага да свайго надзелу, забітага, бесправнага, самаўладзтва і памешчыкі эксплёатавалі, рабавалі выкупнымі плацяжамі, душылі непасільнымі падаткамі, лупцавалі розгамі і трымалі ў поўнай цемры.

З разьвіцьцём капіталізму да паліцэйска-памешчыцкага ўціску «прибавился еще гнет капитала». «Власть денег»,—кажа Ленін,—не только придавила, но и расколола крестьянство. Громадная масса неуклонно разорялась и превращалась в пролетариев, меньшинство выделяло кучки немногочисленных, но цепких кулаков и хозяйственных мужиков, прибиравших к рукам крестьянское хозяйство и крестьянские земли, составляющих кадры нарождающейся сельскай буржуазии» (Ленін, том IV, стар. 26).

Зносячы на сваёй сьпіне «памешчыцкі ўціск, да якога прыбавіўся ўціск капіталу», селянін быў даведзены да бязвыходнага жабрацтва ў поўным сэнсе гэтага слова. Але «наш селянин»,—кажа Ленін,—«страдает как мы видели не только и даже не столько от гнета капитала, сколько от гнета помещиков и остатков крепостничества». (Ленін, том IV, ст. 26).

Гэтыя рэшткі прыгоньніцкіх адносін становяцца самым вялікім тормазам на шляху грамадзкага разьвіцьця краіны, яны затрымліваюць, перашкаджаюць разьвіцьцю капіталістычнага спосабу вытворчасьці, «недопускают всестороннего развития классовой борьбы пролетариата, содействуют сохранению и усилению самых варварских

форм эксплоатации многамиллионного крестьянства государством и имущими классами» (программа РСДРП).

Беларусь у тыя часы знаходзілася ў каленіяльнай залежнасьці ад Расійскай імпэрыі, і таму беларускія працоўныя масы, як і працоўныя масы іншых нацыянальнасьцяй, знаходзіліся пад падвойным прэсам сацыяльнага і нацыянальната ўціску. Колас у сваіх творах першага пэрыяду з усёю яскравасьцю і вялікаю сілаю мастацкасьці ўсебакова і падрабязна абмалёўвае беспраўнае, гаротнае становішча беларускага селяніна, які быў прыгнечаны і сацыяльна і нацыянальна.

Тагачасная вясна, як і «родны край» у цэлым, падаецца аўтарам у сумным выглядзе, замалёўваецца ў чорных фарбах і зьяўляецца, на яго думку, увасабленьнем усіх бед і пакут.

«Родныя вёскі» і сёлы пазіраюць «сумна і нудна», там цяжка і сьцішна, кажа аўтар, як у вастрозе, або на могілках:

„Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш—сэрца забаліць
На дварэ паленьне, цёскі,
Куча сьметніку ляжыць,

Крыж збуцьвелы пры дарозе,
Куча топалеў сухіх...
Сьцішна, нудна, бы ў вастрозе
Ці на могілках якіх!“

У тагачаснай беларускай, як і расійскай вёсцы сумяшчаліся «двоякого роду классовые противоположности: во-первых, между сельскими рабочими и сельскими предпринимателями, во-вторих, между всем крестьянством и всем помещичьим классом» (Ленін). У творчасьці Коласа знайшла сваё яскравае выяўленьне другая з вышэйзазначаных клясавых праціглегласьцяй, у той час, як першая з іх аўтарам зусім, у яго творчасьці таго пэрыяду, не адлюстравана.

З глыбокім спачуваньнем у цэлым шэрагу сваіх вершаў Колас замалёўвае бяспраўнае становішча беларускага селяніна, прыдушанага падвойным прэсам сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Усё жыцьцё селяніна праходзіць у цяжкой, маруднай, непасільнай працы. Селянін, які кажа пра сябе:

„Я балоты сушу.
Надрываю жывот,
Я за бесцэн кашу.
Рыю землю, як крот...

Усе вуглы і куты
Сваім целам я зьмёў
Сьсек і лес, і кусты,
І дарогі правёў,

Збудаваў я палац,
Многа фабрык настоў“...
і г. д.—

і рукамі якога, на думку Коласа, збудована ўсё на сьвеце, гаворачы пра сваё жыцьцё, заяўляе:

„Ня жыву, а гнію,
Прападаю, як мыш,
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжкі мой крыж“.

Бо вынікамі, плёнамі працы селяніна карыстаюцца дармаеды». Селяніна бязьлітасна эксплёатуюць і рабуюць «багачы і панства», якія на крывавым яго поце будуюць свой дабрабыт.

Прыгнечаны панствам бяспраўны беларускі мужык, кажа Колас, адціснуты на пустыя, неўраджайныя, балоцістыя і камяністыя землі—

„Ў балоты мы адціснуты.
Загнаны мы у шчыліны,
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены“—

ён задыхаецца ад малазямельля, яго поле кепскае і неўрадлівае парэзана на маленькія параскіданыя па сьвеце палоскі, да якіх нават ня можна падвезьці гною.

Сялянская ніва, якая вечна «пустымі шуміць каласамі», ня можа пракарміць нават і сям'і самога селяніна, ён прымушаны ісьці працаваць да пана ў маёнтак, або вандраваць па гарадох і мястэчках, прадаючы свае мазолістыя рукі за кавалак хлеба. «Раскрестиянивание» сялянства—гэты заканамерны працэс, які зьвязаны з пранікненьнем капіталізму ў вёску—знаходзіць сваё, хоць і няпоўнае, адлюстраваньне ў творчасьці Коласа гэтага пэрыяду. У творы «Плытнікі» аўтарам паказана, як сялянства, якое разбураецца, цэлымі масамі пакідае вёскі і адпраўляецца на пошукі працы.

„Клумак за плячамі,
Згорбленыя сьпіны,
Валіць гарадамі
Люд на сплаў віціны“.

І далей Колас у гэтым-жа творы спыняецца на апісаньні тых умоў, у якіх эксплёатуецца селянін, выгнаны галадухай з наседжанага гнязда на зарабкі:

„Плытнік гнецца ў полі,
Мерзьне ён у холад,
Ведае нядолю,
Ведае і голад“.

Цёмны, прыдушаны, бяспраўны беларускі мужык, у выніку жорсткае эксплёатацыі з боку пануючых кляс і дзяржавы, быў даведзены да жабрацкага існаваньня. Колас у сваіх творах, нікольні не пера-

большваючы, расчыняе, паказвае перад чытачом тыя жудасныя ўмовы, у якіх жыве і пакутуе абяздолены селянін. Ён зьмяшчаецца разам з жывёлаю, хата яго падобна да хлява, у ёй брудна, дымна, курна.

„Ў хаце чорна, ня прыбрана
Парасяты пад палком,
Павуцінаю затканы
Стол і кут пад абразом.

Дзеці ўстануць пасьля ночы—
Крык хоць вушы затыкай.
Дым з камінку лезе ў вочы,
Дзед,—сярдуе ая-яй!

Селянін ходзіць у лахманох, харчуецца сурагатамі ніжэйшых гатункаў, а з глыбокай восені пачынае галадаць у літаральным сэнсе гэтага слова.

„У кішэні ні грашынкі,
Хата поўная дзятвы!
Ні палевца, ні лучынкі—
Хоць у зямлю лезь жывы.

Папалілі, пераелі—
Нічагутка, ані ў зуб!
Хлеба толькі да нядзелі,
На два разы ўсяго круп!“

Мала таго, што селянін азіяцкім чынам эксплёатуецца памешчыкам, рабуецца дзяржавай—з яго яшчэ зьдзекуюцца, ня лічаць за чалавека, купляюць як жывёліну, б'юць розгамі:

„Абсьмеяны аблаяны,
Гразёю мы замазаны,
Багатымі мы скрыўджаны,
Няволяю мы зьвязаны“—

кажа вуснамі селяніна аўтар.

У творчасьці Коласа таго пэрыяду ня толькі знайшло сваё адлюстраваньне беспраўнае сацыяльнае і нацыянальнае становішча беларускага мужыка, у ёй з усёю пакутнасьцю і таўнатою выразіўся пратэст асноўнае масы беларускага сялянства супроць непамерна цяжкога сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, у ёй знайшлі сваё яскравае выяўленьне клясавыя імкненьні і ідэалы беларускага сялянства, з якімі яно ішло ў рэвалюцыю 1905 г., у ёй выразіліся слабыя і моцныя бакі масавага рэвалюцыйнага сялянскага руху. Колас у пэрыяд рэвалюцыі 1905 г. выступае як змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне сялянства. Непасрэднай задачай рэвалюцыі 1905 г. на Беларусі, як і ў Расіі была задача скінуць самаўладзтва, канфіскацыя памешчыцкага землеўладаньня, рашучая ліквідацыя ўсіх

форм, прыгоньніцкіх адносін, поўнае «освобождение нашей деревни от всех пережитков рабства», устанаўленьне буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі, васьмігадзіннага рабочага дню.

Гаворачы пра задачы буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, неабходна падкрэсьліць, што сацыялістычны пралетарыят, зьяўляючыся галоўнай кіруючай сілай, гегемонам рэвалюцыі 1905 г., вядучы барацьбу ў саюзе з сялянствам за рэвалюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пралетарыяту і сялянства, усямерна і рашуча падтрымліваў рэвалюцыйныя патрабаваньні сялянства, але ніколі і ні ў якім разе ня зводзіў, не абмяжоўваў сваіх задач у рэвалюцыі буржуазнымі рамкамі, як гэта рабілі меньшавікі. Меньшавікі,—кажа Сталін,—«отвергли идею гегемонии пролетариата в буржуазно-демократической рэволюции, политике союза рабочего класса з крестьянством, они предпочли политику соглашения с либеральной буржуазией, а революционно-демократическую диктатуру пролетариата и крестьянства об'явили реакционной и бланкистской схемой, противоречащей развитию буржуазной революции». Бальшавікі, партыя пралетар'яту, заўсёды рашуча і безьлітасна змагаліся супроць меньшавізму «отстаивали идею союза рабочего класса с крестьянством при гегемонии пролетариата. Большевики утверждали, что дело надо вести к революционно-демократической диктатуре пролетариата и крестьянства с тем, чтобы от революции буржуазно-демократической перейти немедленно к революции социалистической, при обеспечении поддержки со стороны деревенской бедноты (падкрэсьлена мною—В. Б.).

Такія ў агульных рысах асноўныя задачы, якія павінна была вырашыць буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя.

Коласава творчасьць гэтага пэрыяду падпарадкавана вырашэньню надзённых задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Асноўнае, супроць чаго выступае Колас у сваёй творчасьці—гэта супроць тагачаснага палітычнага ладу, супроць памешчыкаў і памешчыцкай эксплёатацыі.

У сваіх творах, як напрыклад у вершы «Ворагам», аўтар ад імя сялянства, якое, на яго думку, зьяўляецца галоўнай рухаючай сілай рэвалюцыі, прад'яўляе ў грозны час расплаты «багачам і панству» свой клясавы рахунак. Коласаўскі селянін, усьвядоміўшы сваю сілу, грознымі словамі, якія ня ведаюць літасьці, кліча на суд эксплёататараў-дармаедаў.

„Багачы і панства,
Нашы дабрадзеі!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, владзеі!
І на грозных межах
Часоў пераходных
Сьмела вас пытаем,
Прагных і нягодных...“

Панства, кажа Колас, галоўны—вораг селяніна Гэта яно вінавайца жабрацкай долі селяніна, яго пакут. Панства прычына таму, што мужык увесь век працуе і, ня гледзячы на гэта, жыве жабраком, бо плёнам яго працы карыстаюцца эксплёататары.

„Чыімі рукамі
Вы дабро зьбіралі?
На чые вы сьлёзы
Дабрабыт куплялі?
І за што, скажэце,
Палкамі нас білі
Секлі-каталі,
Голадам марылі?
Ласкаю-ж чыею,
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы" —

сьмела пытаецца селянін, клічучы панства на суд. І далей, у гэтым творы ў мастацкай форме выкладаюцца, па сутнасьці справы, асноўныя праграмныя патрабаваньні рэвалюцыйнага сялянства. Колас у творах вышэйпададзенага характару выражае ў мастацкай форме пратэст асноўных мас сялянства супроць тагачаснага палітычнага ладу.

Шлях да лепшага жыцьця селяніна мысьліцца Коласам праз жорсткую барацьбу супроць панства як заклятага ворага селяніна.

„Багачы і панства
І вы, ўсе брадзягі!
Ў бок з дарогі, каты!
Бойцеся сермягі!
Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць
І па вас асіны
Сьлёзы праліваюць".

У маленькім творы, які я ніжэй падам, Колас яшчэ акрэсьленьней заяўляе, што ня будзе селяніну жыцьця, не атрымаць яму зямлі да тых пор, пакуль не пераевешаюць паноў.

„— Што, брат Грышка, папраўляйся—
Чуткі ёсьць—зямлі дадуць.
Не хварэй, брат, падымайся
Ды ачуньвай як небудзь.
— Эк, Мікола: што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, ня будзе нам жыцьця,
Як паноў не перавешаць".

Сялянства, падняўшыся на барацьбу пад кіраўніцтвам пралетарыяту за зямлю і волю, не магло атрымаць ні першага ні другога, не

змагаючыся супроць самаўладзтва—гэтай галоўнейшай і магутнейшай апоры азіяцкае экспляатацыі селяніна ў інтарэсах пануючых кляс. Колас у сваіх творах выступае супроць самаўладзтва, ён зрывае з цара маску дабрачынцы і народнага абаронцы і паказвае яго ў сапраўдным аголеным выглядзе, як ашуканца, які гандлюе народам у інтарэсах пануючых кляс. Колас заклікае ня верыць цару, быць пільнымі, бо гэты гандляр з чорнае біржы зноў хоча падмануць народ.

„А ні хлеба, а ні солі,
Ні купіць нам, ні прадаць...
Эх, ня вер цару ніколі—
Хоча зноў нас ашукаць“.

Колас пад агонь сваёй сатыры бярэ і самога цара і ў яго асобе ўсё самаўладзтва, выкрывае ў сваіх творах уяўную, мішурную магутнасьць расійскага царызму, які трымаецца на бізунох, турмах і расстрэлах. Самаўладзтва на чале з «брадзягай», «скулой басяцкай» дурачком-царом дажывае лічаныя гадзіны.

„Пануй, Мікалас,
Часіна такая,
Трымайся прастола,
А будзе вас гола.
Акончан малебен,
Ты нам не патрэбен
Другі і апошні Мікола!“

Выступаючы супроць царызму, Колас высьмейвае камэдыю выбарчай кампаніі ў думу, востра зьдзекуюцца над куртатаю канстытуцыяй—

„Дзесяць год Мікола думаў,
І прыдумаў ён думу,
Пасадзілі разам з панам
Янку, Грыца і Кузьму“,—

кваліфікуючы яе як зьдзек над народам, ашуканства народу. У творы «Канстытуцыя» Колас трапна выкрывае сутнасьць усіх канстытуцыйных падачак самаўладзтва.»

„Канстытуцыю далі“,
Адчынілі дзьверы
І... ў астрог нас павялі
І таўкуць бяз меры.

Віта дакляраваў свабоду,

„Потым хвігу паказаў
„Вернаму“ народу“.

Сабралася дума. Дэпутаты загаварылі пра зямлю.

„Зашумелі аб зямлі
Ў думе дэпутаты,
Дык па карку ім далі
Зпашлі да хаты".

«Карысьць» для селяніна, якую з сабою прынесла канстытуцыя, зводзіцца да таго, што мужыка пачалі яшчэ больш уціскаць, яшчэ больш над ім зьдзекавацца пануючыя клясы.

Колас усьведамляе неабходнасьць рэвалюцыйных сродкаў змагання, у яго творах адчуваецца вера ў рэвалюцыю, вера ў яе перамогу. Колас заклікае не апушчаць рук, не падаць духам, а:

„За работу жыва, жыва!
Каб нас доля ня ўшчувала,
Каб ня сохла наша ніва
Каб нуда нас больш ня знала!"

Аўтар у сваіх творах, як мы бачым, выражае асноўныя патрабаваньні рэвалюцыйнага сялянства, яго гарачы і рашучы пратэст супроць сацыяльнага прыгнечаньня тагачасным ладам.

Выступаючы ў сваёй творчасьці як рэвалюцыйны сялянскі дэмакрат, Колас да правільнага разуменьня характару рэвалюцыі не падняўся, ён яе разумее па дробнабуржуазнаму, так, як яе разумелі «многие искренние друзья народа».

На думку Коласа перамога буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі нясе для селяніна вызваленьне ад уселякага ўціску і путаў, нясе яму новае, сьветлае, «залатое жыцьцё».

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,—жыцьце залатое
Будзе ў нашай старане".

Паэта у дадзеным выпадку не зразумеў таго, што буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя «уничтожит до конца все остатки крепостничества, но вовсе не уничтожит буржуазного хозяйничанья, не уничтожит капитализма, не уничтожит деления общества на классы, на богатых и бедных, на буржуазию и пролетариат». (Ленін). Толькі сацыялістычная рэвалюцыя сапраўды вызваліць працоўныя масы сялянства ад уціску і эксплёатацыі капіталу.

Колас у сваіх творах дае часта сялянскае, дробнабуржуазнае разуменьне рэвалюцыі. Па Коласу асноўнай рухаючай сілай рэвалюцыі зьяўляецца сялянства,—селянін асноўная фігура грамадзтва. Колас не зразумеў таго, што асноўнай рухаючай сілай, гегемонам рэвалюцыі 1905 г. як у Расіі, так і на Беларусі зьяўляўся пралетарыят. Сялянства толькі ў саюзе з пралетарыятам, толькі пад яго непасрэдным кіраўніцтвам магло дабіцца ў рэвалюцыі сваіх асноўных патрабаваньняў. Гэтага неразумеў Колас і ў гэтым выявілася абмежаванасьць

дробна-буржуазнага рэвалюцыянэра. Дэмакратычныя патрабаваньні рэвалюцыйнага беларускага сялянства, якія выявіў Колас на дадзеным этапе сваёй творчасьці, рабочая кляса і яе партыя ўсямерна падтрымлівала, адначасова вядучы барацьбу з «абмяжованасьцю і непасьлядоўнасьцю буржуазнай (у тым ліку і сялянскай) дэмакратыі» (Ленін). Але падтрымліваючы тэтыя рэвалюцыйныя патрабаваньні сялян, падтрымліваючы сялянства ў яго барацьбе за зямлю і волю, пралетарыят ніколі ня зьмешваў свае самастойныя патрабаваньні з патрабаваньнямі рэвалюцыйнай селянскай дэмакратыі. «Крестьяне должны знать,—кажа Ленін,—что красное знамя, которое поднято в городах, есть знамя борьбы за ближайшие и насущные требования не только промышленных и сельских рабочих, но и за требования милионов и десятков миллионов мелких землевладельцев... Но красное знамя означает не только поддержку пролетариатом крестьянских требований. Оно означает еще самостоятельные требования пролетариата. Оно означает борьбу не только за землю и волю, но и борьбу против всякой эксплоатации человека человеком, борьбу против нищеты народных мас, борьбу против господства капитала» (Ленін, том 7, частка I, стар. 19).

Такім чынам, з вышэйпададзенага аналізу творчасьці Коласа, мы бачым, што ён, выражаючы асноўныя дэмакратычныя патрабаваньні сялянства, стаяў за рэвалюцыйны шлях іх ажыцьцяўленьня, г. зн., Колас стаяў за амэрыканскі шлях разьвіцьця капіталізму, пры якім «помещичьего хозяйства нет или оно разбивется революцией, которая конфискует и раздробляет феодальные поместья. Крестьянин преобладает в таком случае и эволюционирует в капиталистического фермера» (Ленін). Колас у сваёй творчасьці змагаецца за сялянскую эвалюцыю земляробства, супроць прускага шляху разьвіцьця капіталізму, які выгадны быў пануючым клясам.

Выступаючы ў сваей творчасьці дадзенага пэрыяду за сацыяльнае вызваленьне селянства, Колас выступае адначасова і супроць нацыянальнага ўціску, за нацыянальнае вызваленьне. Нацыянальна-вызваленчы масавы рух зьвязан з рэвалюцыяй 1905 г. Рэвалюцыя абудзіла ўсе прыгнечаныя царызмам нацыянальнасьці. Для эпохі буржуазна-дэмакратычнага перавароту, для эпохі «краху фэадалізму і абсалютызму» характэрным і тыпічным зьяўляецца абуджэньне нацыянальных рухаў. У такія эпохі «национальные движения впервые становятся массавыми, втягивают так или иначе в с е классы населения в политику путем печати, участия в представительных учреждениях и т. п.», уцягваецца ў яго і сялянства, «как найболее многочисленный и «тяжелый на под'ём» слой населения, в связи з борьбой за политическую свободу вообще и за права национальности в частности» (Ленін, т. XIX).

Колас, заклікаючы на барацьбу сялянства супроць самаўладзтва, паліцэйшчыны, памешчыкаў, заклікаў і да змаганьня супроць нацыянальнага ўціску. У яркіх, але змрочных колерах малюе Колас пакуты

«роднага краю», «роднага народу». Край наш бедны, цёмны,—кажа ён у сваіх творах,—«забыты богам», сірата.

„Край наш бедны, край наш родны!
Лес балоты ды пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгожы...
Хвойнік, мох ды верасок.
А туманы, як палёнка!
Засьцілаюць лес і гай.
Ой, ты бедная старонка!
Ой, забыты богам край".

У гэтым забытым усімі, закінутым краі, дзе «кепска родзіць колас», пакутуе абяздолены беларускі народ, жыцьцё якога аўтар параўноўвае з цёмнай ноччу, з крывой, вузкай сьцежкай.

Ні край, ні народ ня маюць долі. Беларусь як нацыя пакрыўджана, і аўтар, зьвяртаючыся да беларусоў наогул, заклікае паўстаць на барацьбу за вольнасьць краіны.

„Выйдзем разам да работы!
Дружна станьма, як сьцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!"

Паэта заклікае ня падаць духам, не баяцца цяжкасьцяй, цьвёрда верыць у свае сілы, верыць у вызваленьне роднага краю, і тут-жа веру ў гэтае вызваленьне абгрунтоўвае спасылкамі на мінулае.

„Ці-ж мы, хлопцы, рук ня маем?
Ці-ж нам сілы бог ня даў?
Ці-ж над родным нашым краем
Промень волі ня блішчаў".

Колас на дадзеным этапе сваёй творчасьці (1905—7 г.) у асноўным не адрывае нацыянальнага вызваленьня ад сацыяльнага. Магчымасьць нацыянальнага вызваленьня краіны зьвязваецца Коласам з вызваленьнем ад беднасьці, цемры, сацыяльнай прыгнечанасьці, у якой знаходзіўся беларускі мужык.

„Не бядуй, што сьнег халодны,
Скрые зямлю ад вачэй;
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй!
Будзе час, і сьнег растане,
Прыдзе зноў да нас—вясна,
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас вечна доля гнала,
Што жывем у бедназе".

Але тут-жа неабходна зазначыць, што нават у гэтыя часы ў творах Коласа мы знаходзім моманты адрыву нацыянальнага вызваленьня ад клясавага, неразуменьне Коласам клясавасьці нацыянальнага пытаньня. У паасобных творах, як напр., «Беларусам», мы знаходзім, што нацыянальнае вызваленьне падаецца як справа надклясавага характару. Аўтар зьвяртаецца наогул да беларусоў, і заклікае паўстаць за вольнасьць сваёй краіны агульнымі сіламі, адзіным нацыянальным фронтам.

„Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце браткі!
Ўстань, ты наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палеткі
Жыцьця новага вясна".

У дадзеным выпадку Колас не разумее таго, што сялянства, ад імя якога ён выступае, асноўных сваіх нацыянальна-вызваленчых патрабаваньняў змагло-б дабіцца, вядучы рашучую барацьбу супроць самаўладзтва і памешчыкаў, толькі ў саюзе з пралетарыятам, толькі пад яго непасрэдным кіраўніцтвам, толькі пры яго гегемоніі, а не ў саюзе з беларускай буржуазіяй, не ў змаганьні адзіным нацыянальным фронтам супроць самаўладзтва. Пралетарыят і яго партыя, як адзіна пасьлядоўны барацьбіт за справу сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня працоўных, змагаючыся супроць усялякага прыгнёту, у тым ліку і нацыянальнага, усямерна падтрымліваў масавы нацыянальна-вызваленчы рух, накіраваны «на ослабление, на свержение империализма, а не на его укрепление» (Сталін). Партыя разам з гэтым рашуча змагалася з буржуазнымі, па сутнасьці справы, тэорыямі аб адзіным бесклясавым народзе, аб надкласавасьці нацыянальнай справы, заўсёды разглядаючы нацыянальнае пытаньне як частку агульнага пытаньня аб пралетарскай рэвалюцыі, а канкрэтна гаворачы пра той перыяд, г. зн., дакастрычніцкі перыяд, «национальный вопрос рассматривался как часть общего вопроса о буржуазно-демократической революции, т. е. как вопрос о диктатуре пролетариата и крестьянства» (Сталін). Партыя рашуча змагалася з непасьлядоўнасьцю, абмежаванасьцю сялянскай дэмакратыі ў барацьбе як за сацыяльнае, так і нацыянальнае вызваленьне.

З вышэй пададзенага відаць, што ў Коласа, у сілу абмежаванасьці сьветапогляду дробна-буржуазнага рэвалюцыянэра, наглядаюцца моманты адрыву нацыянальнага пытаньня ад клясава, ідэалізацыя мінулага і г. д., але ня гэтае характэрна ў творах Коласа, прысьвечаных разьвязаньню нацыянальнай праблемы. У той час, як беларуская буржуазія, баючыся пралетарскай рэвалюцыі, шляхам згоды з самаўладзтвам думала вырашыць нацыянальнае пытаньне, Колас, як і асноўныя

масы сялянства, стаяў за вырашэньня гэтага пытаньня шляхам рэвалюцыі.

„Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,—жыцьцё залатое
Будзе ў нашай старане".

Такім чынам, і пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня Колас стаіць на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцыях.

Такі ў агульных рысах асноўны, дамінантны напрамак Коласавай творчасьці першага пэрыяду, але гэтым яна ня вычэрпваецца.

Побач з творамі, у якіх аўтар з усею сілаю свайго мастацкага таленту ўскрывае клясавыя карэньні нядолі беларускага мужыка і заклікае сялянства на рашучую барацьбу супроць самаўладзтва і памешчыкаў, за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне—ёсьць вершы, у якіх Колас у мінорна-сэнтымэнтальных танох, пасыўна-аб'ектывісцкі, без ускрыцьця клясавых прычын канстатуе цяжкое бязвыходнае становішча сялянства, прыдушанага падвойным прэсам сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, аплаквае яго нядолю:

„Наша жыцьцё невясёла...
Ноч і цьма на нас ляглі.
Нашы хаты, вёскі, сёлы
Сівым мохам абрасьлі.
Нашы сьлёзы няшчысьлёны,
З нас крывавы льлецца пот...
Люд забіты, люд хрышчоны,
Абяздолены народ!..

Побач з вершамі, у якіх Колас выступае як змагар за народную рэвалюцыю, поўны веры і надзеі ў яе перамогу, ёсьць творы, у якіх што раз, то часьцей і мацней гучаць ноты безнадзейнасьці і пэсымізму, няверы ў рэволюцыю, беспэрспэктыўнасьці, згубленасьці.

„Ня відно мае дарогі—
Горы, лес, балоты, гразь...
Колькі смутку і трывогі
Ў гэты цяжкі, цёмны час.
Дзе-ж дарога ты другая?
Я стаю, адзін, адзін.
Ноч вакол ляжыць глухая,
Ці-ж то сьвет сышоўся ў клін".

Побач з творамі, у якіх жорсткая клясавая барацьба з панствам і царызмам лічацца як адзіны сродак, адзіны шлях вызваленьня ад нядолі беларускага мужыка,—ёсьць творы, у якіх гарэлка аўтарам раіцца як сродак, што палягчае пакуты і гора селяніна.

„Эх, наперла ліха Грышку,
Рук няма за што зацяць,
Хіба вып'ем па кілішку,
Лягчэй будзе гараваць".

Побач з творамі, у якіх аўтарам з надзвычайнаю сілаю мастацкасьці зрываюцца маскі з паноў «дабрадзеяў», з клясавых ворагаў селяніна, ёсьць творы, у якіх канкрэтныя эксплёататары мужыка падмяняюцца абстрактным, фаталістычным паняцьцем долі.

„Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь як сажа.
Крыж на перасеках
Аб пакуце кажа...
... Ой, дарога—сьцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыцьце наша,
Ты, доля, такая!

Творы вышэйпералічанага характару, у якіх наглядаюцца паасобныя ноткі няверы ў рэвалюцыю, ноткі расчараванасьці ў рэвалюцыйных сродках змаганьня, губляньне пэрспэктывы, пасаваньне перад цяжкасьцямі, пасыўнае аплакваньне нядолі селяніна—уваходзяць толькі як паасобныя моманты, паасобныя элемэнты ў агульную, актыўнадзеўную рэвалюцыйную творчасьць Коласа першага пэрыяду. Гэтая непасьлядоўнасьць, якая выяўляецца ў творчасьці Коласа, адлюстроўвае сабою непасьлядоўнасьць, хістаньні сялянства ў рэвалюцыйнай барацьбе, «такия колебания—кажа Ленін,—неизбежны, вследствие самой сущности экономического положения мелкого производства».

Колас ня змог падняцца вышэй дробна-буржуазнага пункту гледжаньня на рэвалюцыю, не зразумеў характару і рухаючых сіл яе, не ўсьвядоміў пралетарыяту як гегемона рэвалюцыі, не ўсьвядоміў кіруючай ролі бальшавіцкай партыі ў справе вызваленьня працоўных мас ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Усё гэта гаворыць за тое, што рэвалюцыйнасьць Коласа як прадстаўніка рэвалюцыйнай сялянскай дэмакратыі, як і рэвалюцыйнасьць асноўных мас сялянства, па сваёй сутнасьці—дробна-буржуазная, з усімі уласьцівымі апошняй абмежаванасьцямі і непасьлядоўнасьцямі.

Канчаючы разгляд творчасьці Коласа першага пэрыяду, неабходна падкрэсьліць яшчэ раз наступнае: Колас у сваёй творчасьці выступае перад намі, як прадстаўнік рэвалюцыйнага сялянства, як змагар за народную рэвалюцыю, за справу вызваленьня асноўных мас сялянства ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Творчасьць Коласа гэтага пэрыяду непарыўна зьвязана з дэмакратычнымі, рэвалюцыйнымі элемэнтамі масавага буржуазна-дэмакратычнага, нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі. У ёй знайшлі сваё яскравае і высока-мастацкае выяўленьне клясавыя імкненьні і ідэалы мільённых мас беларускага сялянства, прыдушанага фэадальна-памешчыцкай царскай Расіяй.

(*працяг будзе*)

Праф. Н. Яфімаў

# ЛЕНІНІЗМ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## I

Адгучэў лёзунг за «плеханаўскую артадаксыю». Гэты ў корані няправільны лёзунг адлюстроўваў уплыў дэборынскай школы на раппаўскае кіраўніцтва, уплыў меншавіцтвуючага ідэалізму, які зьмяншаў тэарытычнае значэньне Леніна і супроцьстаўляў ленінскай матэрыялістычнай дыялектыцы філёзофскія погляды Плеханава. Літаратуразнаўства стала на шлях глыбокай перабудовы змаганьня за ленінскі этап навукі, за аўладаньне тэарытычнымі і мэтадалёгічнымі вышынямі ленінскай прынцыповасьці.

Для свайго ўздыму на вышэйшы ўзровень яно заклікана засвоіць і тое, што Ленін унёс у агульную філёзофію марксызму, у тэорыю пралетарскай рэвалюцыі, у разуменьне гістарычнага працэсу і яго непасрэдныя выказваньні аб мастацтве і літаратуры, т. зн. апірацца на ленінскую мэтадалёгію, ленінскую палітыку, ленінскую канцэпцыю гістарычнага працэсу і ленінскую ацэнку зьяў мастацтва і літаратуры.

## II

Ленінізм—далейшы працяг і разьвіцьцё марксызму, яго вышэйшае выяўленьне. Чым вышэй і глыбей разгортваецца вывучэньне тэарэтычнай спадчыны Леніна, тым відавочней становіцца, што ў ёй закладзен моцны фундамант для распрацоўкі самых разнастайных навуковых дысцыплін. Вучоныя розных спэцыяльнасьцяй тым большы будуць мець посьпех у сваіх навуковых дасягненьнях, чым лепш аўладаюць яны перш за ўсё дыялектычным мэтадам, тым мэтадам, з дапамогай якога Маркс і Энгельс ператварылі сацыялізм з утопіі ў навуку, а Ленін узьняў яе на вышэйшую ступень.

Ленін даў найбольш поўнае разуменьне марксыцкай дыялектыкі. У яго работах па тэорыі дыялектыкі ёсьць вельмі багаты матар'ял па

крытыцы мэханістычнай рэвізіі дыялектыкі і разам з тым дасканалы ўзор бязьлітаснай крытыкі схалястычнага, фармалістычнага спусташэньня дыялектыкі,ператварэньня яе ў набор пустых фраз, палажэньняў «самарухомых» з саміх сябе. Ленінская пастаноўка пытаньня аб матэрыялістычнай дыялектыцы Гегеля, разьвіцьцё ім пытаньняў аб суадносінах лёгічнага і гістарычнага, дыялектыкі і тэорыі пазнаньня, пытаньня аб адзінстве процілегласьцяй і пераходах катэгорый, якія тэарэтычна выражаюць рэальныя пераходы і т. д.,—усё гэта патрабуе сур'ёзнага паглыбленага засваеньня.

## III

Пазнаньне клясавай сутнасьці зьявы, якая дасьледуецца, і партыйная яе ацэнка цесна сплятаюцца ў Леніна, «няўмольна аб'ектыўны аналіз рэчаіснасьці і складзеных на глебе гэтай рэчаіснасьці адносін паміж рознымі клясамі» ідзе поруч з актыўнымі адносінамі да рэчаіснасьці. Паводле Леніна, «нельга вывучаць сапраўдны стан рэчаў, не сукваліфікуючы, не ацэньваючы яго па-марксыцку». Выступаючы супроць Струвэ з яго аб'ектывізмам, з яго адмаўленьнем ад рэвалюцыйнай дзейнасьці марксызму, Ленін выразна фармулюе розьніцу паміж аб'ектывістам і матэрыялістам. «Аб'ектывіст,—піша Ленін,—гаворыць аб неабходнасьці дадзенага гістарычнага працэсу; матэрыяліст канстатуе з дакладнасьцю дадзеную грамадзка-эканамічную фармацыю і параджаемыя ёю антаганістычныя адносіны. Аб'ектывіст, даказваючы неабходнасьць дадзенага раду фактаў, заўсёды рызыкуе зьбіцца на пункт гледжаньня апалёгета гэтых фактаў; матэрыяліст ускрывае клясавыя супярэчнасьці і тым самым вызначае свой пункт гледжаньня... матэрыяліст гаворыць аб тэй клясе, якая «загадвае» дадзеным эканамічным парадкам, ствараючы такія-жа формы процідзеяньня іншых кляс. Такім чынам, матэрыяліст, з аднаго боку, пасьлядоўней за аб'ектывіста і глыбей, паўней праводзіць свой аб'ектывізм. Ён не абмяжоўваецца паказаньнем на неабходнасьць працэсу, а высьвятлее, якая менавіта грамадзка-эканамічная фармацыя дае зьмест гэтаму працэсу, якая менавіта кляса вызначае гэту неабходнасьць... З другога боку, матэрыялізм уключае ў сябе, так сказаць, партыйнасьць, абавязваючы пры ўсякай ацэнцы падзеі проста і адкрыта станавіцца на пункт гледжаньня пэўнай грамадзкай групы».

Ленін рашуча адмятае «аб'ектывізм, які характарызуе працэс наогул, а ня тыя антаганістычныя клясы ў паасобку, са змаганьня якіх складваецца працэс», аб'ектывізм, «які ня імкнецца ўскрываць у кожнай канкрэтнай стадыі гэтага працэсу ўласьцівую яму форму клясавага антаганізму». Ленін высоўвае к а н к р э т н а-г і с т а р ы ч н ы п а д ы х о д  д а  г р а м а д з т в а.

Калі плеханаўская пяцічленка дае азначэньне грамадзтва наогул, як адзінага цэлага, мінаючы клясы, спэцыфічны клясавы антагонізм, уласьцівы кожнай дадзенай грамадзкай фармацыі, калі яна носіць ха-

рактар абстрактны, дык азначэньне грамадзтва ў Леніна, як і ў Маркса, уключае ў сябе абавязковую ўмову дыялектыкі—канкрэтнасьць, гістарычнасьць, высоўвае разуменьне грамадзтва, як антаганістычнага адзінства. Выходзячы з вучэньня Маркса і Энгельса, Ленін заўсёды бачыў у клясавым змаганьні, у клясавым антаганізьме «спружыну гістарычнага працэсу», яго рухаючы пачатак, і ў кожным сваім сацыолёгічным аналізе ўскрываў канкрэтна-гістарычную расстаноўку клясавых сіл.

З гэтага пункту гледжаньня выяўляецца памылка Фрычэ ў трактаваньні ім літаратурна-мастацкіх стыляў: «Кожная пэўная грамадзкая фармацыя (паводле Фрычэ) мае свой пэўны мастацка-літаратурны стыль, які вырастае ў канчатковым разрахунку з пануючага спосабу вытворчасьці і выцякаючых з яго псыха-ідэалёгічных асаблівасьцяй, характэрных для пануючай клясы і прымыкаючых да яе інтэлігенцкіх груп» (Фрычэ «Проблемы искусствоведения», ст. 173). Фрычэ бярэ стыль ня як зьяву клясавую, а як характарыстыку цэлай грамадзкай фармацыі, элімінуючы клясы, і таму ён вызначае, напрыклад, імпэрыялізм, як эпоху урбанізму, машынізму і дынамізму, змоўчваючы аб клясавым змаганьні, аб супярэчнасьцях капіталізму, аб істотных момантах, што выкрываюць імпэрыялізм, як апошні этап капіталізму, як эпоху войнаў і рэвалюцый.

У процівагу погляду на стыль і культуру, як на параджэньне грамадзка-эканамічнай фармацыі ў цэлым, ленінская тэорыя ўказвае, што ня існуе адзінай нацыянальнай культуры, а ў кожнай нацыянальнай культуры ёсьць пануючая буржуазная, ёсьць рэшткі старой, часамі яшчэ моцнай фэўдальнай культуры і існуюць зародкі дэмакратычнай сацыялістычнай культуры.

## IV

Прадстаўнікі розных галін навуковых ведаў могуць пачэрпнуць з прац Леніна ня толькі мэтадалёгічныя дырэктывы, але і канкрэтныя назіраньні, ужо гатовыя абагульненьні і растлумачэньні, ужо знойдзеныя формулы і схэмы, здольныя ў высокай ступені ўзбагаціць і апладніць іх навуковыя дысцыпліны.

На Ўсесаюзнай канфэрэнцыі гісторыкаў-марксыстаў М. Н. Пакроўскі паказаў, што тая канцэпцыя рускай гісторыі, якую называюць марксыцкай і якую зьвязваюць з яго імем, гэта—канцэпцыя Леніна, а не яго. Тав. Пакроўскі гаварыў пра сябе, што ён адкрыўся Колюмбам пасьля адкрыцьця Леніным Амэрыкі па цэлым радзе асноўных пытаньняў рускай гісторыі (аб ролі гандлёвага капіталу ў стварэньні Маскоўскай дзяржавы, аб зьнішчэньні прыгоннага права, як выніку разьвіцьця грашовай гаспадаркі ўнутрыпрыгоннай вотчыны і г.д.). Марксыцкая схэма рускай гісторыі ёсьць схэма ленінская (гл. М. Н. Пакроўскі «Ленинизм и русская история», М. 1930 г.

Працы першай усесаюзнай канфэрэнцыі гісторыкаў-марксыстаў, том I; яго-ж, «Ленин и русская история», «Борьба классов», 1931 г., № 1; пар. В. Быстранскі «Ленин историк», Л. 1925 г.).

Гісторыку рускай літаратуры неабходна падыходзіць да вывучэньня літаратурных фактаў ня толькі з ленінскай мэтадолёгіяй, але й апірацца на ленінскую канцэпцыю рускага гістарычнага працэсу. Рад буйнейшых памылак у нашай гістарычнай літаратуры і ў гісторыка-літаратурных аглядах зьяўляецца вынікам ігнараваньня або недаацэнкі ленінскага вучэньня аб «двух шляхох» капіталістычнага разьвіцьця, а між тым ленінская праблема «двух шляхоў» ёсьць асноўная мэтадалёгічная праблема ўсяго гістарычнага працэсу Расіі ад рэформы 1861 г. да рэвалюцыі 1917 г., яна складае вось усёй гісторыі Расіі гэтага пэрыяду. Яна ўскрывае спружыны клясавага змаганьня ў Расіі ў эпоху яе буржуазнага пераўтварэньня і дазваляе выразна вызначыць стрыжань разьвіцьця грамадзка-палітычнай сьвядомасьці ў літаратуры таго часу.

У сваёй рабоце «Аграрная программа социал-демократии в первой русской революции 1905—1907 г. г.» Уладзімер Ільліч пісаў: «Перад Расіяй толькі адзін шлях буржуазнага разьвіцьця... Але формы гэтага разьвіцьця могуць быць дваякія. Рэшткі прыгоньніцтва могуць адпадаць і шляхам пераўтварэньня памешчыцкіх гаспадарак і шляхам зьнішчэньня памешчыцкіх лятыфундый, г. зн. шляхам рэформы і шляхам рэвалюцыі. Буржуазнае разьвіцьцё можа ісьці, маючы на чале буйныя памешчыцкія гаспадаркі, якія паступова становяцца ўсё больш буржуазнымі, паступова замяняюць прыгоньніцкія спосабы эксплёатацыі буржуазнымі,—яно можа ісьці таксама, маючы на чале дробныя сялянскія гаспадаркі, якія рэвалюцыйным шляхам выдаляюць з грамадзкага арганізму «нарасьць» прыгоньніцкіх лятыфундый, і свабодна разьвіваюцца потым бяз іх па шляху капіталістычнага фэрмэрства...». (У. І. Ленін, збор твораў, том IX, стар. 443, пар. прадмову да другога выданьня работы «Развитие капитализма в России», збор твораў, т. II, с. 10—11).

Змаганьне «двух шляхоў»—гэта змаганьне рэвалюцыі і контррэвалюцыі за «чыстку» шляхоў для разьвіцьця капіталізму ад фэўдальных перажыткаў, за рэвалюцыйнае вырашэньне, або вырашэньне шляхам рэформы (контррэвалюцыйным мэтадам) задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Гэта змаганьне за рэвалюцыйную «чыстку» супроць контррэвалюцыйнай рэформы. Ленін і выказаў у формуле «Змаганьне двух шляхоў разьвіцьця капіталізму ў Расіі», або «змаганьне амэрыканскага і прускага шляху», або «змаганьне двух мэтадаў аграрнага разьвіцьця». Найбольш поўна ўскрываюць зьмест формулы супрацьстаўленыя Леніным у «Аграрной программе»: «рэфарматарскі шлях с т в а р э н ь н я ю н к е р с к а-б у р ж у а з н а й Р а с і і (адпаведна—«пруські» шлях) і «рэвалюцыйны шлях с т в а р э н ь н я с я л я н с к а - б у р ж у а з н а й Р а с і і» (адпаведна—«амэрыканскі» шлях). (Гл. Н. Ванаг «Ленинская концепция двух путей раз-

вития капитализма в России», М. Л. 1931 г. і часопіс «Историк-марксист»», 1931 г., кніга 22, с. 77—145, з дыскусьяй па дакладу Н. Ванага).

Той працэс, які лібэральныя гісторыкі называлі «грамадзкім», або «вызваленчым рухам» і які ў сапраўднасьці быў працэсам змаганьня за буржуазнае разьвіцьцё Расіі ў 60-х гадох, на самой справе дыфэрэнцыяваўся, пайшоў па двух асобных шляхох—за прускі тып разьвіцьця і за амэрыканскі. Сацыяльнай базай змаганьня за прускі тып былі буржуазія і буржуазныя пласты дваранства, сацыяльнай базай змаганьня за амэрыканскі шлях была гарадзкая і сельская дробная буржуазія. Палітычнае афармленьне і выяўленьне тэндэнцый прускага шляху атрымалі ў розных тэндэнцыях расійскага лібэралізму, палітычнае выяўленьне і афармленьне тэндэнцыі амэрыканскага шляху атрымалі ў розных кірунках расійскага рэвалюцыйнага радыкалізму і дэмократызму.

Лібэралы хацелі «вызваліць» Расію «зьверху», падзяліўшы прывілеі паміж новымі эксплёататарамі—буржуазіяй і старымі фэўдальнымі эксплёататарамі. «Лібэралы былі і застаюцца ідэолёгамі буржуазіі, якая ня можа пагаджацца з прыгоньніцтвам, але якая баіцца рэвалюцыі, баіцца руху мас, здольнага скінуць манархію і зьнішчыць уладу памешчыкаў. Лібэралы абмяжоўваюцца таму «змаганьнем за рэформу», «змаганьнем за правы», г. зн. падзелам улады паміж прыгоньнікамі і буржуазіяй» (Ленін, т. XI, ч. II, с. 262—263).

У 60—70 гады авангард змаганьня за амэрыканскі шлях разьвіцьця Расіі прадстаўляла рэвалюцыйнае народніцтва. Сацыяльна-эканамічная аснова яго ляжала ў тых адносінах, якія ствараліся ў Расіі ходам эканамічнага разьвіцьця краіны па шляху капіталізму.

«Вызваленьне сялян» у 1861 г. было незавершаной буржуазнай рэформай, праведзенай зьверху прыгоньнікамі-памешчыкамі. Рэформа забясьпечыла далейшае разьвіцьцё капіталізму, і самаўладзтва зрабіла крок у кірунку да буржуазнай манархіі. Але разьвіцьцё капіталізму затрымлівалася і ўсяляк тармазілася прыгоньніцкімі адносінамі, якія захаваліся і ў вялізарных разьмерах ціснулі на капіталістычныя адносіны. Лёс далейшага разьвіцьця капіталізму ў Расіі залежаў ад зьнішчэньня прыгоньніцкіх рэштак, зьнішчэньня сярэднявяковага земляўладаньня і надзельнага сялянскага, г. зн. залежаў ад вырашэньня аграрнага пытаньня. Сялянства з часу рэформы на працягу дзесяцігодзьдзяў змагаецца за такі шлях капіталістычнага разьвіцьця, які забясьпечваў-бы сялянскай гаспадарцы максымальны росквіт. Гэты шлях ішоў праз рашучае зьнішчэньне памешчыцкага земляўладаньня, зьнішчэньня ўсіх прыгоньніцкіх рэштак. У процівагу такому шляху буржуазнага разьвіцьця, названаму Леніным «амэрыканскім», «прускі шлях буржуазнага-ж разьвіцьця азначаў захаваньне

памешчыцкага земляўладаньня і павольнае яго прыстасаваньне да капіталізму. Змаганьне сялянства і памешчыкаў было змаганьнем амэрыканскага фэрмэрскага шляху буржуазнага разьвіцьця, с я л я н с к а й «ч ы с т к і» памешчыцкага земляўладаньня—супроць прускага, юнкерскага шляху, супроць памешчыцкай «чысткі» сялянскіх земляў. Усё змаганьне рэвалюцыйнага народніцтва (пачынаючы ад Н. Г. Чарнышэўскага), яго заклік да сялянства і да сялянскай рэвалюцыі і азначалі аб'ектыўна змаганьне за фэрмэрскі шлях капіталістычнага разьвіцьця, за рэвалюцыйную «чыстку» прыгоньніцтва. Рэвалюцыйнае змаганьне супроць самаўладзтва і прыгоньніцтва ў 60—70 гадох павялі рэвалюцыянэры-разначынцы, што зьмянілі рэвалюцыянэраў з дваранскага асяродзьдзя (дэкабрыстаў, Герцэна). Ленін разглядае рэвалюцыйнае народніцтва, як сваясаблівых утапічных сацыялістаў, суб'ектыўна жадаўшых сацыялізму, але аб'ектыўна разгортваўшых праграму дробных вытворцаў, сялянства наогул, якія імкнуліся да зьвяржэньня самаўладзтва і ўстанаўленьня дробна-буржуазнага сацыялізму ў выглядзе фэдэрацыі абшчын і прадукцыйных арцеляй. Сутнасьць была менавіта ў гэтым імкненьні рэалізаваць «амэрыканскі» шлях капіталістычнага разьвіцьця краіны, а дробна-буржуазныя тэорыі сацыялізму зьяўляліся ілюзіяй, прыкрываўшай гэту сутнасьць змаганьня, бо «ілюзія», быццам крытыка памешчыцкай разнавіднасьці капіталізму ёсьць крытыка капіталізму наогул» («Агр. прогр.»). «Ваюючы з народніцтвам, як з няверным дактрынай сацыялізму меншавікі (пісаў У. І. Ленін) па-дактрынэрску прагледзелі, праваронілі гістарычна-рэальны і прагрэсыўны-гістарычны з ь м е с т народніцтва, як тэорыі масавага д р о б н а-б у р ж у а з н а г а змаганьня капіталізму дэмакратычнага супроць капіталізму лібэральна-памешчыцкага, капіталізму «амэрыканскага» супроць капіталізму «прускага» (У. І. Ленін, збор твораў, т. XX, ч. І, с. 315; пар. т. І. с. 271, 272; пар. 2, с. 283; гл. М. Поташ «Народнический социализм» М. 1930 г.; дыскусія аб «Народнай волі», выд. Ком. Акадэміі, М. 1930.; Ул. Малахоўскі «На два фронта»; да ацэнкі народавольніцтва, М. 1931 г.; Маркс, Ленін і Плеханаў аб народніцтве і «Народнай волі» М. 1931 г.).

На аснове свайго вучэньня аб двух шляхох разьвіцьця капіталізму ў Расіі Ленін ацэньваў Шчэдрына і Некрасава:—яны прадстаўнікі антылібэральнага, сялянскага струменю ў расійскай мастацкай літаратуры.

Забываньне ленінскай тэорыі амэрыканскага і прускага шляхоў разьвіцьця вядзе да б л ы т а н і н ы і с к а ж э н ь н я г і с т о р ы к а-л і т а р а т у р н а й п э р с п э к т ы в ы. Так, П. С. Коган, характарызуючы (у сваіх «Очерках по истории новейшей русской литературы», т. II) літаратурны рух 40—60 гадоў, лічыць, што нават ня варта вылучаць тагачасную асьвечаную частку буржуазіі ў асобную групу і што правільней было-б разьбіць усё мысьлячае грамадзтва на дзе групы—дваранскую і недваранскую. П. С. Коган адносіць

Ганчарова да недваранскай часткі літаратуры, але-ж у рашучых баёх эпохі Ганчароў стаяў на адным баку барыкады з дваранінам Тургеневым, а ніяк не з Чарнышэўскім, Рашэтнікавым, Усьпенскім, г. зн. у радзе прыхільнікаў прускага шляху разьвіцьця, а не амэрыканскага, як тыя. Вось другі прыклад, яшчэ больш выразны і навучальны. Дасьледчыкі творчасьці Некрасава ўлавілі буржуазны характар грамадзкіх ідэалаў паэта, але ўсе яны забылі пра два тыпы буржуазнасьці. Проста такі катастрафічна наблытаў у гэтых адносінах А. Н. Войталоўскі. У яго «Истории русской литературы XIX и XX в. в.» ч. I, ёсьць аб ідэале Некрасава наступная шчырасьць: «на зямлі, ачышчанай ад дваранскіх памесьцяў, становяцца моцныя хутары з гумнамі, хлявамі і сьвірнамі спраўных гаспадарных мужыкоў. Мешаніна талстоўскай утопіі са стальшінскай практыкай». Вывад, жах, пагаджае непагаджальнае паколькі «хутарскі ідэал Некрасава патрабаваў ачысткі зямлі ад дваранскіх памесьцяў, г. зн., што паэт марыў аб рэвалюцыйным шляху аграрнага разьвіцьця, аб тым шляху які Ленін потым назваў амэрыканскім, а стальшінская практыка была спробай зацьвердзіць прускі шлях разьвіцьця рускага аграрнага капіталізму. Да абсурднага зьмешваньня праграмы сялянскай рэвалюцыі з ажыцьцяўленьнем буржуазна-памешчыцкай рэформы Вайталоўскага не дапусьціла-б ленінскае разьмежаваньне прускага і амэрыканскага шляхоў буржуазнага разьвіцьця.

Ігнаруе ленінскае вучэньне аб двух шляхох капіталістычнага разьвіцьця Расіі і Г. Гарбачоў. У сваёй кнізе «Капитализм и русская литература», высоўваючы палажэньне аб залежнасьці гісторыі рускай літаратуры ад працэсу разьвіцьця капіталізму, ён праводзіць вадападзел рускага літаратурнага руху XIX стагодзьдзя па лініі—за капіталізацыю або супроць,—разглядаючы гісторыка-літаратурны працэс, як паэтычнае выяўленьне змаганьня гістарычна-прагрэсыўных кляс за буржуазную культуру, або супраціўленьне ёй з боку тагачасных рэакцыйных грамадзкіх груп. Такое прадстаўленьне аб гістарычным працэсе, аб расстаноўцы і змаганьні клясавых сіл разыходзіцца з ленінскай канцэпцыяй. Ленін, адзначаючы, што «зубры» фэўдальна-прыгоньніцкай рэакцыі часамі запаўнялі гістарычную авансцэну, здымалі з чаргі і заглушалі на некаторы час сутычку розных тэндэнцый буржуазнага разьвіцьця Расіі, падкрэсьлівае, што ўся гісторыя палітычнага вызваленьня Расіі ёсьць гісторыя змаганьня першай і другой буржуазнай тэндэнцыі» (т. XV, ст. 152). Усё змаганьне грамадзкіх, клясавых сіл на працягу другой паловы XIX і пачатку XX стагодзьдзя Ленін разглядае, як этапы ў змаганьні «двух шляхоў» вырашэньня задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі.

Ігнаруючы змаганьне «двух шляхоў». Гарбачоў ігнаруе і антаганістычныя сацыяльныя сілы, што змагаліся за гэтыя шляхі. Рэвалюцыйныя народнікі аказваюцца ў яго разам з лібэральнымі і буржуазнымі

асьветнікамі. Чарнышэўскага, які, паводле Леніна, змагаўся і з памешчыкамі і з лібэраламі, у эпоху самога праваздзеньня сялянскай рэформы разумеў в такой яснасьцю яе асноўны буржуазны характар, разумеў, «што ўжо тады ў рускім «грамадзтве» і «дзяржаве» панавалі і кіравалі грамадзкія клясы, беспаваротна варожыя працоўнаму і якія бязумоўна прадвызначалі руйнаваньне і эксплёатацыю сялянства»— Чарнышэўскага, ідэолёга сялянскай рэвалюцыі, вялікага сацыяліста-утапіста, вялікага рэвалюцыйнага дэмакрата Гарбачоў ператварае ў звычайнага буржуазнага лібэрала, які ў рамане «Что делать?» прапаведуе «па сутнасьці ўклад мяшчанска-ўмеркаванага дабрабыту», ставіць Чарнышэўскага на адну лінію з Пісаравым, якога характарызуе, як ««эканомнага і практычнага буржуа». Народнікі, паводле Гарбачова абслугоўвалі інтарэсы не сялянства, а буржуазіі і лібэральнага двaранства. Усе падобныя хлусьлівыя вывады Гарбачова абумоўліваюцца яго антыленінскай меншавіцкай устаноўкай.

Салідарызуючыся ў асноўным з Г. Гарбачовым, Г. Лелевіч знаходзіць, што яго схэма («за капіталізацыю» і «супроць») ня зусім поўна адлюстроўвае сваясаблівасьць рускага грамадзкага, а, значыцца, і літаратурнага працэсу, выпускае, што ня толькі змагары за капіталізацыю краіны супроцьстаялі рэакцыі, але і што ўнутры прагрэсыўнага лягеру было сваё генэральнае межаваньне: так, Някрасаў у адносінах грамадзка-палітычнай пляцформы зусім ня быў спадарожнікам Тургенева або Ганчарова (таксама як і больш позьніх Мярэжкоўскага і Бальманта), хоць усе пералічаныя пісьменьнікі і стаялі ў тэй ці іншай форме за капіталізацыю, ён быў рэзка варожы ім. Што-ж рассунула лягер змагароў за капіталізацыю, стварыла сярод іх разыходзіны? Канцэпцыю Г. Гарбачова Г. Лелевіч прабуе у д а к л а д н і ц ь і д а п о ў н і ц ь ленінскім вучэньнем аб «двух шляхох» (ён ставіць сабе ў заслугу, што першы прыстасаваў ленінскае вучэньне ў адносінах да растлумачэньня гісторыі рускай літаратурна-грамадзкай мысьлі), дэфэкт гарбачоўскай схэмы падправіць цьверджаньнем, што «ў рускай літаратуры была не адна лінія генэральнага межаваньня, а дзьве», «ня два варожыя лягеры, а тры—лягер рэакцыі, лягер прадстаўнікоў «прускага» і лягер прадстаўнікоў «амэрыканскага» шляхоў капіталізацыі» (Г. Лелевіч «Поэзия революционных разночинцев», М. 1931, арт. «История русской литературы XIX века в свете ленинского учения о прусском и американском путях развития»). Але, папершае, зусім няправільна зьмяшчаць лягер рэакцыі па-за капіталізмам, бо гэты лягер ня меў нейкага асобнага, свайго самастойнага шляху, а злучаўся, пры сваіх спэцыфічных адрозьненьнях, з лягерам, бараніўшым прускі шлях разьвіцьця капіталізму. Нельга перабольшваць значэньне рэакцыйнай групы, як ня варта і зусім скідаць яе з рахунку, пагарджаць яе існаваньнем (так робіць М. Храпчанка ў артыкуле «Вопросы истории русской литературы и В. М. Фриче», «Литература и искусство», 1931, книга 4), што вядзе да спрашчэньня, схэматызацыі канцэпцыі «двух шляхоў». Трэба ўлічваць складанасьць літаратурнага працэсу, складанасьць пазыцыі асобных пісьменьнікаў,

што стаялі за той ці іншы шлях капіталізму: напрыклад, Дастаеўскі ўваходзіць у кола прыхільнікаў прускага шляху, але ён выяўнік тэй групы дробнай буржуазіі, якая ня ў сілах была вызваліцца ад уплыву фэўдальнай рэакцыі. Правільна прадстаўляе Н. Бельчыкаў (арт. «К вопросу о ленинском наследстве в литературоведении». «Руский язык в советской школе», 1931, кніга 8), што ня дзьве было лініі разьмежаваньня, а адна—гэта лінія змаганьня за «прускі» або «амэрыканскі» шлях разьвіцьця капіталізму тут у гэтым змаганьні ляжала асноўная вядучая супярэчнасьць эпохі, быў адзіны шлях буржуазнага разьвіцьця Расіі.

Па-другое, Лелевіч умудраецца прыпісаць Леніну змаганьне за амэрыканскі шлях, ня як за ўмову найбольш выгоднага, найбольш хуткага перарастаньня буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную, але як за самамэту, як за канчатковую мэту змаганьня расійскага пралетарыяту пад кіраўніцтвам бальшавізму, што, вядома, ня мае нічога агульнага з ленінізмам.

Гісторыку рускай літаратуры і рускай грамадзкай мысьлі трэба выкарыстаць ленінскую гістарычную канцэпцыю не для мэханічнага ўдакладненьня схэмы Гарбачова ці чыёй іншай: гэта канцэпцыя зьяўляецца асноваапалагальнай.

## V

Правадыр—арганізатар пралетарыяту—з выключнай таленавітасьцю ўскрыўшы спружыны клясавых, палітычных адносін эпохі, Ленін вучыў дасьледаваць клясавае змаганьне, як аснову «тэорый і вучэньняў, а не наадварот». Ён вучыў расцэньваць зьявы мастацтва з пункту гледжаньня адзінства тэорыі і практыкі, з пункту гледжаньня непарыўнай сувязі ідэалёгіі з клясавым змаганьнем. Ён падыходзіў да мастацтва, як да аднэй з каштоўнейшых прылад у клясавым змаганьні, увязваў пытаньні мастацтва і літаратуры з задачамі клясавага змаганьня пралетарыяту, падпарадкаваў іх задачам правядзеньня партыйнай палітыкі рабочае клясы. Ён імкнуўся ўстанавіць, якую пазыцыю займае той ці іншы пісьменьнік у клясавым змаганьні, і асмысьліць, ацаніць яго з пункту гледжаньня карысьці і шкоды, якія ён прыносіць рэвалюцыі і рабочай клясе. Ленін цаніў М. Горкага, які «сваім талентам мастака прынёс рабочаму руху... такую вялізарную карысьць». Цэнячы Л. Талстога, як вялізарнейшага мастака чалавецтва, Ленін у той-жа час паказваў на неабходнасьць паралізаваць тую шкоду, якую прыносіць талстоўшчына. Ленінская дасьледчая ўстаноўка ў пытаньнях мастацтва і літаратуры, як і ўсюды, характарызуецца вытрыманай партыйнасьцю, адкрытым клясавым пунктам гледжаньня, пунктам гледжаньня пралетарыяту, пунктам гледжаньня камуністычнай рэвалюцыі.

Літаратуры двуліца свабоднай, а на справе зьвязанай з буржуазіяй, залежнай ад грашовага мяшка, ад подкупу, ад зьместу, Ленін супроцьпаставіў сапраўды свабодную, адкрыта зьвязаную з пралетарыятам літаратуру. Ён разумеў, што толькі пры ўмове разрыву з

эксплёататарамі і пераходу на пункт гледжаньня пралетарыяту мастацтва сапраўды зможа стаць свабодным, знойдзе найбольшы прастор для свайго разьвіцьця, дасягне такіх вяршынь да якіх ніколі не даходзіла эксплёататарскае мастацтва.

У артыкуле «Партийная организация и партийная литература» (1905) Ленін намячае палітыку ў адносінах да літаратуры: «сацыялістычны пралетарыят,—гаворыць ён,—павінен высунуць прынцып партыйнай літаратуры». Гэта палажэньне азначае: прыстасоўна да пісьменьніка—патрабаваньне ўсьвядоміць клясавыя інтарэсы сваёй творчасьці, прыстасоўна да літаратурнага руху—патрабаваньне арганізацыі яго пад кіраўніцтвам партыі. «Для сацыялістычнага пралетарыяту літаратурная справа ня можа быць прыладай нажывы асоб або груп, яна ня можа быць наогул індывідуальнай справай, незалежнай ад агульнай пралетарскай справы. Прэч літаратараў беспартыйных—гаворыць Ленін.—Прэч літаратараў звышчалавекаў» «Літаратурная справа павінна стаць часткай агульна-пралетарскай справы, «калясом і шрубкай» адзінага вялікага сацыял-дэмакратычнага мэханізму, які прыводзіцца ў рух усім сьвядомым авангардам усёй рабочай клясы. Літаратурная справа павінна стаць састаўной часткай арганізаванай, плянамернай, аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыйнай работы». У 1920 г. у праекце рэзалюцыі для зьезду пралеткульту Ленін пісаў: «У савецкай рабоча-сялянскай рэспубліцы ўся пастаноўка справы асьветы як ў палітыка-асьветнай галіне наогул, так і спэцыяльна ў галіне мастацтва, павінна быць прасякнута духам клясавага змаганьня пралетарыяту за пасьпяховае ажыцьцяўленьне мэт яго дыктатуры, г. зн. за зьвяржэньне буржуазіі, за зьнішчэньне клас, за зьнішчэньне ўсякай эксплёатацыі чалавека, чалавекам».

## VI

Шэсьць артыкулаў Леніна аб Л. Талстым прадстаўляюць непераўзышаны ўзор дастасаваньня дыялектычнага мэтаду да літаратурнага матэрыялу. Яны ня раз ужо былі скарыстаны для супастаўленьня, праўдзівей—супроцьстаўленьня дзьвёх мэтадалёгій—ленінскай і плеханаўскай. Сапраўды, розьніца паміж імі выходзіць істотнай.

І Плеханаў і Ленін адзначаюць супярэчлівасьць поглядаў Толстога, але ў чым яны яе мяркуюць і як тлумачаць? Дваістасьць вучэньня Талстога Плеханаў зводзіць да супроцьстаўленьня «вечнага—часоваму», «духу—целу», «унутранога—вонкаваму», «сьвядомасьці—быцьцю» і тлумачыць супярэчлівасьць Талстога мэтафізычнасьцю яго мысьленьня, «унутраной прыродай» асобы Толстога.

Карэнны пераварот, які адбыўся з Талстым у пачатку 80-х гадоў, заключаецца, паводле Плеханава, у тым, што Талстой—хрысьціянін перамог над Талстым—паганцам. Асноўная супярэчнасьць Талстога—гэта супярэчнасьць паміж паганствам вялікага мастака, яго вялізарным паганскім замілаваньнем да жыцьця ва ўсіх яго здаровых праяўленьнях і хрысьціянствам, хрысьціянска-аскэтычным адмаўленьнем жыцьця рэлігійнага прапаведніка, прычым і той і другі талстоўскі

прынцып—паганскі і хрысьціянскі—аб'ектыўна выражаюць у Плеханава адну і тую-ж клясавую сутнасьць. Талстой быў, паводле яго характарыстыкі, «мастацкім бытапісьменьнікам вышэйшага стану», на сялянства глядзеў ён «зусім бязудзельна», ня змог ён і пасьля «карэннага перавароту» 80-х гадоў «перайсьці з пункту гледжаньня эксплёататараў, на пункт гледжаньня эксплёатаваных», моцны ўплыў сацыялізму, зьмяняючы часамі яго аргумантацыю, «ня мог ні на волас зьмяніць яго сьветапогляд». Плеханаў рэзка адкідае Талстога-хрысьціяніна, Талстога-мысьліцеля і прапаведніка і прымае Талстога-паганца, Талстога-мастака, падзяляючы ўсю талстоўскую дзейнасьць на дзьве рознацэнныя часткі.

Разглядаючы супярэчнасьці ў поглядах і творах Талстога толькі як выяўленьне яго асабістага ўнутранага канфлікту, Плеханаў у сваім іманэнтным аналізе ад супярэчлівых умоў гістарычнага змаганьня кляс, як асновы тэорый і вучэньняў. Ён спрашчае ўсю супярэчлівую складанасьць Талстога, як мастака і мысьліцеля (у яго «Талстой—барын да канца пазногцяў, нават там, дзе ён здаецца рэвалюцыянэрам»). Ён становіцца ў тупік перад задачай ускрыць сутнасьць талстоўшчыны ў яе рэальна-гістарычным, клясавым зьмесьце.

Калі Плеханаў выбірае абстрактна-лёгічны і біапсыхалёгічны падыход да Талстога, дык Ленін дае глыбока дыялектычны, канкрэтна-гістарычны і разам з тым канкрэтна-палітычны, да канца партыйны аналіз супярэчнасьцяй мастацкай творчасьці Талстога і яго філёзофіі. Ленін разглядае творчасьць Талстога, як адзінства процілегласьцяй, аналізуе яе з пункту гледжаньня характару рускай рэвалюцыі і яе рухаючых сіл, падыходзіць да Талстога як публіцыст-арганізатар рэвалюцыйнага пралетарскага руху, высьвятляе аблічча пісьменьніка з пункту гледжаньня палітыкі рабочай клясы, з пункту гледжаньня арганізацыі камуністычнага жыцьця, выяўленьня элемэнтаў цяперашняга і будучага. Талстой у Леніна, з аднаго боку, геніяльны мастак і крытык памешчыцка-капіталістычнага грамадзтва, а з другога—памешчык юродзтвуючы ва хрысьце, інтэлігенцкі хлюпік, які прапаведуе «непраціўленьне злу» гвалтам. З аднаго боку, самы цьвярозы рэалізм, зрываньне ўсіх і ўсялякіх масак, выкрыцьцё сацыяльнай хлусьні і фальшы, з другога—прапаведзь аднэй з самых агідных рэчаў на сьвеце—рэлігіі, культываваньне ўтончанай і таму асабліва брыдотнай папоўшчыны.

Ленін асьвятляе сацыяльна-гістарычны генэзіс творчасьці і вучэньня Талстога, грамацвае іх клясавыя карэньні з улікам усёй канкрэтнай гістарычнай сытуацыі, цэнтральных супярэчнасьцяй эпохі, дынамікі гістарычнага працэсу. «Супярэчнасьці ў поглядах Талстога,— гаворыць ён,—не супярэчнасьці толькі яго асабістай мысьлі, а адлюстраваньне тых у вышэйшай ступені складаных, супярэчлівых умоў, сацыяльных уплываў, гістарычных традыцый, якія вызначалі псыхолё-

гію кляс і розных пластоў рускага грамадзтва ў парэформенную, але дарэвалюцыйную эпоху». За другую палову XIX стагодзьдзя абазначыўся «перавал рускай гісторыі». Крушэньне фэўдальна-прыгоньніцкага ўкладу пад напорам капіталізму адлюстравалася, паводле Леніна, у творах Талстога-мастака, у поглядах Талстога-мысьліцеля.

Для яго дыялектыка разьвіцьця Талстога заключаецца ў пераходзе Талстога з пункту гледжаньня аднэй клясы—вышэйшага памешчыцкага магнацтва—на пункт гледжаньня другой—патрыярхальнага сялянства: «Вострая ломка ўсіх старых падпор вясковай Расіі абвастрыла яго ўвагу, паглыбіла яго зацікаўленасьці да таго, што адбываецца вакол яго, прывяла да пералому ўсяго яго сьветасузіраньня. Па нараджэньні і выхаваньні Талстой належаў да вышэйшых памешчыцкіх магнатаў у Расіі—ён парваў з усімі прывычнымі поглядамі гэтага асяродзьдзя і ў сваіх апошніх творах накаліўся з гарачай крытыкай на ўсе сучасныя дзяржаўныя, царкоўныя, грамадзкія, эканамічныя парадкі, заснаваныя на падняволеньні мас, на ўбостве іх, на руйнаваньні сялян і дробных гаспадароў наогул, на гвалце, і двулічнасьці».

«Талстой стаіць на пункце гледжаньня патрыярхальнага, наіўнага селяніна, Толстой пераносіць яго псыхалёгію ў сваю крытыку, у сваё вучэньне».

Калі Плеханаў у сваім артыкуле «Карл Маркс і Лев Толстой» прымярае погляды Талстога «ідэаліста і чыстакроўнага мэтафізыка па прыёмах мысьлі» да сьветасузіраньня К. Маркса, да дыялектычнага матэрыялізму,—ці падыходзяць да яго ці не—і ня ідзе далей такога супастаўленьня, то Ленін прыстасоўвае мэтад Маркса ня так абстрактна і фармальна, а канкрэтна-гістарычна: «супярэчнасьці ў поглядах Талстога,—піша Ленін,—трэба ацэньваць ня з пункту гледжаньня сучаснага рабочага руху і сучаснага сацыялізму (такая ацэнка, зразумела, неабходна, але яна невыстарчальная), а з пункту гледжаньня таго пратэсту супроць насоўваньня капіталізму, руйнаваньня і абезьзямеленьня мас, які павінен быў быць пароджан патрыярхальнай рускай вёскай».

Для Леніна Талстой—мысьліцель, «які з вялізарнай сілай, упэўненасьцю, шчырасьцю паставіў цэлы рад пытаньняў, што датычаць асноўных рыс сучаснага палітычнага і грамадзкага ладу». У сваіх пісаньнях ён адлюстраваў сялянскае «імкненьне зьмесьці да рэшты казённую царкву, і памешчыкаў, і памешчыцкі ўрад, зьнішчыць усе старыя формы і распарадкі землеўладаньня». «Талстой адлюстраваў набалелую нянавісьць, насьпеўшае імкненьне да лепшага, жаданьне пазбавіцца ад мінулага,—і нясьпеласьць лятуценнасьці, палітычнай нявыхаванасьці, рэвалюцыйнай мяккацеласьці». Талстой—«люстра тых супярэчлівых умоў, у якія пастаўлена была гістарычная дзейнасьць сялянства ў нашай рэвалюцыі».

Ленін канкрэтна-гістарычна вырашае і пытаньне аб сацыялістычнасьці вучэньня Талстога. «Вучэньне Талстога,—гаворыць Уладзімер Ільліч,—бязумоўна утапічнае і сваім зьместам рэакцыйнае», але гэта не перашкаджае яму быць сацыялістычным, не пазбаўляе яго «крытычных элемэнтаў, здольных дастаўляць каштоўны матэрыял для асьветы перадавых кляс». Гэта—фэўдальны сацыялізм, адпаведны ідэалёгіі кляс, якім ідзе на зьмену буржуазія, у адрозьненьне ад сацыялізму пралетарскага, які выражае ідэалёгію клясы, што ідзе на зьмену буржуазіі».

Прыставаўшы аршын марксызму да народніцтва, Плеханаў убачыў, што народніцтва—рэакцыйная утопія. Ленін і тут здолеў разглядзець за рэакцыйнай утопіяй выяўленьне рэвалюцыйнага напору сялянства ў расійскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

Раскрыўшы сацыяльна-гістарычны генэзіс творчасьці і вучэньня Талстога, Ленін ад аналізу супярэчлівай дваістасьці сутнасьці пісьменьніка зварачаецца да яе ацэнкі, да асьвятленьня факту, як фактару, уважвае значэньне Талстога для рэвалюцыі, аб'ектыўную ролю яго ў гісторыі чалавецтва. Прадстаўляючы сваім зьместам дыялектычнае адзінства супярэчлівых тэндэнцый, сумяшчэньня рэакцыйных і крытычных элемэнтаў, літаратурная дзейнасьць Талстога супярэчлівая, дваістая і ў сваім значэньні. Выдатны дыялектык, Ленін дыялектычна фармулюе і значэньне Талстога. «Талстой,—піша Ленін,—сьмешны, як прарок, адкрыўшы новыя рэцэпты выратаваньня чалавецтва... Талстой вялікі, як выяўнік тых ідэй і тых настрояў, якія склаліся ў мільёнаў рускага сялянства пад час наступленьня буржуазнай рэвалюцыі ў Расіі. Талстой арыгінальны, бо злучнасьць яго поглядаў, шкодных, як цэлае, выражае якраз асаблівасьці нашай рэвалюцыі, як сялянскай буржуазнай рэвалюцыі». Талстой адлюстраваў гістарычную ролю сялянства ў нашай рэвалюцыі. Зірнуўшы на Талстога з рэвалюцыйнай пазыцыі, Ленін здолеў паказаць ва ўвесь рост і яго сацыяльна-мастацкую ролю: «Эпоха падрыхтоўкі рэвалюцыі ў аднэй з краін, прыдушаных прыгоньнікамі, выступіла, дзякуючы геніяльнаму асьвятленьню Талстога, як крок наперад у мастацкім разьвіцьці чалавецтва».

## VII

Даволі сабраных ілюстрацый, каб пераканацца, якім магутным пражэктарам зьяўляецца ленінізм і ў літаратуразнаўстве.

Філёзофская дыскусія аб дэборынскай школе высунула неабходнасьць змаганьня з а н о в ы т ы п ф і л ё з о ф а, які ня ідзе з фронту бурнага сацыялістычнага будаўніцтва ў сузіральна-пасыўнае філёзофстваваньне, у мірна-акадэмічны тыл, а цесна зьвязан у сваёй тэорытычнай рабоце з політыкай пралетарыяту, з барацьбой за генэральную лінію партыі, выявіла неабходнасьць павароту да ленінскага разуменьня партыйнасьці філёзофіі. Ці можна забываць, што ў самой

сутнасьці марксызму ляжыць прынцып зьмены таго парадку рэчаў, які ён застае? Вучэньне Леніна зьяўляецца неперавышаным узорам адзінства дзейснай тэорыі матэрыялістычнай дыялектыкі і гістарычнай практыкі. Уся наша эпоха разгортваецца пад знакам ленінізму і таму зусім зразумела, што ўсякая навуковая работа павінна выходзіць у першую чаргу з ленінскіх тэарэтычных і мэтадалёгічных асноў.

## ПА РЭСПУБЛІКАХ САЮЗУ

### БАШКІРСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Да Кастрычніка башкірскай мастацкай літаратуры не існавала. Былі паэты і пісьменьнікі з башкір, але пісалі яны не башкірскаю моваю, а так званым чагайскім дыялектам, якім пісалі пісьменьнікі розных усходніх нацый.

У час валідаўшчыны (1917—1919) фармавалася і ўмацоўвалася контррэвалюцыйная нацыяналістычная мастацкая літаратура на чале з паэтамі Шайх-Задэ, Бабічам, Х. Габітавым, М. Тагіравым, Ф. Суляйманавым і інш. Быў створан гурток моладзі пад назваю «Тулкін».

Раней праявы літаратурнага жыцьця ў Башкірстане былі эпізадычныя. У другой палове XIX стагодзьдзя быў вядомым Ак-Мула, які пісаў супраць мулаў. Пасьля 1905 г., калі зьявілася башкірская нацыяналістычная інтэлігенцыя, пачынаецца зьбіраньне песень і наогул этнаграфічная праца. У гэтай галіне вызначаецца башкір Бабут. Былі папулярныя апавяданьні Суляйманава (на татарскай мове). Сярод валідаўцаў папулярны быў Хабібула Кабісаў. Арганізованая габідаўцамі літаратурная група «Тулкін» (Хваля) была першым літаратурным аб'яднаньнем. Гэта адначасова быў і агітпроп Валідава. Выдадзена два зборнікі паэзіі пад лёзунгам «Башкірыя для башкір». У гэтым зборніку вялося актыўнае змаганьне супроць расійцаў і татар. У зборніках паэзіі Бабіча і Х. Габітава Чырвоная армія называецца «Чырвонаю нечысьцю». Не абышлося і без ганебных выпадаў (Хабібулы Габітава) супроць Леніна, як правадыра сусьветнай рэвалюцыі. Вершы Бабіча «Зялёныя песьні», як сьведчыць сама назва, былі сапраўдны сьцягам ісламізму і зьмяшчалі малітвы, для башкірскага войска. Адпаведныя колы дбалі пра тое, каб падобная творчасьць была «народнымі» песьнямі.

Пасьля пераходу башкірскага войска на бок савецкай улады, у лютым 1919 г., некаторы час ня было савецкіх пісьменьнікаў: усе сілы былі кінуты ў Чырвоную армію і на партыйна-савецкую работу. Але да пачатку 1920 г. ужо выяўляюцца новыя паэты: Юлтыяў, Якабі Пухват (Калімуліж), пазьней Амантаяў, Ушамгулаў. Яны павялі змаганьне супроць нацыяналістаў, супроць рэлігіі, за новае жыцьцё. Але яны запазычалі ад старых дарэвалюцыйных паэтаў за-

старэлую вершаваную форму і лексыку. Разам з тым пранікалі ў іхную творчасьць і розныя варожыя рэвалюцыі ўплывы, але гэтыя новыя пісьменьнікі шчыра служылі рэвалюцыі і ад іх бярэ свой пачатак новая башкірская літаратура—савецкая.

Такім чынам літаратура на башкірскай мове ўзьнікла толькі ў Савецкім Башкірстане. У савецкай башкірскай літаратуры вызначыўся пралетарскі авангард, што загартоўваўся ў змаганьні на два фронты за генэральную лінію партыі: супроць вялікадзяржаўніцтва і мясцовага нацыяналізму.

Досыць маладая башкірская літаратура прайшла некалькі этапаў свайго разьвіцьця: першапачатковае згрупаваньне башкірскіх рэвалюцыйных літаратурных сіл і змаганьне іх супроць буржуазна-нацыяналістычных тэндэнцый пісьменьнікаў-валідаўцаў; далейшае разьвіцьцё башкірскай літаратуры на грунце змаганьня за адбудаваньне народнай гаспадаркі і ў першую чаргу яе сацыялістычнага сэктару; далейшая дыфэрэнцыяцыя башкірскай літаратуры ў рэканструкцыйны час і змаганьне за сацыялістычнае будаўніцтва ў пэрыяд уступленьня краіны ў сацыялізм.

Валідаўская група пісьменьнікаў на савецкім грунце паволі загнівала, захапляючыся містыкаю. У час голаду яна выкарыстоўвала цяжкасьці працоўных мас, нацкоўваючы іх на бальшавікоў і тлумачачы голад, як кару Алаха за грахі башкір-нявернікаў, што перайшлі да бальшавікоў (тут асабліва былі актыўныя В. Мірзанаў, Х. Габітаў, Айдзі).

У пачатку НЭП'у варожыя клясавыя сілы на літаратурным фронце яшчэ больш актывізаваліся, пачалі браць удзел у пэрыядычным друку, намагаючыся выкарыстаць лёзунг адбудовы народнай гаспадаркі ў кірунку адбудовы капіталізму і прыватнай уласнасьці. Рэвалюцыйныя пісьменьнікі заклікалі да адбудовы народнай гаспадаркі, усхваляючы сацыялістычную працу. Але трэба адзначыць, што ад рэволюцыйнай крытыкі нацыяналісты ў той час ня мелі належнага адпору. Праз гэта і наогул праз слабасьць рэвалюцыйных сіл на літаратурным фронце нацыяналістам пашэньціла у канцы 1924 г. арганізаваць башкірскую моладзь у літаратурны гурток. Гэта была спроба ўваскрэсіць даўно памёршую літ-арганізацыю «Тулкін». Гэтая арганізацыя не магла доўга існаваць і, выдаўшы тры нумары рукапіснае часопісі «Кзыл Калям», развалілася. Пасьля распаду нацыяналістычнага гуртка пачалі ўтварацца дробныя гурткі ў сярэдніх школах і па клюбах. Гэты рух даў новыя кадры літаратуры, што пераважна прышлі з вёскі. Тут мы маем такіх пісьменьнікаў, як: В. Валідаў, Р. Нігмаці, І. Зайні, Т. Суляйманаў, Губай Даўлетшын, С. Апшаў і шэраг іншых.

У 1927 г. зроблен пачатак літаратурнай арганізацыі краявога маштабу, якая ў 1928 г. ператварылася ў Башкірстанскую асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў («БАПП»). У гэты час зьяўляюцца новыя пісьменьнікі і паэты з батрацтва, серадняцтва і рабочых,

напрыклад: Кулібаяў, Аблайскі, Таджыдзінаў, Хасанаў Б., Ш. Марат, Бікбоў, Бікбаеў, Х. Даўлетшчына, Зубаірава і інш. Увайшлі ў башкірскую літаратуру і старыя бальшавікі: Афзал Тагіраў (бэлетрыст), Х. Навумаў (крытык), Ш. Шагрэдзінаў і багата іншых.

Ханаф Навумаў гаворыць пра творы Тагірава, як пра творы пралетарскія. Гістарычны твор «Ямэльке Тавэ» (гора Ямелькі) напісаны на аснове гістарычных дакумантаў. Тут паказан удзел башкір і татар, асабліва рабочых, у пугачоўшчыне, а таксама крыніцы самой пугачоўскай рэвалюцыі. Гэта—безьзямельле, палітычнае і эканамічнае нявольніцтва, голад, зьяўленьне «часовага» пралетарыяту, што зімою працуе на заводах, а летам вяртаецца ў вёску. Частка застаецца на заводах зусім. Гэта ўжо першыя кадры сапраўднага пралетарыяту. Тагіраў дае вобразы рабочых: Карбан-Бабай, Ватыр-Мінгаліяў—маюць ужо па дваццаць год сэзоннай заводзкай працы. Паказана эксплёатацыя на заводзе і зародак рабочага руху. Рабочая забастоўка пераходзіць у бунт: башкірскія рабочыя радасна сустракаюць Пугачова.

Апавяданьні Афзалы Тагірава («Этрэк-Элемкэр», напр.)—гэта малюнкі бесчалавечнай эксплёатацыі і клясавага змаганьня рабочых і сялян у час імпэрыялістычнай вайны. Асабліва яскрава адлюстраваны моманты разбурэньня сялянства і яго распластаваньня ў выніку капіталістычнага разьвіцьця. А. Тагіраў стварыў цэлы шэраг вобразаў сэзонных рабочых, што зімою працуюць на заводах, а ўлетку на пана. Працэс пралетарызацыі сялянства ў выніку разьвіцьця капіталізму, роля духавенства, як слуг эксплёататараў рэальныя малюнкі клясавага змаганьня. Афзал Тагіраў піша лёгкаю моваю, сьцісла і пластычна. У Тагірава ёсьць творы пра камсамол і зрухі на вёсцы (новая аповесьць «Хлебная фабрыка»).

Параўноўваючы творчасьць Афзалы Тагірава з творчасьцю татарскага пісьменьніка Г. Ібрагімава, крытык Ханаф Навумаў робіць такія высновы: «Багата тыпаў Ібрагімава рэлігійныя, а тыпы Тагірава—антырэлігійныя. Мастацкія творы Тагірава—гэта зброя антырэлігійнай прапаганды. Гэта асабліва важна таму, што, прыкладна, буржуазная татарская літаратура на 99 проц. пранізана рэлігійнаю ідэалёгіяй».

БАПП за час свайго існаваньня аб'яднала пралетарскіх пісьменьнікаў усіх нацыянальнасьцяй Башкірстану навокал аднаго цэнтру пралетарскага літаратурнага руху. Яна праводзіла змаганьне на два фронты. Па-першае, давялося змагацца супроць дробна-буржуазнага анархічнага выступленьня літаратурнай арганізацыі «Усу», якою кіравалі Г. Хайры і В. Валідаў. «Усу» называла сябе «левым» крылом пралетарскага літаратурнага руху. Практыка іхняй падпольнай работы паказала цалкам процілеглае: яны ішлі супроць генэральнай лініі партыі, супроць партыйнага кіраўніцтва. Паказальна, што Г. Хайры і В. Валідаў і шэраг маладых пісьменьнікаў выступалі супроць старых пісьменьнікаў-бальшавікоў, загартованых у баёх. Ім

быў дадзены належны адпор праўленьня і пераважнай большасьці членаў БАПП.

У 1930 г. БАПП'у давялося мець справу з падпольнаю літаратурнай арганізацыяй «Дгідзігані», якая была прытулкам сынкоў татарскай і башкірскай буржуазіі і мулаў. З контррэвалюцыйнаю мэтаю была створана літгрупа «Дзігран» («Сем зорак» або «Вялікі воз»). Асноўнай мэтай гэтай арганізацыі было працягнуць сваю контррэвалюцыйную літаратурную прадукцыю ў савецкую прэсу, завяваць у ёй манаполію шляхам узаемнага падтрыманьня як у татарскай, так і ў башкірскай прэсе. Апрача таго яны дбалі, каб іхныя драматычныя творы ставіліся ў тэатрах абодвых рэспублік. З 1928 г. яны дасягнулі ў гэтым немалых посьпехаў, бо мелі ўплыў у некаторых часопісах Башкірстану і Татарстану. Яны націскалі на пралетарскіх пісьменьнікаў і як мага не давалі ім магчымасьці друкавацца, тымчасам як самі друкаваліся скрозь без перашкод. Супольным змаганьнем БАПП'у і ТАПП'у пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый абедзьвюх рэспублік «Дгідзіган» быў выкрыты перад працоўнымі масамі і разьбіты.

Башкірская літаратура яшчэ ня мае сваіх цалкам падрыхтованых, з шырокім марксысцкім сьветапоглядам крытыкаў, але ёсьць некалькі імён, што працуюць у гэтай галіне: Ханаф Навумаў, М. Юсупаў, Г. Гузаіраў, Д. Юлтыяў, Г. Шагрэдзінаў і інш. Большасьць з іх— татары. Але гэтыя крытыкі не праводзяць сыстэматычнай літаратурна-крытычнай працы, апрача Гузаірава і Шагрэдзінава. Вось чаму значная колькасьць башкірскіх пісьменьнікаў яшчэ ня мела належнай ацэнкі ад пралетарскай крытыкі.

У асяродзьдзі БАПП'у была пэўная дыфэрэнцыяцыя. Малады паэт, член савету РАПП, Хайры і Батор Валідаў, былі ў літаратуры носьбітамі не пралетарскай ідэалёгіі, утварылі ўпадніцкую плынь з матывамі, самагубства, напрыклад у Б. Валідава, што выяўляла ясенінскі ўплыў (твор «Уфа» накшталт «Масквы кабацкай» Ясеніна). Хайры «уславіўся» парнаграфічнымі матывамі. Да таго-ж яны былі яшчэ носьбітамі трацкісцкіх ідэй, мелі аднадумцаў, што былі аб'яднаны ў групу, якая зьбірала нелегальныя сходы і праводзіла змаганьне супроць кіраўніцтва БАПП'у.

Цяперашняе літаратурнае жыцьцё Башкірстану ўвайшло ў новае рэчышча, вызначанае пастановаю ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка гэтага году.

---

## ХУСАР ІРЫСТОН

Адзіную Асэтыю (Ірыстон) падзяліла на дзьве няроўныя часткі найвышэйшая сьцяна Каўказу... У пляне другое пяцігодкі намечана пабудова перавальнай дарогі з 5-ці кілёмэтравым тунэлем і электрычнай чыгункаю, якая ня толькі злучыць Ірыстон, але будзе мець і

усесаюзнае значэньне, а ў некаторым сэнсе і сусьветнае. Цяпер-жа невялікая іронская людпасьць мае два абласных цэнтры: Цыгот Ірыстон (Паўночная Асэтыя—РСФСР) і Хусар Ірыстон (Паўднёвая Асэтыя—ЗСФСР). Культурны фронт Паўднёвага Ірыстону за чатыры гады першае пяцігодкі мае свае перамогі і дасягненьні.

Іронскаю школаю ахоплена 80 проц. дзяцей. Пераможнымі крокамі ідзе ліквідацыя няпісьменнасьці. Першыя чатыры групы цалкам працуюць на роднай мове, а старэйшыя групы сямігодкі ў бліжэйшыя два гады таксама пяройдуць на сваю родную мову. У мінулым навучальным годзе ў горадзе Смаліпіры адчынены мэдычны, музычны і індустрыяльны тэхнікумы, у якіх выкладаньне праводзіцца на іронскай мове. У курортнай мясцовасьці Суар адчынен вялікі тэхнікум сельскай гаспадаркі; існуюць вячэрні рабочы унівэрсытэт і рабочая студыя малярства. З вясны 1932 г. пачаў працаваць іронскі пэдагагічны інстытут, у якім большасьць лекцый выкладаецца на іронскай мове.

Вялікую працу праводзіць па дасьледваньню прыродных багацьцяў краіны, яе мінулага й сучаснага Паўднёвы Навукова-дасьледчы інстытут краязнаўства. Кожнае лета на тэрыторыі Ірыстону працуюць некалькі экспэдыцый усесаюзнае акадэміі навук (Ленінград) і комакадэміі (Масква), у якіх актыўна ўдзельнічаюць члены інстытуту краязнаўства. З сэкцый інстытуту найбольшыя дасягненьні мае тэрміналёгічная. Яна сабрала звыш пяці тысяч новых іронскіх слоў. Літаратурная сэкцыя выпусьціла ў сьвет тры томы нартоўскага эпосу і цяпер перайшла да старое іронскае пісьменнасьці: былі прачытаны даклады Александра Цібіці пра першага паэта Ірыстону—Мамсураці і пра народнага паэта—Косту Хетагаці.

Наогул, савецкая грамадзкасьць Ірыстону выказвае надзвычайную зацікаўленасьць літаратураю. Гэта асабліва выявілася пасьля першага зьезду пралетарскіх пісьменьнікаў абудвых Ірыстонаў (10—14 кастрычніка 1930 г.), які адбываўся ў цэнтры Паўдня ў г. Сталініры. У выніку гэтага, ужо ў сярэдзіне 1931 году зьявілася патрэба у спэцыяльнай газэце, што і зафіксаваў № 1 дэкаднае газэты «Бальшавікон Айвад» («Бальшавіцкае мастацтва»). Газэта стала баявою, намагаючыся трымацца на «напастоўскіх пазыцыях». Яна абвясьціла жорсткую барацьбу нацыянал-патрыётызму старога пакаленьня. У змаганьні узмужала камсамольская літаратурная моладзь. Першы зборнік паэзіі, які вышаў улетку 1931 году «Рэзен» («Расьцем»), у якім друкаваліся паэты, што яшчэ ня мелі сваіх зборнікаў, папаў пад жорсткі абстрэл крытыкі літгурткоў і шырокае дыскусыі, арганізаванае АПП.

З маладых паэтаў выявілі сябе: Казбэк Кароці—выхаванец дзіцячага дому, рабочы-друкар, у апошні час загадчык дзяржаўнага выдавецтва—палкі энтузыяст, першы з ударнікаў ад станка, закліканых у літаратуру; Харытон Пліці, які пачаў з асабістае лірыкі і пад уплывам тварыскага атачэньня вышаў на шлях тэматыкі гра-

мадзянскае вайны і сацыялістычнага будаўніцтва; цэлы шэраг іншых паэтаў, празаікаў і крытыкаў, як: Александр Пліці, Лекто Цібілці, Іло Казайці, Коста Сізнаці і інш.

Літаратурная дыскусія, распачатая «Бальшавікон Айвад» уцягнула абодвы органы абкомаў партыі і камсамолу і ўсе насьценгазэты прадпрыемстваў, школ у самым Ірыстоне, і распаўсюдзіліся на прэсу Тыфлісу, Растову і Масквы.

З лета 1931 году ў цэнтрах Ірыстону адбылося шмат многалюдных дыскусый, на якіх абмяркованы такія пытаньні: «Куды ідзе іронская літаратура?»; «Творчасьць Косты Фарніона»; «Паэзія Агубэчы і Балаяў—Фірта»; «Падручнікі па мове і літаратуры»; «зборнік» Рэзэм»; «Іронскі тэатр і яго рэпэртуар», «Іронскае выяўленчае мастацтва». Гэта дыспуты, якія адбываліся толькі ў г. Сталініры.

Апрача літ. газэты, у г. Сталініры выходзяць дзьве штомесячныя часопісі: літаратурна-крытычная «Фідзіўаг» («Весьнік»: і гумарыстычная «Кавкундар» («Кракадыл»). Газэта і абедзьве часопісі друкуюцца ў г. Сталініры, падпісчыкі іх раскіданы па ўсім СССР, дзе навучаюцца і дзе працуюць іроны (асэтыны). У г. Арджанікідзэ ня друкуецца ніводнае часопісі.

У мінулым годзе іронская літаратура мела вялікія ўтраты: у жніўні 1931 году ад тыфусу памёр бальшавік Алімбэг Аліці—арганізатар зьезду пісьменьнікаў і самааддданы вартавы бальшавіцкай лініі савецкай літаратуры Ірыстону, які ў свой час энэргічна зьнішчаў карэньні Татулаўшчыны ў сталінірскай арганізацыі. У Кастрычніку г. Арджанікідзэ пахаваў Цомака Гадзіаці—таленавітага паэта, празаіка, драматурга, крытыка і гісторыка іронскага пісьменства. А ў пачатку 1932 году памёр ад сухотаў юнак Місост Комбэрдзіаці, які здаў у друк першую кніжку свае паэзіі «Цін» («Радасьць»). Вышла яна праз тыдзень пасьля сьмерці паэта. АПП у Сталініры арганізаваў у «Галуану культуры» жалобныя вечары памяці кожнага з выбыўшых з радоў літаратурнага фронту.

З восені 1931 году ў новым будынку «Галуану культуры» (цытадэль культуры) у г. Сталініры распачаў працу «Першы дзяржаўны Асэтынскі тэатр». За сэзон 1931—1932 году ішлі такія п'есы: Созрыко Кулайці—«Сяло рушыла» (пра калгасы); Агубэчыр Балаяў Фірт—«Чэрмен» (правадыр вясковае беднаты супроць дзедзічаў у канцы 18 стагодзьдзя); Ёгох—«Ханзэрыфа» (першыя гады савецкая улады ў ауле); Чэрмен Бэджызаці—«Хто каго»? (клясавае змаганьне ў сучаснай іронскай вёсцы); Кіршон (пераклад А. Цібілці)—«Хлеб» і яшчэ дзьве п'есы (пераклады з грузінскае і з расійскае).

Драмгурткі існуюць пры кожнай вялікай вясковай школе. На сцэне дзяржаўнага тэатру выступалі са сваімі пастаноўкамі і вучнёускія драматургі іронскіх і грузінскіх школ. Сур'ёзным недахопам зьяўляецца поўная адсутнасьць у г. Сталініры гастрольных тэатраў:

гораду не наведаў ні адзін Тыфліскі тэатр, а між іншага 5 тысяч насельніцтва гаворыць на грузінскай мове.

З 14-сакавіка па 26 красавіка ў г. Сталініры была адчынена першая ў Хусар Ірыстоні «Выстаўка іронскага малярства, графікі і скульптуры», якая мела звыш 500 экспанатаў. Уся выстаўка была падзелена на тры асноўных тэмы: стары побыт Ірыстону, грамадзянская вайна і сацыялістычнае будаўніцтва. У першым аддзеле былі выстаўлены палотны першага іронскага маляра і народнага паэта Косты Хетагаці і алейныя фарбы, акварэль і зарысоўкі Мухарбэка Туганці. Найлепшыя экспанаты гэтага аддзелу: горскі пэйзаж і партрэт старое Іронікі—Косты Хетагаці, цэлы рад акварэльных і алейных работ Мухарбэка Туганці.

Аддзел грамадзянскае вайны створаны па заказу Паўночна-Асэтынскага абкому партыі двум мастакам: Мухарабэку Туганці і Аслан-Гірэю-Хохці, якія далі па 10 малюнкаў і некалькі партрэтаў актыўных змагароў Ірыстону за савецкую ўладу.

Трэці аддзел мае вялікія палотны Мухарбэка Туганці. Цікавымі зьяўляюцца працы Аслан-Гірэя Хахоўці, С. Кусты, Раісы Хасіці, Сосіці, Савэлія Урумці, Ладзі Агнайці. Некаторыя з іх самавучкі ў мінулым, цяпер камандыраваны ў мастацкія школы.

Уплыў першае выстаўкі на культурны ўзровень працоўных быў надзвычайна паказальны. Рабочая студыя малярства адразу папоўнілася значнаю колькасьцю студыйцаў. Узрос попыт і на прадукцыю мастакоў—партрэты, пэйзажы і інш.

У Сталініры ад усесаюзных цэнтраў не адстае толькі кіно. Навейшыя фільмы Масквы, Адэсы, Тыфлісу, Кіева трапляюць у Хусар Ірыстон з невялікім спазьненьнем. У гэтым годзе будуецца вялікі кіно-тэатр. На пэрыфэрыі пашыраецца сетка кіно-перасовак. Ёсьць весткі, што ў скорым часе Тыфліс выпускае фільм з жыцьця Хусар Ірыстону. Гэта будзе першы фільм пра Ірыстон.

## ЗА МЕЖАМІ

### З ФРОНТУ ПРАЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ЛАТВІІ

Найбольшая роля ў пралетарскай літаратуры Латвіі за апошняе дзесяцігодзьдзе належыць Лірандсу Ляйцэнсу. Абумоўліваецца гэта тым, што Ляйцэнс самы пасьлядоўны з латвійскіх пісьменьнікаў. Нязьменна падтрымліваючы цесную сувязь і супрацоўніцтва з рэвалюцыйным пралетарыятам і яго арганізацыямі, ён сьвядома і бэз эстэтычнага арыстакратызму падпарадквае сваю літаратурную творчасьць надзённым вымаганьнем моманту рэвалюцыйнага змаганьня. Да гэтага трэба дадаць, што Ляйцэнс у сэнсе, як-бы сказаць, тэхнікі літаратурнае працы—выключнае зьявішча ў латвійскай літаратуры, што стаіць па-замежамі дасягненьняў латвійскіх буржуазных пісьменьнікаў, для якіх стыль і канструкцыя твору зьяўляецца мэтаю.

Лірандс Ляйцэнс—паэт, празаік, драматург, публіцыст, крытык.

Яго рэчы, прызначаныя для рабочае сцэны, пабудованы ў пляне агітацыйных твораў на актуальныя тэмы клясавага змаганьня, што выкрываюць перад глядачом з рэвалюцыйных пазыцый гаспадарчыя і палітычныя стасункі капіталістычнага грамадзтва, іхнюю ўзаемную сувязь.

Вершы пісьменьніка, маючы традыцыйны памер, даюць выразна акрэсьленыя вобразы. Празаічныя творы пабудованы надзвычайна проста, бяз лірыкі і патасу, з выразнаю ніткаю апавядальнасьці, моцна зьвязанаю з асноўнаю ідэяю твору.

Некаторыя творы Ляйцэнса вядомы савецкаму чытачу. На украінскай мове вышлі ягоныя кніжкі—«На Альжірскай каторзі» (Лім, Х—1932 г., ст. 40), «Батьковщина» (Лім, Х—1932 г., ст. 32); на расійскай мове—«Камнем в окно» (выдавецтва «Прибой», Л—1927 г., ст. 116).

Цяпер у «Гихл» на расійскай мове выходзіць зборнік твораў Ляйцэнса. У прадмове да гэтага выданьня больш менш дакладна ахарактэрызаваны яго творы і творчы мэтад.

У 1928 годзе Ляйцэнс арганізаваў часопісь „Kreisa Fronte“ (Левы фронт), прысьвечаны літаратуры, крытыцы і іншым пытаньням пралетарскай культуры.

„Kreisa Fronte“—першая часопіс рэвалюцыйнае літаратуры пасьляваеннай Латвіі—пачала сваё існаваньне раней падобных выданьняў у іншых краінах, скажам, у Нямеччыне і інш.

З аднаго боку гэта была адважная і рызыкоўная справа, якая давала надзею на посьпех толькі дзякуючы таму, што ў рабочых прафэсыйных і культурных аб'яднаньнях была праведзена пры актыўным удзеле Ляйцэнса і пакойнага рэвалюцыйнага паэта Паэгле вялікая выхавальная работа, і што ў шэрагі рэвалюцыйных змагароў уступіла маладое пакаленьне, якое намагалася выявіць сябе ў літаратуры.

З другога боку—толькі з заснаваньнем» „Kreisa Fronte" зьявілася мажлівасьць аб'яднаць гэтыя маладыя, з рабочых колаў літаратурныя кадры і мець перадумовы для далейшага іх разьвіцьця. Часопіс не заўсёды мела мажлівасьць выходзіць рэгулярна, бо яна цярпела ня толькі ад матарыяльнай недастачы, але і ад таго, што рэдактара—Ляйцэнса часта саджалі за краты. Аднак, не зважаючы на жорсткія рэпрэсіі, буржуазіі не пашэньціла зьнішчыць часопісь, альбо прыпыніць разгортваньне латвійскай пралетарскай літаратуры.

Праўда, сьнежаньскі нумар часопісі за 1930 год быў канфіскаваны і надалей часопісь прыпыніла сваё існаваньне. Але ў 1931 годзе замест « Kreisa Fronte » выходзіць „Tribune" («Трыбуна»).

Кадры маладых пісьменьнікаў, якія згуртаваны вакол „Tribune" «досыць значныя. У паэзіі мы маем такія імёны як: Андрэй Балодзіс, Юл. Іе, І. Сэвэрс, К. Лупандс, В. Бупольс і шэраг іншых З нарысамі, нататкамі, тэарэтычнымі і крытычнымі артыкуламі па пытаньнях літаратуры, мастацтва выступаюць: І. Сэвэрс, Е. Каліс, Юл. Іе, Е. Судманс, К. Прыватс, О. Янкус, Аліса Сікманс, Е. Фрос; А. Екабсон. і інш. Пакуль што яшчэ ня ўсе ўладаюць сваім арыгінальным стылем, але пэўная частка твораў дае мажлівасьць гаварыць, якія канкрэтныя пытаньні і якая тэматыка прыцягвае маладога аўтара.

З упэўненасьцю можна гаварыць пра разьвіцьцё часопісі ў цэлым, а, значыць, і пра разьвіцьцё ўсяго аўтарскага калектыву.

Сярод маладых аўтараў няма габінэтных пісьменьнікаў, і кожны з іх займае сваё месца на пазыцыях клясавага змаганьня, аддаючы ўсе сілы на выкананьне таксама і ў сваёй літаратурнай дзейнасьці задач, якія паўстаюць у змаганьні рабочай клясы.

## МАНАПАЛІЗАЦЫЯ КНІЖНАЕ СПРАВЫ Ў ФРАНЦЫІ

Манапалістычная прагнасьць кніжнай фірмы „Hachette" не дае спакою францускім кнігарням. Апрача шэрагу з гэтае прычыны прамоў на апошнім зьезьдзе кнігароў і выдаўцоў, орган францускіх кнігароў „Libraire" публікуе новазнойдзены дакумант, які зьяўляецца абвінавальным актам супроць « Maison Hachette".

Выяўляецца, што кампанія супраць гэтага манапаліста распачалася яшчэ ў 1883 годзе, зноў была ўзьнята ў 1890 годзе, калі Морыс Барэс, вядомы францускі пісьменьнік, сказаў шыкоўную прамову ў палаце дэпутатаў пра манаполію фірмы Ашэт у бібліятэках на чыгунках. Падаем некалькі выпрымак з гэтагае прамовы.

«Справа ідзе пра манаполію, якую мае фірма Ашэт на продаж кніжок і часопісяй па ўсіх вакзалах. Фірма Ашэт пакідае за сабою права прадаваць толькі тыя кніжкі і часопісі, якія захоча. Вось гэта і ёсьць сапраўдная цэнзура.

Кніжкі, якія забараняе фірма Ашэт—гэта, на яе думку, «парнаграфічныя, або сацыяльна-шкодныя, якія парушаюць сацыяльны лад. Сюды трапілі творы: Заля, Мапасана, Кацюля Мандэса... А ў тым выпадку, калі кніжка добра ідзе, фірма здымае з яе забарону і сама пачынае яе распрадаваць. Дык вось, маральная цнатлівасьць яя вытрымлівае перад вялікім прыбыткам».

Нажаль прыходзіцца азначыць, што аўтар актыкулу францускае часопісі „Librairie» устрымаўся і не падаў тых месц з прамовы Барэса, у якіх той спыняецца на забароне «сацыяльна-шкодных твораў». Аднак самае пытаньне манаполії і цэнзуры, якія аддадзены ў рукі аднэй фірмы, Барэс лічыць палітычным, паколькі пад пагрозу становіцца цэлая кнігарская, выдавецкая, чытачоўская і пісьменьніцкая справа.

---

Адказны рэдактар П. Галавач.

*Рэдкалегія:* **Бацюшкаў, Бронштэйн, Галавач, Гальперын, Жылуновіч, Залатухін, Клімковіч, Колас, Крапіва, Лынькоў, Платун, Чорны.**

*Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# ЗЬМЕСТ



---

